Алесь Клышка
Інак Мікалай

# Жыровіцкая пастараль

**Мінск**
**“Смэлтак”**
**2012**



**Алесь Клышка**

Нарадзіўся ў Мінску ў 1948 годзе. Скончыў Беларускі палітэхнічны інстыту. Працаваў на МАЗе, потым навуковым супрацоўнікам у БНТУ і НДІ “Фізіка-хімічных праблем” (БДУ). Кандыдат тэхнічны навук. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Мінску.

Напісаў і выдаў кнігі “Ад каранёў да кроны” (два выданні) (Мн., 2002, 2004), “Далёкае — блізкае” (Мн., 2004), “Абярог” (Мн., 2008), “Мінская зямля” (Мн., 2010), “Даравальная нядзеля”(Мн., 2010), “Минская земля. Семейный архив” (Мн., 2011).

У сааўтарстве з інакам Мікалаем (Алегам Бембелем) выдаў кнігі “Жыровіцкія камяні” (Мн., 2006), “Шлях да Жыровічаў” (Мн., 2007). Уклаў гістарычную кнігу пра Мінск “Счастье моё… Дневники Иосифа Голубева 1916-1923” (Мн., 2002).



**Інак Мікалай**
**(Алег Бембель, Зьніч)**

Нарадзіўся ў Мінску ў 1939 годзе. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе фартап’яна і аспірантуру Інстытута філасофіі і права Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі па спецыяльнасці гісторыя філасофіі. Настаўнічаў, быў навуковым супрацоўнікам ІФП НАН Беларусі і Нацыянальнага навукова-асветнага Цэнтра імя Ф.Скарыны. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. З 1996 года — насельнік Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. Рэдактар багаслоўска-літаратурна-мастацкага лістка “Жыровіцкая абіцель”.

Напісаў і выдаў кнігі “Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс” (Лондан, 1986), “Рэха малітвы” (Нью-Ёрк, 1988), “Саната ростані” (Беласток, 1988), “Малітвы за Беларусь” (Мн., 1989), “Мне не цябе шкада цябе, а тваю маці…” (Слонім, 2009), “Між тэктанічных пліт…” (Слонім, 2011), “Крэсіва” (Слонім, 2012).

У сааўтарстве з Алесем Клышкам выдаў кнігі “Жыровіцкія камяні” (Мн., 2006), “Шлях да Жыровічаў” (Мн., 2007).

# З ЖЫРОВІЧАЎ ПАЧЫНАЕЦЦА БЕЛАРУСЬ

Добрую і неабходную справу распачалі яшчэ пяць гадоў таму беларускія літаратары інак Мікалай (Алег Бембель, Зьніч) і Алесь Клышка, якія выдалі дзве кнігі свайго сумоўя. Першая — “Жыровіцкія камяні” (Мн., Беллітфонд, 2006), другая — “Шлях да Жыровічаў” (Мн., Выдавец В.Хурсік, 2007). І вось праз такі доўгі шлях да чытачоў прыйшла іх трэцяя кніга —“Жыровіцкая пастараль”.

Трэцяя кніга значна адрозніваецца ад ранейшых, хаця назва выдання неяк суцяшае, супакойвае і шчасlівіць. Калі ў першых дзвюх аўтары сумоўя разважалі больш пра беларускія праблемы: стан роднай мовы, лёс Беларусі ў XXI стагоддзі, месца Беларусі ў духоўнай прасторы планеты, духоўнае адраджэнне Бацькаўшчыны. То новая кніга далёка ад сапраўднай ідыліі нашага складанага, няпростага жыцця, пра якое разважаюць інак Мікалай і Алесь Клышка.

Іх тэмы сумоўя пайшлі далёка за межы Радзімы. Гэта і палітыка, і сусветныя катаклізмы, і ўзаемаадносіны розных канфесій, рэлігійных дзеячаў і вучоных, дзяцей і бацькоў, а таксама лёс простага люду. З многімі разважаннямі шаноўных аўтараў кнігі можна пагадзіцца, а з некаторымі іх суб’ектыўнымі думкамі — не. Радуе, што дыяпазон іх разважанняў вялікі, дзе скразной лініяй праз усё сумоўе праходзяць духоўныя і агульначалавечыя каштоўнасці.

Вядома ж, не былі б інак Мікалай і Алесь Клышка паэтамі, каб у такім складаным, шырокім сумоўі не гняздзілася б іх паэзія. Вершы інака Мікалая дапаўняюць гутарку, нават адказваюць на некаторыя пытанні, нясуць у сабе філасофскі сэнс. Іх лірычныя героі спрабуюць у сэрцы сваім крануць мяжу паміж чалавечым і Богачалавечым — і запрашаюць чытачоў далучыцца да гэтага таемнага памкнення.

Першая іх сумесная кніга выспела ў Жыровічах на Слонімшчыне. Выспела каля старых муроў Успенскага сабора, Богаяўленскай царквы, Крыжаўздвіжанскай і Георгіеўскай. А потым з Жыровічаў шлях іх сумоўя пралёг па ўсёй Бацькаўшчыне і нават па-за яе межамі. Магчыма, “Жыровіцкая пастараль” ад інака Мікалая і Алеся Клышкі стане духоўнай пастараллю для ўсіх беларусаў. Будзе яна

прарочай, і мы дажывем, калі не трэба будзе ідылічна паказваць жыццё беларусаў на лоне прыроды ці каля Жыровіцкай святой крыніцы. Верыцца, што жыццё беларусаў, насамрэч, стане светлым і шчаслівым, бо, як бы там не было, Беларусь у аўтараў гэтага выдання, пачынаецца са святых Жыровічаў, бо “тут — сэрца Беларусі і да яго — у кожнага — свой шлях” (Зьніч).

Сяргей ЧЫГРЫН

# ПАРОМ НА ЖЫРОВІЧЫ

## ПЕРШАЯ ЧАСТКА

**Інак Мікалай (І.М.):**
—Хрыстос Уваскрос! —
Усяісна Ўваскрос!
—Хрыстос Уваскрос! —
Усяісна Ўваскрос!
—Хрыстос Уваскрос! —
Усяісна Ўваскрос!
*(Жыровічы, 2008)*

**Алесь Клышка (А.К.):** *Паважанае спадарства, так сталася, што напярэдадні вялікага свята іконы Жыровіцкай Божай Маці мы на святой жыровіцкай зямельцы працягваем нашы ўжо традыцыйныя сумоўі з інакам Мікалаем. У добрай утульнай абстаноўцы ў сябра нашага пчаляра Якава ў ягоную адсутнасць мы гаспадарым у тут яго харомах і, з добрым настроем праслухаўшы апошнія песні, напісаныя на мае вершы, і праслухаўшы занатаваныя нашыя гутаркі на "Радыё Свабода", працягваем нашыя сумоўі з адной думкай – як ратаваць нашую шматпакутную родную Беларусь. І я звяртаюся да інака Мікалая з новымі пытаннямі. Бо стала традыцыяй, што мы не рыхтуем іх загадзя, мы не ўзгадняем нашы пытанні, а яны вось так узнікаюць адразу па ходу нашага сумоўя.*

*Мінуў час, апошні раз мы сустрэліся на свята Вадохрышча, былі на святой крынічцы, запісвалі пэўныя думкі, і ў той час я запомніў інака Мікалая ў тым, што тое, што ён робіць, і тое жыццё, якое ён прысвяціў вось гэтай справе паромшчыка, перацягвання людзей з аднаго берага бязвер'я на бераг веры, любові, адданасці Богу, вось гэты вобраз, вобраз чалавека, так бы мовіць, які робіць не самую высакародную справу, не самую прыкметную, але ж вельмі патрэбную Богу. І на самай справе, хто як не ён паказаў шлях да ратавання шмат нашым агульным сябрам, знаёмцам і незнаёмцам. Але невядома, як слова наша адгукнецца, але я падзякую Госпаду за нашую новую сустрэчу, працягваю сумоўе і хацеў бы пачуць ягоныя новыя вершы.*

**І.М.:** Апошнім часам мяне турбуе тое, што няма паслушання ў свеце. Усе выйшлі з-пад паслушання царкоўнага пасля бязбожных пераваротаў дваццатава веку, і цяпер невядома, у чыім, сапраўды, паслушанні хто знаходзіцца. Фармальныя нейкія жорсткія структуры існуюць і нейкая сістэма паслушанняў распрацаваная, але, як кажуць, там, дзе канчаецца любоў, пачынаецца права. Дык вось сфера прававога паслушання вельмі такая фармальная, у значнай ступені, гвалтоўная. А сапраўднае сардэчнае паслушанне — невядома хто сэрцам у чым паслушанні, і з-за гэтага пабурылася гармонія жыцця грамадскага. Сістэма паслушання царкоўнага распрацавана ўжо двума тысячагоддзямі. Фактычна трэцяе тысячагоддзе Хрыстовай эры пачалося, але з гэтай сістэмы практычна ўсе людзі выпалі. Маленькая жменька людзей знаходзіцца толькі ў сістэме гэтага паслушання. Жорсткія сістэмы не вяртаюць і не могуць вярнуць гармоніі – ні грамадскай, ні нацыянальнай, ні сямейнай, ні індывідуальнай. Вось як вярнуць сэрцы да паслушання, і як можна наогул ладзіць узаеміны, не ведаючы, хто ў чым паслушанні. Давер паміж людзьмі ў клопатах такіх гаспадарчых, заснаваных на нейкіх дамовах фармальных, нейкую функцыю ён выконвае, каб не было наогул хаосу поўнага і поўнага разбою. Але… але гэтага мала, каб вярнуць гармонію. Дык вось, Алесь, ты маеш здольнасць негвалтоўна людзей, ну, скажам, не зачароўваць, але настройваць такім чынам, што яны ў значнай меры гатовыя цябе слухаць уважліва. Хаця ў якой меры і да якой ступені яны гатовы быць у тваім паслушанні — гэта таксама яшчэ пытанне. Але вось колькі я за табой назіраю, у цябе ёсць здольнасць схіляць людзей па сваёй ахвоце да паслушання. Ну вось, скажам, песні на твае вершы, яны зроблены з ахвотай у сардэчным паслушанні тваім радкам. Як ты сам разумееш праблему паслушання, важнасць яе для нашай будучыні – і індывідуальнай, і сямейнай, і нацыянальнай, і ўсялюдскай. Як ты гэтую праблему сам разумееш і ўспрымаеш?

**А.К.:** *Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне. Мне прыгадаліся апошнія радкі, якія я прачытаў у кніжцы “Вучэнне пакаяння” ігумена Піліпа (Сіманава). І там такія*

*словы ёсць, што калі штось робіцца чалавекам без любові, то гэтая справа не богаўгодная, яна не будзе мецъ добрага станоўчага завяршэння. Я калісьці чуў такія падобныя думкі і мне падавалася, што гэта адзін з сімвалаў хрысціянскай царквы, гэта прамаўляецца неаднойчы святарамі, але ў той жа час я назіраю тое, што адбываецца зараз у свеце. Я гляджу, які хісткі свет, і, як падаваліся апошнія падзеі. Адбыліся землятрусы ў Кітаі, у той краіне, якая па нашым разуменні настолькі моцна стала на ногі, і ўзрасла па эканамічных, па сацыяльных праграмах. Але маленькі такі прыродны катаклізм, маленькая з'ява, яна яшчэ раз паказала, якое хісткае і няўстойлівае існаванне чалавека на гэтай зямлі. І калісьці ў адной з першых нашых сумоўяў, я задаў такое пытанне інаку Мікалаю: а наколькі сур'ёзна разглядае Гасподзь кожны індывідуум, і ці не ўскладае ён на кожнага абавязкі, як на самую галоўную сваю надзею? І мне падаецца, калі б кожны чалавек прад Богам, прад вечнасцю адчуваў значнасць і невыпадковасць свайго з'яўлення на зямлі, ён інакш бы жыў, па-іншаму б сябе паводзіў. І вось адказ узнікае адразу на гэтае пытанне — паслушанне гэта ў першую чаргу самакантроль, самавыхаванне, самаадукацыя і самасуд, які чалавек сам павінен выносіць сабе прысуд, і адказваць перад самім сабой. Толькі тады, калі чалавек будзе гатовы сябе вось такім чынам ачысціць, ён можа прадстаць прад Богам і намагацца хоць чымсьці апраўдацца за свае ўчынкі, за сваё жыццё. Я назіраю за жыццём маіх сяброў, за жыццём людзей вельмі заможных у гэтым жыцці. Вось, напрыклад, адзін мой сябра будаваў сабе дом на лецішчы. Ён даволі вядомы мастак, і ён зрабіў аж шэсць камінoў у сябе. Я задаў сабе пытанне, чым кіраваўся чалавек, а чалавек не думаў аб тым, што ў нейкі момант ён не зможа ўжо падняць цагліну, ці можа адбыцца так, што яна ўжо будзе яму не ў радасць гэтая праца. А тое, што ён адкладаў на потым, духоўную працу, пытанне навошта ён з'явіўся на гэтай зямлі і што паспеў ён зрабіць, ён, на жаль, можа не паспець дайсці да самага галоўнага. У гэтай жа кніжцы я знайшоў выяву, сімвал Бога, пасярэдзіне гэтага сімвала стаіць літара "амега". Усе памятаюць гэтую літару, яна ёсць як разорванае кола ўнізе і маленечкае такое адхіленне з двух бакоў, на якіх гэтая літара стаіць. І вось я*

*калісьці даўным-даўно для сябе паставіў гэтую літару, як сімвал пазнання жыцця: чалавек можа ісці кароткім шляхам пазнання Бога — гэта яшчэ адзін доказ таго, чаму немаўляткі становяцца святымі — ён можа гэты крок зрабіць, які злучыць гэты разрыў, а можа пайсці па гэтым крузе — пайсці па сямейных, службовых, нейкіх бізнесовых планах сваіх — і ўсё далей, і далей адхіляцца. І няма цвёрдай упэўненасці, ці дойдзе ён да таго месца, да якога ён змог зрабіць толькі крок. Вось гэта пытанне — я перакананы, браце Мікола, што людзі ўсё гэта ведаюць, інфармацыі дастаткова, людзі адукаваныя, людзі шмат маюць досведу таго, што раней не было, але гэта ніяк, ні якім чынам не прасунула іх наперад. І ўжо які раз я, калі застаюся сам насам са сваімі думкамі, прыходжу да высновы, што на самой справе, самыя галоўныя хвілі – апошнія ў жыцці, у чалавечай дзейнасці, калі ён прыходзіць да ўсведамлення таго, дзеля чаго ўсё гэта было, на што затрачана жыццё. І мне падаецца, што самае галоўнае паслушанне — паслушанне разгарнуць Біблію, разгарнуць Псалтыр, Святое Пісанне, жыція святых, і толькі зірнуць — я думаю, Гасподзь адкрые сэрца і розум кожнаму, хто толькі памкнецца, хто толькі працягне руку, як у гэтай жа кніжцы, я чытаў, што чалавек робіць Госпаду адзін крок насустрач, а Гасподзь — два. Але, на жаль, большасць людзей гэтага кроку не робіць. Таму мы маем і такое жыццё, і такое грамадства, і такую моладзь. І я быў у жаху, калі зараз, напярэдадні выбараў у ЗША, у адным з цэнтральных штатаў Нью-Ёрка прагаласавалі за аднаполыя шлюбы і сем'і, губернатар штату пахваляўся, "наша дэмакратыя на самым версе, мы абыйшлі Еўропу, мы наперадзе, мы даем поўную волю людзям". Гэта жах, гэта ўжо канец, гэта пачатак таго канца, калапса, які чакае чалавецтва. І я, дарэчы, на сённяшні дзень проста здзіўляюся цярпенню Божаму, вось гэтага грамадства, нас усіх і мяне ў тым ліку.*

**І.М.**: Сказана, узлюбі Бога ўсім сэрцам сваім, усім розумам сваім, усёй душою сваёю, і ўзлюбі бліжняга, як самога сябе. Так Богачалавек Хрыстос сказаў, што вось гэтыя дзве запаведзі галоўныя, і другая роўная першай. Але як узлюбіць Бога, калі ён недасягальны? Ён дапамог

чалавеку, ён з’явіўся ў чалавечым абліччы, з’явіўся Богачалавек Хрыстос. І кожны, хто сэрцам прыняў Хрыста і разумее, што ён сатвораны па абліччы і падабенству Божаму, гэты вобраз Хрыста ў сваім сэрцы павінен знайсці, адчуць, упусціць яго ў сэрца і ўзлюбіць самога сябе: гэта значыць, узлюбіць вобраз і падабенства Божае ў самім сабе, узлюбіць у сабе Богачалавека, і тады толькі ты зможаш узлюбіць бліжняга як самога сябе. У бліжнім адчуць гэты вобраз Богачалавека, і будзе тады ўзаемнае паслушанне, заснаванае на любові, а калі любоў у Богачалавеку сканчаецца, то ў богачалавечым вымярэнні любоў у нашым сэрцы канчаецца, мы ўступаем у сферу права, якая, вось як у Нью-Ёрку пахваляецца сваёй прававой сістэмай — вось сістэма права, дзе канчаецца любоў, прыходзяць да аднаполых шлюбаў і іншых відаў адкрытага беснавання. І як нам, на Белай Русі, якая ўстаяла праз вякі як праваслаўная дзяржава, той дэмакратыі, сымболем якой з’яўляецца той самы Нью-Ёрк і той самы ідал, які завецца статуяй Свабоды, якому пакланіўся той свет. Вось Белая Русь, як Русь праваслаўная стаіць, і хвалі таго дэманічнага свету б’юць прама ў яе межы. Як ёй устаяць пад напорам гэтых хваляў, той дэманкратыі, калі нашы, нібыта свядомыя браты, але што ў іх за свядомасць, калі яны аб’ектыўна ў хаўрусе з той самай дэманкратыяй, і ў той жа час нацэлены ўсімі сіламі распальваць нянавісць да Русі Вялікай, да праваслаўнай Русі Вялікай? Як разумець вось такую сістэму паслушання нашых свядомых братоў і сястрычак той самай дэманкратыі, якую вось яднае Нью-Ёрк і статуя Свабоды? Як сумясціць нацыянальную свядомасць і паслушанне той дэманкратыі?

**А.К.:** *Я хацеў бы распачаць адказ трошачкі з пытання, якое раней прагучала: пра вобраз і падабенства Божае. На жаль, мы маем вобраз Божы, але да падабенства нам вельмі далёка. Гэты шлях бясконцы. І не кожны чалавек на яго становіцца. Мы забываем, што вера ў Бога, любоў, гэта і Божыя пакуты, гэта ягоны шлях крыжовы на Галгофу. Гасподзь нездарма сказаў кожнаму чалавеку, каб ён нёс свой крыж. Я не сустракаў у жыцці чалавека, у якога быў бы лёгкі крыж, які ўвогуле быў бы не абцяжараны гэтым крыжом, але несці свой крыж, выконваць сваю місію не*

*кожны хоча, і не кожны гэта робіць. На пэўным шляху прыхода да рэлігіі, я ведаў сваіх сяброў, нашых палітыкаў, яны робяць узнёслы такі крок да храма, да знешняга вось гэтага свята, якое адбываецца, то трэба рабіць другі крок – чалавек, калі ён застаецца сам-насам, ён ведае, што ніхто не бачыць, як ён утрымлівае пост, ніхто не бачыць, як ён сябе паводзіць, якія думкі ў яго адносна сваіх паплечнікаў, блізкіх, ворагаў, партнёраў ці там супернікаў і гэтак далей. Вось тут мы прыходзім да адной самай, мне падаецца, галоўнай высновы – унутранай чысціні чалавека. Думкі матэрыяльныя. І камусьці падаецца, што думкі невядомыя, але Гасподзь ведае не толькі нашы справы, але і нашы, як кажуць, думкі. Таму, калі збіраць паасобку кожнага чалавека — будзь гэта Белая Русь, ці Святая Русь, будзь гэта вёсачка ці дом, мы маем у суме тое, што мы маем у асобніку кожнага складніка. І павер мне, брат Мікола, я вельмі мала сустракаў людзей, якіх бы вось скласці разам і атрымаў бы нейкую сур'ёзную рэч, дзе кожная падыходзіла б пад сваё месца, і стасавалася. Яно, нібы дзіцячая гульня, дзе кожная рэч – яна стасуецца з іншай і атрымліваецца малюнак. Вось дзіцятка ўжо трэніруецца з дзяцінства падбіраць гэтыя кубікі ці гэтыя малюначкі, каб атрымаць нейкі агульны партрэцік. На жаль, на сённяшні дзень, чытаючы нашу прэсу, я прыйшоў да высновы, што тыя людзі, якія прэтэндавалі на ўладу, якія лічылі сябе людзьмі вартымі, займаць найвялікшыя пасты, першыя на ўзбраенне бралі абразу свайго суперніка. І не буду я ўжо ўдавацца ў дэталі, чытаючы газеты і кніжкі, і ўспаміны — а зараз усе нашыя былыя палітыкі сталі пісаць успаміны, нібы пакаянні, ці апраўданні, а гэта ўсё ўспаміны і асуджэнні — і сябе абяленне. І што ў выніку атрымліваецца? Чалавек адкладае на потым працу над самім сабой. Калісьці я сказаў аднаму палітыку, калі прыехаў на яго лецішча: ты бярэшся адбудаваць Беларусь, а ўжо колькі дзесяткаў гадоў ты не можаш пабудаваць свой дом. Колькі людзей, якія прэтэндуюць на высокія пасады, маюць разваленыя сем'і, нявыхаваных дзяцей, самі не ўяўляюць сабой глыбока адукаваных і культурных людзей. Не бывае цудаў — тое, што ў галаве нараджаецца, тое робяць і рукі. Таму тое пытанне, якое напрыканцы было, як разглядаць у кантэксце*

*сусветнай гісторыі і дэмакратыі Беларусь, і вось гэтыя нападкі на яе… Ды хто яе бароніць? Яе бароняць адзінкі, і калісьці мы вельмі крытычна ставіліся да нашага Прэзідэнта, і я хачу сказаць, што, адкінуўшы ўсялякія, як кажуць, такія шурпатасці, якія прысутнічаюць у асобе кожнага чалавека, але ж на сённяшні дзень, трэба прызнаць, што ніхто з існуючых палітыкаў і асоб не змог зрабіць тое, што зрабіў на сённяшні дзень чалавек, якому Гасподзь даў магчымасць і даручыў вось гэты кавалак, лапік зямлі ў цэнтры Еўропы. І ў нас ёсць такая малітва: "Госпадзі, навучы мяне быць пакорным уладам, нада мною пастаўленым". Мы прыходзім яшчэ да адной высновы — улада, гэта не толькі Прэзідэнт, не толькі начальнік на працы, улада — гэта сям'я. Дзе мы бачым на сённяшні дзень моцныя сем'і ў Беларусі, дзе ўладар-гаспадар па ўсіх паказчыках? Што робіцца зараз на рынку працы? Жанчыны ўладараць, жанчыны разбураюць сем'і, жанчыны шукаюць ужо не… глядзіш па тэлебачанні, жанчыны жадаюць стварыць сем'і з жанчынамі, а не з мужчынамі. У іх усё ёсць – і бізнес, і машыны, у іх ёсць дзеці, у іх ёсць магчымасць грашовая неабмежаваная — ну, гэта ж пачатак разбурэння, а што потым? А ў гэтых людзей, у гэтых сем'ях растуць дзеткі, а ў іх што вырасце? І мы ніколі не задаем сабе пытанне, а што застанецца пасля нас. І ў звязку з гэтым я калісьці, дзесяць гадоў таму, на старонках "ЛІМа" апублікаваў артыкул "Мы ёсць і мы будзем" і выказаў такую думку, што чалавек, калі ён будзе асэнсоўваць сваё знаходжанне на гэтай зямлі як рэч, як мосцік, па якім можа пайсці гісторыя, з мінулага ў будучыню, ён не будзе ствараць ніякіх перашкод вось гэтаму гістарычнаму шляху, а дапамагаць не згубіць тое каштоўнае, што было ў мінулым і перанесці гэта ў будучыню праз сям'ю, праз дзетак, праз выхаванне, праз друк, праз кнігі, нічога не будзе. І вось гэтая сусветная вайна ўсіх з усімі, нам падаецца, я вось нават задаў сабе пытанне, ну, добра, што адбылося ў тым жа Іраку: у ім за час панавання амерыканскай улады загінула больш людзей, чым амаль за ўсю стогадовую гісторыю, якая была дагэтуль. Вось скінулі аднаго тырана, паставілі другога. Такіх фактаў шмат у гісторыі. Мы не будзем узгадваць*

*тут Югаславію — гэта кроў ліецца па сённяшні дзень. І не займаючыся гісторыяй, аналізам вось гэтага ўсяго, а хаця б толькі паглядзець, што робіць чалавек вакол сябе. Я калісьці выказаў такую думку, што самае галоўнае ў жыцці чалавека знаходзіцца на адлегласці працягнутай рукі — вось гэта яго рэчы, яго стол, яго занятак, яго дзеткі, яго сям'я, яго жонка — не, не хапае гэтага, ён руку не працягвае да гэтага, а бяжыць ратаваць увесь свет, бяжыць ствараць новыя законы, ствараць новыя ўмовы існавання, стасункі, і, самае галоўнае, выступаць суддзёй, пачынаць судзіць, браць у рукі зброю і тут жа караць усіх тых, хто жыве не так, як яму падаецца павінен жыць чалавек. Таму я не разглядаю нашу Беларусь, як нешта такое выпаўшае з гісторыі. Яна існуе ў тых умовах, у якіх існуе ўвесь свет. Свет разбураецца, працэс разбурэння ён яўны, і не трэба быць дагматыкам, вучоным, а трэба усё праанолізаваць. Вось Гасподзь нас усіх паклікаў на пір, паклікаў на сваё свята… Як мы сябе паводзім за сталом? Мы паразлівалі ўсё, паразбівалі гэты посуд, парвалі адзін аднаму кашулі, пааблівалі строі, пабілі адзін аднаго і цяпер кажам: вось, Госпадзі, што гэта ў нас жыццё такое няладнае, што гэта мы так ваюем і жывём дрэнна, паміраем ад эпідэмій, землятрус нас ураганамі замучыў, дзеці ў нас забіваюць бацькоў, што гэта робіцца? А вось гэта і робіцца: мы свята жыцця ператварылі ў пекла на зямлі. Калісьці Гасподзь забараніў Адаму і Еве сарваць яблык з Дрэва пазнання. Не таму, што ён абмежаваў іх волю — яны былі не гатовыя яшчэ на той час пазнаць другую частку жыцця — адмоўную, там, дзе жыве і гад хвастаты, які і збіў з панталыку гэту Еву. І вось прыходзіш да высновы: першы крок, падзенне чалавецтва — крок непаслушэнства, крок непакорнасці, самалюбства, самаўяўлення… І прыходжу да вынікаў, раблю зараз выснову, што нічога не змянілася за гэты час — і той жа Адам з Евай, толькі ўжо не зрываюць яблыкі, а ўжо з карэньчыкам вырываюць гэтае дрэва, каб зірнуць, а што там яшчэ ўнізе, а як гэта яно расло? І як творцу, як садоўніку глядзець, што ў яго садзе робяць гэтыя людзі? Вось мы з вамі без выключэння так жывем у гэтым райскім садзе. Дарэчы, гісторыя апісвае, што рай, менавіта, існаваў на зямлі. Той кавалачак зямлі, дзе чалавек праходзіў, як у*

*пэўным інкубатары, выпрабаванне на сталасць, на магчымасць у будучыні наблізіцца не толькі да вобразу, але і да падабенства Божага. Чалавек адхіліўся ад гэтага, і па сённяшні дзень ён збірае ўраджай таго, што ён сее кожны дзень, кожную хвіліну. Вось так я бачу гэтую гісторыю. Яна і вельмі складаная, і вельмі простая. Гісторыя пачынаецца з душы кожнага без выключэння чалавека.*

**І.М.:** Алесь, усе мы ведаем з малых гадоў вобразы Каіна і Авеля. Калі я слухаю сваіх колішніх сяброў, я іх і сёння люблю. Кажу колішніх таму, што раней мы сумовіліся даволі часта, калі я жыў у стольным Менску, цяпер зрэдку — толькі ці непасрэдна, ці ў эфіры я іх чую. Вобразы Каіна і Авеля міжволі ўсплываюць, калі я чую іх лютую нянавісць да Русі Вялікай. Севастопаль… У сярэдзіне XIX веку, калі фактычна была Першая сусветная вайна, так яе не назвалі, калі вось гэтыя браты-крыжакі, якія некалі Канстанцінопаль ратавалі, яны на некаторы час узялі Севастопаль. Потым славуты Леў Мікалаевіч Талстой, які ў юныя гады пабачыў усё гэта, потым яго гэта натхніла на шмат якія творы, у тым ліку і на “Вайну і мір”, яна ў значнай ступені запалілася яшчэ тымі севастопальскімі ўспамінамі. Ну, і вось на гэты горад святарускай славы цяпер нацэлілася тая самая распусная дзеўка НАТА, свой флот уціснуць у гэты град. Пасля Канстанцінопаля яны хочуць яшчэ раз узяць Севастопаль. І гэтыя мае колішнія браты, якіх я люблю па-ранейшаму, адчуваецца, што яны радуюцца і прагнуць гэтай перамогі. Калі гэты флот кацапаў будзе адтуль выціснуты і флот распуснай дзеўкі НАТА ўздыме свае штандары над гэтым градам святарускай славы. Што ў сэрцы гэтых братоў, што ў іхніх сэрцах і адкуль такая нянавісць да Русі Вялікай, да Русі Святой, і гатоўнасць у тых самых аднаполых шлюбаў, якія камандуюць з Нью-Ёрку, ну, можна сказаць, глабальнымі палітычнымі працэсамі. Як зразумець гэтых маіх малодшых братоў, над думкамі аб якіх вобразы Каіна і Авеля.

**А.К.:** *Ну, я адказаў бы, не ўсё так проста. Русь Вялікая праваслаўная, гэта яшчэ не Расія даваенная і Расія царская. Гэта яшчэ не Расія, якая пад час Кацярыны,*

*Суворава дзяліла Вялікае княства Літоўскае, знішчала беларускую мову, культуру. І я, калі на пляцы Волі бываю, і там Мураўёву шыльда вісіць побач з касцёлам Святой Марыі, якога звалі Мураўёў-вешальнік. І не трэба далёка хадзіць, гэтыя артыкулы шмат друкаваліся, ёсць яны і ў дзяржаўных сродках інфармацыі. Расія, на жаль, адчувала сябе заўжды тут гаспадыняй. Тое ж самае і на Украіне. Я нядаўна перачытаў "Бабій Яр". У Лондане, гэтая кніга выйшла поўнасцю, прыватным чынам выдадзеная. Дык вось, расійскі камітэт дзяржаўнай бяспекі да вайны вёў палітыку па знішчэнні Кіева-Пячэрскай Лаўры. Шмат было зачынена якіх храмаў, завалены былі патаемныя пахаванні, але ж знішчыць увогуле яны не мелі ніякай магчымасці, баяліся. І вось у той час, калі немцы акупавалі Кіеў, на 10-ты дзень ці на 12-ты пачалі рвацца зарады, закладзеныя пад храмы, пад сцены, пад муры вось гэтай Лаўры. І людзі ў Маскве атрымалі за гэта вялікія пасады, узнагароды герояў Савецкага Саюза. Дарэчы, загінула шмат людзей, вернікаў. Манахаў ніхто не папярэдзіў, не сказаў. Людзі плакалі, стаялі на каленях. Дык самае цікавае, што немцы ратавалі ад пажару, ад агню тое, што можна было ратаваць, каб не згарэла. І пасля гэтага былі ўсе падставы распачаць масавыя рэпрэсіі. Масавыя рэпрэсіі, калі пад час Другой сусветнай вайны ў тыл закідваліся чэкісты, і каля нейкай вёсачкі ўзрывалі сельскі масточак, пасля якога ў пуню заганялі пару соцень дзяцей і жанчын, і ўсіх спальвалі. А яны атрымлівалі за гэта вялікія пасады. Тыя атрады, якія не падпарадкоўваліся Маскве, яны проста фізічна знішчаліся. Тыя атрады, якімі камісары маскоўскія кіравалі на тэрыторыі Беларусі, мелі інфармацыю, што ў той ці іншай вёсцы ёсць людзі, якія пайшлі ў паліцаі, атрымлівалі загад на знішчэнне ўсёй вёскі. І яны спальвалі гэтыя вёскі, гэтак жа як немцы з-за гэтага масточка ці з-за забітага веласіпедыста, які ехаў на ровары сваім, вёз пошту, мы ведаем з аповесці Васіля Быкава. Вось гэта вайна супраць свайго народа, вайна неразумення менталітэту беларуса, украінца, гэты спланаваны голад на абшарах Украіны, калі людзі дайшлі да людаедства, калі эшалоны Чырвонага Крыжа стаялі і не мелі магчымасці патрапіць на тэрыторыю Украіны, таму што Сталін забараніў гэта*

*рабіць, не даў магчымасці давезці людзям, у тым ліку дзецям, туды ежу. Я нікога не абвінавачваю, але я на хвілінку стаўлю сябе на месцы тых людзей, якія перажылі гэтыя пакуты. І ўзнікае пытанне: як яны павінны ставіцца да Вялікай Русі: не да нашай Русі з храмамі, са званамі і з харугвамі, а да Русі камуністычнай, кэдэбісцкай, са сваімі турмамі, са сваімі курапатамі, са сваёй "четкой" сістэмай прыхаванага пераследу і знішчэння "няўгодных" людзей. На сённяшні дзень не адкрыты архівы, колькі загінула людзей, куды падзеліся дакументы, куды падзеўся крыж Ефрасінні Полацкай, што нам, як тым жабракам, Масква кінула падачку — тры слуцкія паясы — зрабіла такі жэст. Хаця вядома, што там сотня паясоў была звезена ў час перад вайной, з Магілёва, з Мінска, з Гародні былі звезены музейныя каштоўнасці – куды яны дзеліся? Гэта ўсё так бы мовіць гісторыя. На жаль, людзі маюць такую ўласцівасць як памяць. І таму, калі я сёння прыязджаю ў Вільню і я ведаю з гісторыі, што гэта Вільня – наш горад, я ведаю, што гэта быў наш культурны цэнтр… Што робіцца сёння з Мінскам? Я разгарнуў газету, дзяржаўную, адносна Нясвіжскага палацу: быў там Прэзідэнт, і 13 год ідзе рэканструкцыя. Дык пачалі не рэканструкцыю рабіць, а рэгенерацыю, аднаўленне-пародыю: яны пачалі знішчаць тое, што ёсць, а будаваць на падабенства са сваіх матэрыялаў. Лукашэнка сказаў, што лепш агарадзіце і не чапайце. А куды падзеліся сродкі? І прамым тэкстам напісана: сродкі украдзены, расцягнуты. Людзі падзялілі грошы і разышліся. Гэта ўжо на дзяржаўным узроўні. Хто сёння ў нас у турмах? Яны запоўнены прадпрымальнікамі, дырэктарамі заводаў, кіраўнікамі. Мы павінны дакладна ведаць: гэта рудымент яшчэ той савецкай Расіі. І калі ўжо казаць, абурацца па Севастопалю, я б, інак Мікалай, не абураўся б так моцна, а падумаў, што ў час перад вайной у Мінску было адкрыта толькі два прыходы з тых 60-ці, якія былі да рэвалюцыі. Адкуль гэта ўсё? Вось адтуль. І таму я вельмі асцярожна стаўлюся без асуджэння: кожны народ, асабліва украінскі, мае права вырашаць свой лёс: яны яго адпакутавалі, яны нікому невінаватыя і нікому не давалі клятвы на ўсё жыццё паводзіць сябе так ці інакш. Беларусь абрала сярэдні шлях: як кажуць, самы богаўгодны — гэта*

*сярэдні шлях. Як казаў святы Серафім Сароўскі: ідзі сярэднім шляхам. Не трэба ні ўлева выходзіць, браць высокія вышыні, ні падаць управа. Вельмі складанае пытанне ў гісторыі… Я далёкі ад думкі, што гэта зараз самае асноўнае. Што робіцца ў Грузіі, што на Украіне, што ў Кітаі — гэта ўсё адбываецца ў нашай хаце. Рана ці позна нам даводзіцца вырашаць такія пытанні, як недахоп харчавання, кошт выкапняў і нафты, гэта высокія павышэнне ці зніжэнне курса валют. І я зноў хацеў бы вярнуцца: не замахвайся на флот, у рэшце рэшт, ну што мне гэты флот, што ён Гекубе, што яму Гекуба — гэта мясцовага вырашэння пытанне, гэта пытанне для камуністаў, якія са сцягамі гатовыя зноў ваяваць, кагосьці знішчаць і гнаць сваіх дзетак на бойню. Вось у чым бяда: што працягваецца працэс спекуляцыі і заўтра гэтыя ж людзі ў гэтым жа Севастопалі знішчаць храмы і ўсё паўторыцца спачатку.*

*Мы прыходзім да пачатку нашай гаворкі: гэта летуценне лічыць, што ўсё ў свеце ў нашым хрысціянскім падважліва, роўна, спакойна і так усё добра: як гэта людзі вы не бачыце дабра і любові? Хто гэта не можа далучыцца да нас, як гэта замахвацца на такія справы? Ёсць справы больш важныя, і я лічу, што гэта справы свае, мясцовыя. Вось вельмі мне спадабалася старонка ў газеце "Звязда" – "Мясцовае самакіраванне". І я столькі пазнаў шмат пра Беларусь, пра нашыя вёскі, пра нашы гарадочкі, пра царквушачкі, пра людзей — мне гэта цікава, а вось што там робіцца, прабач, але мне гэта ўжо не цікава. Я не ведаю, як тут парадак навесці, як дапамагчы блізкім, як сваіх дзетак уратаваць у такі час цяжкі, як унукаў сваіх паставіць на ногі, як сваю сям'ю захаваць урэшце рэшт, і як самому з гэтага шляху не збочыць, таму што вельмі цяжкі шлях да веры, да ратавання, шлях да Бога.*

**І.М.**: Алесь, маленькі штрых хачу дадаць да тваіх разваг: тыя самыя дырыжоры з Нью-Ёрку, якія напачатку XX стагоддзя, на мяжы XIX-га і XX-га фінансавалі банды рэвалюцыянераў, якія распальвалі нянавісць да Святой Русі. Арганізавалі гэтыя банды, ты добра ведаеш іх нацыянальны склад, калі яны ўзялі, акупавалі Святую Русь. Арганізавалі

ўсе гэтыя самыя пад псеўданімамі органы ЧК, НКУС і іншыя назвы, саветы, камуністы – гэта ўсё псеўданімы, пад якімі гэтыя банды антыхрыста фінансаваны ў асноўным з Нью-Ёрку, але і з іншых цэнтраў гэтай самай антыхрыставай мафіі, яны арганізавалі дзесяткі мільёнаў закатаваных — усё гэта імі арганізавана. З Нью-Ёрку гэта ўсё фінансавалася, усё гэта іх кадравы састаў яшчэ быў некалькі дзесяткаў год тых самых, і цяпер яны, дырыжоры нью-ёркскія, працягваюць распальваць тую ж нянавісць да той самай закатаванай і ўкрыжаванай імі Святой Русі, распальваюць нянавісць да ўсіх дробных і нядробных плямёнаў, кіруючы ў адным кірунку: тыя самыя людзі, тыя самыя дырыжоры — ну, некалькі пакаленняў іх змянілася, але спадчыннасць у кіраўніцтве, у нацыянальным складзе, у фінансавых рэсурсах — усё засталося. І мы, ведаючы ў прынцыпе, хто не ведае гісторыю, той не ведае, што гаворыць, што творыць. Госпадзі, даруй ім, бо не ведаюць, што робяць. Але гэтыя ведаюць, што гавораць, чаму гавораць, чаму так нахабна маняць, чаму кіруюць сапраўдныя прозвішчы, сапраўдную ідэалогію і сапраўдны аб’ект нянавісці — той самы, што быў у канцы XIX – напачатку XX стагоддзя. Гасподзь папусціў ім яшчэ развіццё, цяпер ізноў, так сказаць, у іх рычагі ўпраўлення, нібыта зноў у іхніх руках. Ведаючы ізноў жа іхнюю лінію, вольна ці міжвольна і падпяваем і эмацыйна, і інфармацыйна, і як заўгодна. Дык вось ізноў жа разуменне гісторыі як барацьбы сапраўды Богачалавека Хрыста і антыхрыста, ад самага з’яўлення Хрыста на зямлі да сённяшняга дня — гэтая лінія працягваецца. І гэтая лінія мае два палюсы: і ў палітычным вымярэнні, і ў сацыяльным — і кожнае племя, у прынцыпе, расколата менавіта ў гэтым плане: ці ты з Богачалавекам, ці ты з ягонымі супраціўнікамі, якія, так бы мовіць, і аднаполыя шлюбы, і тое, што Хрыста ты можаш вызнаваць толькі ў хаце, а ніяк не ў грамадскіх школах. Ёсць паліткарэктнасць, яны ж увялі артыкул 58-мы за антысемітызм. Цяпер у іх і ў Амерыцы, і ў так званым дэмакратычным свеце, ёсць артыкул за антысемітызм ці за ксенафобію, аналагічны 58-му артыкулу. Можна любога па гэтым артыкуле засудзіць ад 10-ці год да 15-ці і да пажыццёвага зняволення, калі толькі ён… — калі ласка, каго хочаш крый, але як толькі ты на нас замахнуўся! І ўсё гэта, мае даражэнькія малодшыя сябры, нацыянальная

свядомыя, усё гэта цудоўна ведаюць. Госпадзі, даруй ім, калі не ведаюць, і калі ведаюць, што робяць, і ўразумі іх, як ты сам хочаш, Госпадзі, і вобразы Каіна і Авеля па-ранейшаму лунаюць.

**А.К.**: *Гэтых людзей каініцяне завуць, яны нясуць гэтую пячатку грахоўнасці Каіна, свайго праайца па сённяшні дзень. Але самае цікавае, што яны не маюць ніякага раскаяння, пакаянні памкнення да веры і прымірэння. Наадварот, з веку ў век, са стагоддзя ў стагоддзе ідзе поўная ўпэўненасць у сваёй жыццёвасці, у сваёй уладзе ў гэтым свеце. Я калісьці, на чыста жыццёвым побытавым узроўні сутыкнуўшыся з гэтай з'явай, сфармуляваў гэта так: гэтая з'ява — як цунамі, яго можна прагназаваць, прадказаць, але прадухіліць немагчыма. Відаць, гэта адна са старонак нашага крыжа, які мы нясем па нашым жыцці, гэта нашае выпрабаванне. Называй гэта, як хочаш: варожасць ці гэта супрацьстаянне — але гэта факт. Сёння мы ведаем, хто ўладарыць у свеце, хто мае магчымасць уплываць на фінансавыя і палітычныя падзеі ў свеце. Ну, і далей што? Мы ведаем, аб'явіць вайну гэтаму — немагчыма, таму што гэта сярод нас. Як кажуць, у арганізме чалавека прысутнічаюць вірусы туберкулёза, воспы, любой другой халеры, але ж не маюць яны магчымасці развіцца, загубіць арганізм. Змагацца з імі няма сэнсу, яны ёсць арганізм устойлівы да той пары, пакуль ён выпрацоўвае вось гэты асяродак, у якім гэтыя мікробы не могуць развівацца, множыцца і загубіць арганізм. Мы цудоўна ведаем, калі гэтая частка каініцян прыйдзе да сусветнай улады, гэта будзе апошні дзень існавання Зямлі, таму што першая задача ў гэтых людзей — знішчэнне хрысціянскай веры.*

*Гасподзь калісьці даў людзям абяцанне. Ён абяцаў пасля сусветнага патопу не прыбягаць больш да такіх метадаў знішчэння сваёй творчасці. Вось сядзіш і глядзіш на цудоўны які мастацкі твор, і вось тое, што не спадабаліся публіцы яго карціны — дык што яму пайсці парэзаць іх, папаліць? Але ж прыйдзе другі народ, другая група, ацэняць, прыйдуць другія знаўцы і паглядзяць, і будуць любавацца. Бо мы гэта з гісторыі ведаем: чалавек як Бог у сваім сэнсе, вось у сваім атачэнні ён творца. Вось ён*

*творыць, бывае, што толькі праз стагоддзі вартасць гэтых прац ягоных, яго натхнення знаходзіць ацэнку. Таму я не драматызаваў бы гэтыя падзеі і не засяроджваў увагу, таму што гэтыя мікробы разышліся ўжо па ўсяму арганізму. І мне падаецца, што толькі захоўваючы тое, што ёсць, і не распальваючы больш пажару, можна хоць нейкім чынам людзям паказаць, якім шляхам трэба ісці. Вось гэтае племя роду чалавечага, і гэта племя нехрысціянскае, і яно вельмі баіцца праўды. Калі вядомыя становяцца ўсе дзеянні — вось гэта "разаблачэнне" варожых задумак. Таму людзі самі ідуць на гэты шлях. Вось у Булгакава "Майстар і Маргарыта", калі людзі запаланілі гэтую залю і гэтыя паперачкі лавілі ў паветры, якія зверху сыпаліся Воландам у выглядзе грошай. А потым яны на наступны дзень на самай справе ў паперкі ператварыліся, вось так чалавек на сённяшні дзень самападманам сваім жыве, што ён апраўдаецца сваёй будоўляй, сваім багаццем, сваімі нейкімі мясцовымі творамі, сваім чымсьці матэрыяльным, і творамі літаратурнымі, і музычнымі і іншымі чалавек зацвярджвае ўвесь час сваё месца на гэтай зямлі. На жаль, гэта атрымала толькі матэрыяльны накірунак. А тыя людзі, якія сталі на шлях духоўнага сталення, духоўнай велічы, іх клічуць старцамі, інакамі, пустэльнікамі. Іх можна адзінкі пералічыць, паглядзець, дзе ёсць людзі, якія пазналі ісціну гэтага жыцця. Іх няшмат, можа, так і павінна быць, што іх няшмат, тыя, хто хоча прыйсці да ісціны, да праўды, яны знойдуць сцежачку, знойдуць дарогу да іх і знойдуць месца, дзе падсілкавацца. Яны знойдуць сцежачку, знойдуць дарогу да іх і знойдуць адказы на свае пытанні, было б адно — толькі жаданне ісці насустрач гэтай праўдзе і пазнанню. Але я ізноў паўтараю: на сённяшні дзень — гэта ачмурэнне чалавецтва. Вось мае знаёмыя ў захапленні, што можна дзесьці сэканоміць на паездцы, напрыклад, турыстычнай паездцы за мяжу, дзе можна есці, не адыходзячы ад стала цэлы дзень. Божа, якое, кажуць, гэта шчасце – еш, еш і еш. А я кажу – ты на мора хоць раз хадзіў? А да мора кажа, сто метраў ісці, да басейна бліжэй — акунуўся, і зноў пачаў есці. Я паглядзеў, з аднаго боку, людзі адукаваныя, літаратары, але ж вось табе прырода чалавека: чалавек сам стварае сабе асяродак,*

*сам сабе выбірае свой шлях. І я паўтараю, няма недахопу ў інфармацыі, не тое, што вось мы робім у храмах — раздаем кніжкі, інфармацыйныя гэтыя друкуем лісточкі. Госпадзі, дай хаця б сотні, з дзвюх соцень адзін хтосьці б яшчэ задумаўся, штосьці зрабіў на шляху самаратавання. Ні ратаванне царквы, ні ратаванне веры, ні Святой Русі, ні Святой Беларусі, а самаратаванне, таму што прад Госпадам самая галоўная задача — гэта адзін чалавек, адна душа, асоба, кожны стаіць асобна. І вось гэтыя людзі, якія ў манастырах, свядомыя, яны кажуць: ідуць апошнія часы, усё бачна, усе знакі паказваюць, што гэта апошнія часы – яны могуць ісці стагоддзі, нават тысячагоддзі, але гэта не шлях уверх, гэта шлях уніз. І памятаеце, ёсць такі добры анекдот: адзін чалавек зваліўся з сотага паверха, і калі пралятае ён пяцідзесяты, ў яго пытаюцца “як справы?”, а ён кажа “пакуль што ўсё ідзе добра”. Вось такая сітуацыя ў чалавецтве сёння на зямлі.*

**І.М.:** Цэсару — цэсарава, Богу — Богава, дзеямі і сэрцам мусім аддаць, і Беларусь, як нявеста Хрыстова, будзе спрадвечна і вечна новай Божай задумцы адпавядаць.

Фізікі выкарыстоўваюць вобраз крыльца матылька, працэсы набрыньвання глабальнага, сусветнага дасягаюць такой стадыі, калі дастаткова аднаго руху крыльца матылька, каб пачалося ператварэнне ўсясветнага маштабу — выспяванне кожнай душы, кожнай сям’і, кожнага гаспадара на сваёй зямельцы і гэта так. Калі будзе рух таго крыльца матылька і дзе той матылёк — ведае толькі Богачалавек. Будзем маліцца, варушыцца, і Гасподзь сам вызначыць тое крыльца, рухам якога атрымаецца тое праабражэнне, якое на Фаворы пабачылі бліжэйшыя вучні Богачалавека. Госпадзі, хай будзе так, як Ты задумаў. Выслухай нашыя малітвы, Ты іх усе чуеш, і калі хочаш, зрабі. На ўсё воля Твая святая. Амінь.

**А.К.:** *Вось бачыш, Мікола, я хацеў бы таксама далучыцца, паставіць маленькую кропачку ў нашым сумоўі. На тым жа Фаворы заснулі вучні. Хрыстос сказаў: і тут вам не хапіла вытрымкі, перацярпець. І я яшчэ прыходжу да адной высновы, што шлях да Госпада без пакутаў, без цярпення, без самаадкідвання, без самаўзнашэння, калі*

*чалавек павінен у сэрцы сваім “змірэнне сцяжаць” і страх. А страх Божы — ён светлы і чысты, страх перад тым адказам, калі ўжо нічым нельга апраўдацца чалавеку. Таму кожны раз, калі мы пачынаем разглядаць свет як шматстаронкавую кнігу, то мы на хвілінку павінны ўзняцца да той вышыні, калі гэтыя ўсе старонкі і гэтая ўся кніга разглядаецца як адна кропка. І прыходзіш да высновы, што складнікі жыцця, яны побач з кожны чалавекам, у сэрцы кожнага чалавека, і кожны чалавек уяўляе сабой вось тую часцінку, тое маленькае крыльца, якое можаператварыць свет, узрушыць яго. Вельмі трапная заўвага, з пункту гледжання фізікі гэта завецца крытычная маса. Не вельмі этычны прыклад – выбух атамнай бомбы адбываецца падчас стварэння крытычнай масы некалькіх рэчываў. Самі паасобку – гэта кавалкі металу, а разам яны ўтвараюць сабой страшэннай моцы выбух. Так і людзі, так і сума іх складнікаў – іх сэрцы. Мы не ведаем, што можа стварыць чалавек з тых ведаў, з той працы, цярпення, паслушання, якое назапашваецца ў яго сэрцы з цягам часу, а мы можам толькі меркаваць па тых сэрцах, па людзях, якія такія паказалі здольнасці свае. Калі Серафім Сароўскі мог ісці па зямлі і не кранацца нагамі яе, калі старцы маглі размаўляць адзін з адным, не прамаўляючы слова,. Божая Маці магла паклікаць у адно месца ўсіх вучняў сына свайго, апосталаў, і ў той час яны невядома чаму прыехалі менавіта ў адзін час, у адно месца амаль за адно імгненне.*

*Чалавек знаходзіцца ўвесь час у пошуках пацверджання існавання Бога на зямлі. Калі чалавек уважліва разглядаў сваё побытавае існаванне, верагоднасць свайго з’яўлення на свет, ну хіба ж гэта не цуд! Я неўзабаве даведаўся, што чалавек, зараджэнне яго, падчас вось гэтага савакуплення, зліцця мужчыны і жанчыны, калі выкідваецца ў арганізм жанчыны да ста мільёнаў сперматазоідаў, і адзін, ці два, ці тры ў лепшым выпадку могуць даць жыццё, але кожны з іх пры гэтым нясе поўную інфармацыю, пэўныя задаткі, і поўны камплект інфармацыі аб гэтым чалавеку. Ці ж гэта не цуд? Як гэта магло стварыцца само? Відаць, трэба вельмі ўважліва глядзець і сачыць за тым, што адбываецца вакол нас. І з Зямлёй, і з намі, і з тымі справамі,*

*да якіх мы маем далучэнне. Таму ўсё вельмі складана і ўсё вельмі проста – праца над самім сабой. Царства Божае, як сказаў інак Мікалай, унутры нас. Царства Нябеснае, яно можа быць створана чалавекам, і чалавек пры жыцці можа існаваць як у раі, так і ў пекле. Ён і тое, і другое стварае сваімі рукамі, сваім жыццём, сваімі духоўнымі зрухамі ці духоўным падзеннем. А што датычыцца нашага стаўлення да людзей, нам непрыемных, варожа настроеных, то мы павінны добра ведаць: чалавек злы, агрэсіўны – чалавек хворы, у першую чаргу ён хворы душой. Таму што там, дзе Гасподзь, там пануе любоў, там, дзе пануе агрэсіўнасць, ваяўнічасць, варожасць, там пануе вораг роду чалавечага. І мы міжволі выбіраем, з кім мы жывем і на каго працуем. Вельмі цяжка змірыцца з крыўдай, з несправядлівасцю, з абразай, але ў той жа час, калі Гасподзь ішоў на Галгофу, хто не пляваў толькі ў яго, якія толькі словы ён не пачуў і якія абразы… Ён усё гэта вытрымаў для таго, каб прайсці Свой шлях да канца: шлях ратавання ўсяго чалавецтва, каб адчыніць браму пякельную, разбурыць яе і паказаць выйсце з гэтага жыццёвага тупіка, у які на той час чалавецтва ўжо зайшло. Мы не ставім маленькіх і дробных праграм перад сабой, мы ставім справы вялікія, ператварэнне ўсяго свету, рэвалюцыі, розныя перавароты, розныя вучэнні, блокі, арміі – і больш зброі, больш жорсткасці, больш агрэсіўнасці і ў выніку чалавек знішчае і сябе, сваю душу, сваю мінуўшчыну, і ў той жа час пазбаўляе сябе будучыні. Гэта я ўсё ў працяг інаку Мікалаю на тыя пытанні, якія вось ён мне задаў напачатку нашай гаворкі адносна месца Беларусі, адносна палітычнай сітуацыі ў гэтым свеце. Усё проста, усё надзвычайна проста, таму што вось пачынаецца з гэтага месца, з гэтай гаворкі, з гэтай сустрэчы, з гэтых думак і з гэтых людзей. Вось мой адказ на завяршэнне да таго пытання, паважаны браце Мікола.*

**І.М.:** Вораг распальвае недавер,
Каб з памяці грэшніка сцерці:
Мы маем вечнае, тут і цяпер,
Царства Нябёснае ў сэрцы.

Сёння 18 траўня 2008 года. Я са сваім добрым сябрам Алесем Клышкам, працягваем нашае сумоўе. Сёння ты, Алесь, прычасціўся, віншую цябе са Святым Прычасцем.

**А.К.:** *Дзякуй!*

**І.М.:** Я думаю, што гэтая прысутнасць самога Госпада ў тваім сэрцы дапаможа нам казаць з табой сёння тое, што пойдзе на карысць нам з табой і тым, хто нас пачуе.

**А.К.:** *Спадзяюся, таму што Гасподзь сказаў сваім вучням, не бойцеся, калі будзеце прамаўляць, размаўляць на мовах, зразумелых гэтым людзям, і вы будзеце казаць ім тое, што хацеў сказаць ім Я.*

**І.М.:** І калі вы будзеце гаварыць у імя маё, то не вы будзеце гаварыць, а Дух Святы будзе вамі прамаўляць. Госпадзі, хай будзе так! І ў нашым сумоўі. Учора мы спыніліся на той ноце, што вораг распальвае недавер, каб з памяці грэшніка сцерці: мы маем вечнае, тут і цяпер, Царства Нябеснае ў сэрцы. Яно ў табе, тут пасля Прычасця. Але мы целам жывем у наваколлі прыродным і сацыяльным, асабліва ў сацыяльным наваколлі яшчэ да Царства Нябеснага далёка.

**А.К.:** *Я сёння прыняў Цела Гасподняе, прычасціўся Крыві і Цела Гасподняга, і я магу сцвярджаць, спадзявацца, што пэўны час Цела Гасподняе будзе панаваць і ў маім целе. Я не магу адкінуць сваю зямную, матэрыяльную існасць на гэтай зямлі, адчляніць яе ад духоўнага памкнення і духоўнай вышыні.*

**І.М.:** Так, Алесь, і я спадзяюся, што адказ на маё пытанне… Я сёння не прычашчаўся і таму мая грэшная душа і плоць яшчэ больш завязла ў гэтым свеце, асабліва ў соцыуме, які яшчэ далёкі ад стану Царства Нябеснага…

**А.К.:** *Чаму я і прыязджаю час ад часу сюды ратаваць інака Мікалая ад гэтых вось спакусаў, гэтых ухілаў…*

**І.М.:** Вось такая ў мяне спакуса, Алесь, ізноў вярнуцца ў тыя віраванні, у тыя бурапенныя станы, якія віруюць вакол нашага вока тайфуна. І не магу не вярнуцца ў 1918 год, калі адбылася можа найвялікшая катастрофа, на якую яшчэ мала хто звяртае ўвагу. Менавіта на 1918: іншыя даты ставяць знакавымі і нешта яны прамаўляюцца, а што за гэтым стаіць – кожны разумее па-свойму. А вось 1918 быў годам, я б яго назваў 41-м годам хрысціянскай дзяржаўнасці. Чаму так? Яна пачалася ў Еўропе: хто б і што б ні казаў, але абвергнуць гэта вельмі цяжка. Яна пачалася ад роўнаапостальнага Канстанціна, хрысціянская Еўропа, хрысціянская дзяржаўнасць у Еўропе. Што адбылося ў 1918-м годзе? Дзьве найвялікшыя хрысціянскія дзяржавы ўсіх часоў і народаў – Нямеччына і Святая Русь пацярпелі крах, сапраўды 41-шы год. Яны былі акупаваныя нячыстай сілай. Рухнула Святая Русь і яе галава, яны былі знішчаны антыхрыстам. І з гэтага, менавіта з 1918 года пачалося чацвертаванне цела Святой Русі, вынішчэнне сяшчэнства, творчай інтэлігенцыі, дваранства, сялянства – увесь цвет – і гэтыя ахвяры на сотні мільёнаў… Што адбылося ў Нямеччыне? Таксама шматвякавая хрысціянская дзяржава рухнула, і акупаваная была фактычна той самай антыхрыставай сілай. І вось фактычна ўсё паўночнае паўшар’е апынулася пад антыхрыставай акупацыяй. Хрысціянская дзяржаўнасць набыла свой 1941-шы год, але ў сімвалічным сэнсе гэты 1941-шы год хрысціянскай дзяржаўнасці працягваецца і ажно да пачатку трэцяга тысячагоддзя Хрыстовай эры. Сёння тыя ж сілы пануюць і ў ЗША (дарэчы, я іх заву США – сеанізаваныя штаты Амерыкі), і ў секулярызаванай Еўропе, і ў Маскве, і ў Кіеве, і толькі Белая Русь з’яўляецца ў гэтым віраванні антыхрыставых сіл своеасаблівым вокам тайфуна: тут мы назіраем, і гэта я назіраю ўнутры сумоўя Царквы і дзяржавы. Дзяржава Белай Русі заключыла пагадненні з Царквой: усе ведамствы, воінскае ведамства, міністэрства адукацыі, і аховы здароўя і іншыя маюць пагадненні з Царквой. Я вось ужо сам сёмы год у Слонімскай гімназіі факультатыўна вяду курс “Асновы хрысціянскай культуры”. Мы выступаем перад воінамі, перад супрацоўнікамі культуры, мяне запрашаюць і ў вышэйшыя навучальныя установы

выступаць з паведамленнямі, з дакладамі. На навуковых канферэнцыях адбываецца адраджэнне сімфоніі Царквы і дзяржавы на маленькім пакуль кавалачку Русі, але ў яе сэрцы – на Белай Русі. І вось вобраз 1941 года, таго, каляндарнага, калі ізноў жа вораг сутыкнуў на смяротныя сечы ўжо ў другі раз у сусветнай вайне два найвялікшыя хрысціянскія народы – нямецкі і святарускі. Вось гэты вобраз таго 41-га года пашырыўся ў мяне на ўсю амаль ужо двухтысячагадовую гісторыю хрысціянскай дзяржаўнасці, якая пасля сваёй вялікай гістарычнай кульмінацыі ў XIX стагоддзі абрынулася менавіта ў 1918 годзе. І вось той 1941-шы год працягваецца. Белая Русь, яна ў тым 1941 годзе была таксама своеасаблівай зонай, больш чым на палову свабоднай ад акупацыі, партызанская рэспубліка. Дарэчы, гэты вобраз можа працаваць у розных сэнсах, у тым ліку і духоўным. І вось для мяне гэтыя два вобразы 41-га і 45-га гадоў, калі Гасподзь пасля такіх іспытаў, пасля безнадзейна прайгранага пачатку 41-га дараваў бліскучую перамогу ў 45-тым годзе хрысціянскіх сіл над антыхрыставымі. І вось гэты стан, я быў тады малы, ад паўтара гадочкаў да чатырох з паловай пабыў пад акупацыяй. 1941 год у мяне сімвалізуецца са станам такога няпэўнага голаду (яно захавалася), такога напружання, змагання за выжыванне (гэта засталося), а рэха 1945-га гучыць да гэтай пары: я бачыў ужо радасць людзей, якую не прыдумаеш, не навяжаш ні загадамі, ні пастановамі не ўкладзеш у чалавечыя сэрцы. І вось гэтыя два сімвалы ў мяне сканцэнтраваліся ў вершы “Перамога будзе за намі”, якія пашыраецца на глабальныя і 1941-шы, і 1945-ты гады хрысціянскай дзяржаўнасці.

…як з Богам пачалі вайну
ў бясоўскім асляпленні —
Бог сорак першы папусціў —
для ўразумлення…
…пакаяліся —
Перад Госпадам Распятым… —
Праз церні — Бог даў нам —
сорак пяты!..
…затым ізноў — вайна з Царквой —
на вынішчэнне…

і… быццам сорак першы йзноў —
для ўразумлення…
…пакаемся, браты…
У будні й святы…
Душы ўз’арэм рупліва, як араты,
Малітваю і працаю зацятай…
І… зноў Гасподзь пашле нам —
СОРАК ПЯТЫ!..

Дык вось у 1941 годзе хрысціянскай дзяржаўнасці, у якім мы жывем амаль ужо цэлы век, я прадчуваю сэрцам яе 1945-ты. Менавіта хрысціянская Еўропа прыйдзе ў свой 1945-ты год хрысціянскай дзяржаўнасці, перамогі над антыхрыставай акупацыяй хрысціянскай Еўропы.

## ДРУГАЯ ЧАСТКА

**А.К.:** *Апошнім часам я вельмі ўважліва сачыў за дзейнасцю розных грамадскіх колаў, пачынаючы ад Царквы, дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, і ўладных сродкаў, і апазіцыйных, і літаратурных, і мастацкіх. І прыйшоў да якой высновы: кожны паасобку намагаецца даказваць сваю праўду, сваю ідэю. І што кідаецца ў першую чаргу ў вочы: гэта безапеляцыйнасць, гэта жаданне любым шляхам даказаць, так бы мовіць, ганебнасць і невартасць той думкі, якая не супадае з тваёй. І на гэтай раллі ўзрастае варожасць, непаразуменне, адасабленне (асабабленне). І ў рэшце рэшт наша краіна можа атрымаць дзесяць ці колькі там мільёнаў (ужо менш) паасобку існуючых душаў, целаў, розумаў і г.д. У адным са сваіх інтэрв'ю на пытанне "Што хвалюе больш за ўсё на сённяшні дзень?" я адказаў на хвалях радыё, што мяне хвалюе раз'яднанне эліты, непаразуменне і яе featnabakovasc. У пэўным сэнсе featnabakovasc павінна існаваць як розныя погляды, і ў навуковых, і ў філасофскіх пытаннях. І на сённяшні дзень, як акрэсліў інак Мікалай галоўную тэму і галоўную ідэю сённяшняга дня, гэта ідэя выжывання. І адчуванне сур'ёзнасці пагрозы не толькі краінам, грамадствам, а мы бачым, якое хісткае існаванне чалавека на гэтай зямлі, – а духоўнага знішчэння тых каранёў, якія мы на сённяшні дзень толькі-толькі пачынаем нейкім чынам адраджаць і ўзнаўляць. І вось што, браце Мікола, клапоціць, што, калі пачынаеш звяртацца да людзей, у першую чаргу чуеш крыўды ад іх, чуеш нейкую прыхаваную зайздрасць, нежаданне зразумець другога чалавека, пэўнае непрызнанне дасягненняў, велічы ці, на самай справе, годнасці таго ці іншага чалавека. І гэта, між іншым, пераносіцца і на суполкі, і на нейкія аб'яднанні, і на рухі, і г.д. Мяне калісьці ўразілі словы нашага беларускага, я лічу, аднаго з самых выбітных дзеячаў нашага беларускага існавання Зянона Пазьняка. На старонках газеты "Народная воля" ён напісаў артыкул "Сям'я". І прагучалі адны толькі словы, і вось яны ўвайшлі ў маё разуменне: трэба берагчы кожнага беларуса, кожную беларускую сям'ю. Вось гэта той падмурак, з якога пачынаецца ратаванне нацыі і ратаванне ўсёй зямлі. Я рэдка гляджу*

*тэлебачанне, і ў той жа час вось гэтыя падзеі, што зараз адбыліся катаклізмы – з цунамі, землятрусамі, на абшарах усёй зямлі, яны маюць не лакальнае значэнне, а я б сказаў усеагульнае. Я пераканаўся яшчэ раз у тым, што людзі паасобку не могуць выжыць, людзі павінны адчуваць апошнія часы, якія прыходзяць на зямлю. Так яно і ёсць: усялякія справы, усялякае нараджэнне заканчваецца смерцю. І нас не павінна гэта палохаць, як і фізічная наша смерць, так і фізічнае ператварэнне нашай зямной абалонкі – яно непазбежнае. Гэта мы ведаем і са Святога Пісання, мы ведаем і з Евангелля. І ў той жа час чалавек жыве так, быццам бы ён будзе жыць тут усё жыццё, і больш за сваё жыццё. І ён будзе працягваць і працягваць яго бясконца. Адкуль пасеялася ў чалавечыя сэрцы вось гэтае перакананне вельмі доўгага, доўгага зямнога шляху? Я, відаць, думаю так, што гэта адна з сістэм самазахавання. Таму, калі чалавек пачне асэнсоўваць хуткасць свайго зямнога жыцця, хуткасць свайго існавання фізічнага, ён страціць шмат з тых каштоўнасцей, якія на сённяшні дзень ён для сябе паставіў на самы верх. І вось першае, што клапоціць: непаразуменне людзей аб тым, што трэба спяшацца на самай справе – прымірыцца, каяцца, трэба спяшацца абудзіць любоў у сваім сэрцы. Сёння, будучы на споведзі, мне бацюшка кажа: "А паспеў ты з усімі прымірыцца, ці ўсім ты дараваў"? Я ведаю, што трэба прыходзіць з такім вынікам падрыхтоўкі да споведзі. І першы раз, калі мне калісьці задалі такое пытанне, я здзівіўся. Думаю, чаму я павінен дараваць крыўдзіцелям, сваім ворагам? І цяпер прыходжу толькі да яснай высновы: і я апошні верш напісаў, дзе я параўноўваю крыўду з хлудам. Гэты верш быў пакладзены на песню:*

*Гасподзь даруе і я дараваў,*
*Крыўда пустая – стрэмка злая,*
*Я моўчкі з любоўю яе дастаў*
*І больш не ўспомню, больш не ўзгадаю.*

*Мы ўсе звяртаемся да Бога, каб ён нам дараваў нашыя правіны і не ўзгадваю нашыя хібы. І калі рыхтуемся да споведзі, у спавядальных малітвах ёсць такія словы:*

*“Госпадзі, калі Ты прадставіш перада мной усе мае праграшэнні, то хіба ўстаю я, хіба змагу я ўзняць вочы да неба? Госпадзі, не знішчай мяне”. Чаму ж мы, калі сустракаем людзей, нібыта не вартых даравання, не вартых паразумення, як інак Мікалай казаў, людзей з розным тварам, колерам і рысамі, мы пачынаем выбіраць: каму даравацъ, каму не даравацъ, каго асудзіць, а каго пры выпадку і забіць. І вось мы пачынаем браць на сябе функцыі неналежныя нам: не хацелася б гаварыць, але ж функцыі Госпада Бога – быць суддзямі тут на гэтай зямлі. І гэта пачатак канца, канца нашага шляху да ратавання. Я не магу сёння падзяліць сацыяльную дзейнасць чалавека, сямейную яго, творчую – таму што гэта ўсё адзінае. Чалавек — як гэты праектар, ён сябе пераносіць з адной дзейнасці на другую, са сваімі думкамі. Як казаў паэт Булат Акуджава ў сваіх песнях, хто як бачыць, так і піша, так і спявае. І звяртаюся зноў да гэтай кніжкі “Вучэльня пакаяння” ігумена Піліпа (Сіманава). Ён казаў, што трэба нам змагацца не з дзеямі чалавека, не з яго матэрыяльнай выявай – усё пачынаецца з яго духоўнага фармавання, усё пачынаецца з яго думак. І вось на ўзроўні думак, калі будзе ў нас выхаванне нацыі, мы атрымаем матэрыяльны прадукт. На сённяшні дзень я вельмі ўдзячны Богу. Сёння я ішоў, глядзеў на гэтыя краявіды, мы з інакам Мікалаем падняліся на гарышча гэтай сядзібы Якава, і перад намі быў гэты абшар Жыровічаў, гэта і вясёлка, гэта і неба, гэта і трава, гэта і квецень дрэваў… І я думаю: Божа, ну што можа прымусіць чалавека да знішчэння роднага ўсяго? Адказ просты: нелюбоў. І калі б я спусціўся з гэтага гарышча і пайшоў, не дай Бог каго пакрыўдзіў, зрабіў бы якое зло, якая былы б цана майму гэтаму любаванню зямным хараством, гэтым наваколлем. Вось гэтая супярэчлівасць нашага жыцця, нашай дзейнасці, калі мы падпарадкоўваем сваю душу, свае думкі мэтазгоднасці, матэрыяльнай нейкай для сябе карысці. У той жа час забываемся, што, калі пачынаецца дзейнасць супраць сваёй душы, чалавек пачынае матэрыялізаваць тое, што нашэптвае, тое, што яму, так бы мовіць, падкідвае вораг роду чалавечага. І я не бачу на сённяшні дзень іншага шляху, як усясветнае, хай сабе наша ўсебеларускае пакаянне і ўсёдараванне. Дарэчы, гэта*

*тычыцца не толькі людзей, якія, адкідваюць сённяшнюю пазіцыю краіны, кіраўніцтва, але ж і самога кіраўніцтва. Я не бачу крокаў з боку кіраўніцтва дзяржавы насустрач тым, хто сёння па тых ці іншых умовах не прыйшоў да прызнання, да ўхвалення таго, што робіцца будзем казаць афіцыйнымі коламі. Ёсць такое добрае параўнанне гэтага людскога паразумення – круглы стол, калі людзі побач, і міжволі, калі чалавек глядзіць наперад сябе, ён ахоплівае амаль 90% той прасторы, якая знаходзіцца перад ім. Карацей, амаль усё тое, што знаходзіцца на даляглядзе. І вось гэты круглы стол дае магчымасць чалавеку паглядзець у вочы, і на яго паглядзяць, і ён убачыць усіх. Я не веру ў тое, што тыя ж людзі, якія на сённяшні дзень запісаныя ў апазіцыянеры, такімі з'яўляюцца насамрэч. Распачалася нейкая вельмі сур'ёзная брудная справа супраць Алеся Марачкіна. Я бачу, як робяцца напады на Уладзіміра Арлова, як не ўспрымаюцца пазіцыі Сяргея Законнікава, чаму сённяшніх пісьменнікаў я даўно ўжо не бачыў усіх разам. Каму гэта на карысць?.. Калісьці ў гісторыі, і ў гісторыі, якую ўзгадаў сёння інак Мікалай, знішчэння царскай сям'і, знішчэнне стаўленіка, памазаніка Божага, яно прывяло да жудаснага злачынства, знішчэння ўсяго роду. Што гэта дало? Хто ўхваліў гэта? Ці не Госпаду гэта было патрэбна, ці гісторыі? Гэта абрынулася адной бядой на род чалавечы. Госпадзі, навучы мяне быць паслухмяным уладам, нада мной пастаўленым. І ў той жа час хочацца сказаць, калі Гасподзь табе даў уладу, трэба берагчы кожнага чалавека.*

**І.М.:** Каб мы спалучалі ў сваім сэрцы невычэрпную любоў да ўсяго тварэння Божага, да кожнай душы чалавечай, і ў той жа час мелі мужнасць называць рэчы сваімі імёнамі, так як мы сапраўды сэрцам гэта адчуваем, але не з нянавісцю. Можна назваць рэчы сваімі імёнамі і кіпець нянавісцю, можна амаль так назваць гэтыя рэчы з любоўю, і яно зусім іначай будзе ўспрынята, і пойдзе на карысць душы, тым, каму ты так кажаш, і на набліжэнне ўсіх нас да задумкі Божай.

Браты і сёстры! Свята нашага сумоўя працягваецца. Заўтра 20 траўня 2008 года, свята Жыровіцкай іконы Маці Божай. Алесь Клышка, брат Іакаў, гаспадар, і я, грэшны інак Мікалай, працягваем нашую размову. І вось хочацца ізноў

успомніць, што аб кожнай душы ёсць думка Божая, непаўторная, і кожная душа, створана паводле аблічча і падабенства Божага, непаўторная, унікальная. Толькі калі вобраз Богачалавека як эталон, па якім мы ўсе сатвораныя, так скажам, будзе між намі, і будзе адчувацца сэрцам, толькі тады мы зможам пры нашым непадабенстве і немагчымасці змяніцца, ўсё ж такі чуць адно аднаго, слухаць адно аднаго. І каб любоў пакрывала ўсё наша непадабенства. А калі мы адчуваем, што бліжні адхіліўся ад задумкі Божай, і аб'ектыўна ўжо ўвесь свой талент, жарсць, скіраванасць аддае ўжо не таму, што Гасподзь задумаў, то ён, аб'ектыўна на яго думку, служыць ужо сіле супраціўнай. Каб ён мог сказаць брату аб гэтым, але так, каб не пакрыўдзіць і не ўзбудзіць у яго непрыязнь, нянавісць. Вось гэтую меру, сказаць тое, што брат усё цалкам прыняць не можа, але сказаць так, каб ён паслухаў і паспрабаваў пачуць, што яму гаворым. Вось у нашых справах набыць адзінства і ў сем'ях, і ў сябрынах, і адзінства дэманкратычных сіл, трэба разумець, што яно немажлівае само па сабе на свецкай аснове, калі вобраз Богачалавека не будзе пры гэтых пошуках у кожным перад ім стаяць. Ну, а хто шукае талерантаў за межамі Богачалавека Хрыста і нават лічыць палітычна некарэктным яго ўспамінаць публічна, і спрабаваць нейкія сацыяльныя згоды шукаць без Хрыста — няхай тады гэтыя браты шукаюць згоды, але хай разумеюць, што ў хрысціянскай Беларусі, праваслаўнай Беларусі, ім будзе вельмі няпроста. Яны павінны ведаць, што яны аб'ектыўна працуюць супраць Беларусі, нават калі гэта адбываецца і на беларускай мове. Калі вобраз Хрыста, Богачалавека і яго царквы – за межамі іхных пошукаў адзінства. Але хаця б мы маглі іх выслухаць, і яны маглі нас выслухаць без гневу і з разуменнем, тады іхныя задумкі могуць быць рэалізаваныя ў іншых краінах. А ў праваслаўнай Беларусі іх будзе рэалізаваць цяжка і немажліва. Ну і, канешне, ад таго, што ідзе вайна, і супраціўнікі нашыя адкрыта сказалі, што ў іх галоўны вораг цяпер – праваслаўе і святарускае племя, якое трэба скарыць, што на нашых вачах будзе разгортвацца найвялікшая драма гісторыі: пакарэнне самага непакорнага святарускага племені. І вось гэтая вайна цяпер ідзе: 1941-ы год

хрысціянскай дзяржаўнасці працягваецца, акупацыя Еўропы антыхрыставымі сіламі працягваецца. Ну і вось ва ўмовах гэтай вайны сэрца хрысціянскай Еўропы – Беларусь, мы ўсе, як сыны гэтага сэрца, павінны разумець гэтую сітуацыю, не трацячы браталюбства, любоў. Вось у такой сітуацыі шукаць мажлівасці хаця б слухаць адзін аднаго без гневу.

**А.К.:** *Мы на сённяшні дзень перажываем проста самыя лепшыя часы гэтай урачыстасці праваслаўя. Відаць, на абшарах Беларусі пасля 1917 года не было часу, калі людзі так апантана, так шчыра, з падтрымкай уладаў, Царквы і дзяржавы, адбудоўвалі праваслаўныя святыні. І ў той жа час узнікае пытанне: мы кожны раз, арыентуючыся на Расію, міжволі гэта робім таму, што побач з намі існуе тая вялікая краіна, якая сваёй фінансавай магутнасцю можа схіліць нас у той ці іншы бок, а хутчэй за ўсё ў той, які ёй патрэбны, і рабіць тое, што ёй заўгодна ў той жа Беларусі. Узнікае пытанне наступнае да інака Мікалая. Паважаны браце Мікола, а ці не можа быць так, што на змену ўладзе сённяшняй у Беларусі з праваслаўным ухілам прыйдзе ўлада ў дапушчальным варыянце каталіцкая? Што я лічу не самы лепшы, але на тых умовах найбольш добры варыянт, пратэстанцкая, уніяцкая, можа лютэранская і г.д. цэрквы? Ці не будзе разбурэння ўсяго таго, што было збудавана, ці не будзе пасеяна сярод людзей роспач, варожасць, агрэсіўнасць? Ці трэба нам рыхтавацца і быць гатовымі, і ў рэшце рэшт думаць аб магчымасці варынту перажыць вось гэтыя пакуты, якія перажыла ў свой час першая хрысціянская Царква, якая стала потым катакомбнай? Ці не чакае нас вось гэты час, ці не папусціць Гасподзь Святой Беларусі такія выпрабаванні?*

**І.М.:** Святыя айцы з даўніх часоў любілі паўтараць: у часы спрыяльныя, дзякуй Богу, і рыхтуйся да ганенняў, у часы ганенняў, дзякуй за іх Богу, і вер, што Гасподзь дасць зноў часы спрыяльныя. Вось гэтую даўнюю мудрасць святых айцоў мы павінны як мага часцей успамінаць. Шляхі Божыя несправедныя, і гісторыя сведчыць, што сваім абраннікам Ён дае часта вельмі суровыя іспыты. Лёс апосталаў Хрыстовых, якія амаль усе прынялі пакутніцкую

смерць, апроч апостала Іаана Багаслова, лёсы шмат якіх на працягу хрыстовай эры ягоных абраннікаў былі вельмі трагічнымі. Госпад часам дае перыяды росквіту, але калі ўнутры іх адбываецца нешта нядобрае, адыход унутраны, адыход сардэчны ад Госпада, то вонкавы гэты бляск можа быць і адняты. І вось нядаўна было, у нядзельку, паміналі ў храме Евангельскі аповед пра раслабленага, які 38 год быў у раслабленні і Гасподзь падняў яго па веры ягонай. І сустрэўшы яго потым у храме, Ён кажа, ну, ты падняўся, грахі табе адпушчаныя, ну, ідзі, і не грашы болей. Але калі пачнеш грашыць, глядзі, каб не здарылася чаго горшага, чым было. Таму ты кажаш пра спрыяльныя для праваслаўнай Беларусі часы сённяшнія. Так, дзякаваць Богу, Царква і дзяржава ідуць разам і нашая тысячагадовая агульнанацыянальная традыцыя сімфоніі Царквы і дзяржавы, іх адраджэнне мяне вельмі радуе. Што будзе далей? Ну, далей адкрыта ўсё і прадказана ў Евангеллі: усясветнае панаванне антыхрыста, будзе яно, і ўсё нават па свецкіх мерках ідзе да гэтага. І тое, што антыхрыстава акупацыя паўночнага паўшар’я амаль завершана – гэта факт, і тое, што вось тая самая ваенная машына гэтай антыхрыставай акупацыі замыкае свае клешчы, амаль як у 1941-м годзе нават яшчэ і ў Сярэдняй Азіі яна ўжо мае апорныя пункты. Але ж Святая Русь жывая, як у 1941-м годзе яна была жывая, так і цяпер. Беларусь пакуль яшчэ не акупаваная вось гэтай антыхрыставай сілай, наадварот яна, як праваслаўная дзяржава, адраджаецца. І вось гэты мой верш, я яго паўтару яшчэ раз, ён навеяны менавіта сённяшняй сітуацыяй.

Беларусь

…Царкоўнае і зямное права
Злучана ў сэрцах напраскі…
І ўстаяла — праз вякі —
Як Праваслаўная дзяржава…
…А дух ліхі не для забавы —
Як люты звер на нас паўстаў:
Бо славім Госпада Хрыста
Сімфоніяй Царквы й Дзяржавы…

Усе, хто адчувае нянавісць да гэтай сімфоніі, да сённяшняй сітуацыі, да праваслаўнай Белай Русі… Так,

Гасподзь можа папусціць, што яны ізноў возьмуць свецкую ўладу з дапамогай той самай распуснай дзеўкі НАТА. Ну, што ж, і ў гэтых умовах Гасподзь Хрыстос паказаў на ўсе вякі, як трэба дзейнічаць:

…Цэсару — цэсарава… Богу — Богава… —
Дзеямі й сэрцам мусім аддаць…
І Беларусь — як Нявеста Хрыстова —
Будзе спрадвечнай і вечна новай
Божай Задумцы — адпавядаць…

**А.К.:** *І ў той жа час, паважаны браце Мікола, адкуль усё пайшло? Дзе былі карані, чаму так атрымліваецца, што з прыходам новай улады, яна ў першую чаргу займаецца знішчэннем усяго таго, што было перад ёй. Прыйшлі бальшавікі, яны цалкам пачалі знішчаць веру праваслаўную. Будзем казаць аб'ектыўна, не толькі праваслаўную, але і веру ў Бога, якімі б шляхамі не ішоў чалавек. І так доўжыцца ўвесь час. І чаму ўзнікла маё пытанне, што калі праглядзець увесь гістарычны цыкл, то нас чакае тое самае, што чакала першых хрысціян. Калі Гасподзь ішоў такім пакутлівым шляхам на Галгофу, Ён павядзе гэтым шляхом і народ. І сёння, я паўтараю, мы перажываем хвіліны свята. Пасля свята прыходзяць будні, і я хачу яшчэ раз задаць пытанне: не прасторны адказ пачуць, а канкрэтны, як мы бачым, да чаго мы павінны быць гатовы і што можа чакаць сёння ўсіх шчырых вернікаў, прычым да чаго яны павінны быць гатовыя і душою і целам?*

**І.М.:** І душою, і целам трэба быць гатовым да паўтарэння 1918 года. Менавіта гэтага 1918-га. Тыя, хто ўтварыў гэты 1918 год, 1941-ы год хрысціянскім народам, яны дзейнічалі заўсёды пад псеўданімамі. То бальшавікі, то там камуністы, то ЧК — гэта ўсё псеўданімы, каб прыкрыць тых спадкаемцаў, якія ўтварылі 1918 год, якія і сёння дзейнічаюць пад псеўданімамі, і якіх і сёння, як і ў 1918-м і раней, у ранейшыя гады, якія вялі да гэтага 1918 года, калі была знішчана галава Святой Русі – царская сям'я, і цвет яе – святарства, дваранства, цвет воінства, сялянства і г.д., шмат дзесяцімільённыя кровапусканні, якія ўтварылі. Яны ж,

якія тады ненавідзелі Святую Русь, ненавідзяць яе і цяпер, яны прыдумалі мноства псеўданімаў. Адзін з псеўданімаў – 1937 год. Чаму 37-ы год? Вось з 1918 трэба пачынаць і ісці ажно да 1991 года, калі тую ж дзяржаўную сілу Святой Русі яны сакрушылі, тыя ж самыя антыхрысты, вось так іх трэба называць, рэвалюцыянеры, антыхрысты, якія распальвалі рэвалюцыі самых часоў пачатку хрысціянскай дзяржаўнасці. Так што без усялякіх псеўданімаў, вось менавіта ёсць хрысціянская дзяржаўнасць, а ёсць ліберальна-дэманкратычная рэвалюцыя, антыхрыставы рэвалюцыі і так званага Новага часу, якія вякамі ідуць, якія ідуць паслядоўна, і арганізатары, заказчыкі гэтых рэвалюцый. Цяпер яны ўжо і аранжавыя, і блакітныя, і ўсялякія акрасы маюць, а раней яны чырвонымі былі, гэта ўсё псеўданімы. Дык вось гэтыя антыхрыставы рэвалюцыі супраць хрысціянскай дзяржаўнасці выконваюцца тымі самымі заказчыкамі, што і ў вякі мінулыя. Так што трэба да гэтага быць гатовымі, але шляхі Божыя неспаведныя, Гасподзь не хоча нас уразумляць такімі сродкамі, але Ён пасылае такія ўразумленні, як рэвалюцыйныя катастрофы, калі ўжо мы сэрцам сваім сапраўды адышлі ад Яго. Так у цэлым і індывідуальна, і сямейна, і нацыянальна, калі ўжо іншыя сродкі ўразумлення не дзейнічаюць. Але ў якім вось стане мы знаходзімся? Ці працягваем мы, як народ, рабіць масавае вынішчэнне немаўлятак у чэраве маці, значна непараўнальна большае па маштабах, чым цар Ірад тварыў? Не, мы працягваем масава, штодзённа вынішчаць сваіх дзяцей. Наколькі Гасподзь будзе цярпець такое, колькі яшчэ – гэта самае страшнае злачынства перад Богам – невядома. Гэта першае. Вось наш грэх, які працягваецца. Гасподзь сказаў таму расслабленаму: ідзі і не грашы, бо будзеш грашыць – будзе яшчэ большая напасць, чым была. Мы працягваем. Часы спрыяльныя цяпер? Так, спрыяльныя, кожныя шэсць секунд вынішчаецца немаўлятка ў чэраве маці. Той самы канвеер вынішчэння хрысціянскіх народаў быў запушчаны пасля Другой сусветнай вайны і сотнямі мільёнаў вынішчаюцца немаўляткі нашымі ж рукамі, бо тыя ж заказчыкі антыхрыставых рэвалюцый заказваюць нам гэты канвеер смерці. Так, працягваем грашыць. Колькі Гасподзь будзе цярпець, невядома. Самы вялікі цуд, які толькі ведае свет –

гэта Цела і Кроў Выратавальніка. Яна ў тысячах праваслаўных храмаў па ўсіх абшарах зямлі штодня амаль на літургіях ізліваецца. Кроў Выратавальніка, самы вялікі сродак ацалення нашых душ і целаў. Мы амаль ігнаруем гэта, мы прычашчаемся час ад часу, мы ігнаруем самы вялікі дар Госпада, мы зневажаем, мы пагарджаем гэтым адкрыта. Тым не менш, Гасподзь дае нам, працягвае гэта даваць. Кожны з нас можа прыйсці да гэтага ратунку, аднавіцца, адкінуць нянавісць. Тыя ж самыя антыхрысты, заказчыкі рэвалюцый і выканаўцы іх, яны могуць прыйсці ў праваслаўны храм, пакаяцца, прыняць Цела і Кроў Збаўцы, і Гасподзь даруе і ім, і саўлы – адзін з лютых ганіцеляў хрысціян – могуць у адно імгненне зрабіцца паўламі, ніхто ім не замінае. Яны гэтага не робяць. Ну што ж, Гасподзь і гэта церпіць, яны ведаюць, каму яны служаць, яны свядома гэта робяць. Госпадзі, уразумі іх, як ты сам хочаш. А мы, якія нібыта свядома сатане і не служым, мы ігнаруем усё роўна споведзь і Прычасце. І процьму іншых грахоў робім. Мы гадзінамі, начамі сядзім каля гэтага сэксабачара, сем’ямі, і бацькі, і дзеці глядзяць гэты разбой, распусту дзень і ноч; гэта ж таксама ўжо большай знявагі няма. Мацюганне стала мовай народа. Гэта знявага Духа Святога, Божай Маці, маці-зямелькі. Народ мацюгаецца, закаханыя перасыпаюцца матам, проста як разыначкамі без усякай злосці. Гэта знявага Бога. І тым не менш, Бог дае спрыяльныя ўмовы, не карае строга. Так што калі мы шчыра паглядзім, як мы жывем, як мы адкрыта зневажаем Хрыста пры ўсіх Яго дарах, каму мы служым, заказчыкам рэвалюцыі і таксама свядома ці несвядома – усё гэта мы робім як племя, як народ. І калі Гасподзь вырашыць нас ізноў уразуміць такімі ж сродкамі, як у 1918 годзе, ну што ж, трэба быць гатовымі і прыняць гэта, як раскаяны разбойнік. Вось найвялікшы твор, які Алег Лойка зрабіў у бліскучым варыянце, вось з’явай нашай культуры, паэма раскаянага разбойніка “Стагоддзяў жырандоля”, выдадзена ўжо 25 тысячным накладам, і хораша ідзе, і чытаецца. Калі мы са стану нераскаянага разбойніка пяройдзем у стан раскаянага, вось мадэль пераходу чалавечага сэрца з разбойнага да пакаяннага стану там добра прапісана. Дык вось “Стагоддзяў жырандоля” наша яшчэ не запалілася:

Такі наш лёс бязлітасны,
Такая наша доля,
Яшчэ не запалілася
Стагоддзяў жырандоля.
Раскаяных разбойнікаў
Гасподзь заўжды прымае:
Труны нясуць да хвойніку,
А душы – у келлі раю.

**А.К.:** *І ў той жа час, браце Мікола, узнікае пытанне, прагучалі словы “нашымі рукамі”. Вораг працуе нашымі рукамі, рукамі вернікаў, праваслаўных людзей, якія хадзілі да Прычасця, да споведзі. І вось якая аналогія, які сюжэт ад пачатку хрысціянства да яго сярэдзіны, да нашага часу, чыімі рукамі ўсё рабілася? Чыімі рукамі Хрыстос быў узняты на Крыж? Мы ведаем, што сярод тых людзей, якія стаялі на плошчы і крычалі “распні яго!”, былі тыя, якіх ён лекаваў, вярнуў да жыцця. 1917 год, рэвалюцыя, пачалі паліць манастыры і храмы, тыя ж людзі, якія хадзілі да споведзі, да Прычасця, руйнавалі гэтыя храмы, зрывалі крыжы, і зноў жа ўзнікае пытанне: ці гэта спакусы, ці гэта заканамернасць: вораг нашымі рукамі разбурае нашыя святыні. І мне не зусім пераканана, вось мы неяк прывыкшыя да людзей звяртацца агульнымі катэгорыямі, а я прагну канкрэтыкі, мне не зразумела, усё гэта добра гучыць, але ж як падысці да простага чалавека, да шараговага беларуса і сказаць, што сёння ты павінен жыць вось так, і тады твой клопат пра тваю будучыню адаб’ецца на тваім дзіцяці, на тваім унуку, унучцы і г.д., на тваім родзе. У чым загадка, што тыя людзі, якія стаяць ў першых шэрагах вернікаў, сталі першымі ж і разбуральнікамі гэтых святынь і гэтай веры.*

**І.М.:** Чалавек, ты гаворыш пра шараговага чалавека, ну так, шараговы чалавек слабы, безабаронны. Калі ён трапляе ва ўмовы акупацыі, а Святую Русь акупавалі антыхрысты, банда гэтых рэвалюцыянераў, 40 тысяч гэтых антыхрыстаў было. І цяпер мы ведаем паімённа, хто гэта такія былі, якога роду племені, якой веры. Так, яны ўстанавілі страшэнны тэрор, якога не ведала яшчэ гісторыя,

нават у часы лютых ганенняў на хрысціян, бо тэхналагічныя магчымасці гэтага тэрору былі ўжо большыя і ва ўмовах такой акупацыі “здымай крыж, альбо сям’ю тваю панішчаць на тваіх вачах”. Некаторыя ішлі ў мучанікі, сотні навамучанікаў, дзесяткі тысяч навамучанікаў праслаўленыя ўжо, якія адмовіліся і ў якіх былі замучаныя сем’і проста на іх вачах. Але многія паддаваліся і здымалі крыжы Так, і такое было. Ты пытаеш, як нам дзейнічаць? Пакуль яшчэ гэтыя антыхрысты яшчэ не акупавалі нас, таму пакуль не трэба шараговага беларуса ні да чаго заклікаць, ён сам не дурны, ён ведае спрадвечную прымаўку: “Маліся, працуй і Бог дапаможа”. Таму беларус моліцца і працуе і не мітынгуе. А вось заказчыкі рэвалюцый зялёную моладзь распальваюць, выводзяць на плошчы і, як гарматнае мяса, карыстаюць для таго, каб скінуць уладу. Вось гэта яны ўжо ведаюць, што робіцца і чыімі рукамі, гэта лозунг “бі гояў рукамі гояў” ён ужо сотні тысяч гадоў дзейнічае. І вось цяпер якая стратэгія, стратэгія нацкаваць гояў на гояў, на вялікарусаў нацкаваць беларусаў, кіеварусаў, прыбалтаў і г.д. Гэта ўсё робіцца арганізавана, мэтанакіравана. А шараговы беларус усё гэта бачыць і ў прынцыпе ён не ўдзельнічае, як і ў часы гэтых паўстанняў супраць праваслаўнай манархіі ў XIX стагоддзі. Шараговыя праваслаўныя беларусы практычна не удзельнічалі ў гэтых бунтах. Заказчыкі падобных рэвалюцый тыя самыя былі, што і цяпер, і тыя самыя рукамі гояў супраць гояў іх распальваюць. Так што сёння трэба проста, каб тыя, хто адчувае ў сабе палітычны імпэт, сацыяльны тэмперамент, яны павінны даваць прыклад, які павінен быць праваслаўны чалавек, праваслаўны палітык: ён павінен маліцца, прычашчацца, спакойна дзейнічаць у тых рамках, якія яму Гасподзь даў сёння. Даваць прыклад здаровага сямейнага жыцця, канструктыўнай творчасці ва ўсіх галінах дзейнасці, і ніхто яму замінаць не будзе. А заказчыкі рэвалюцый хочуць, каб па іх сцэнарыях выходзілі на вуліцы, лямантавалі, сутыкаліся з органамі ўлады, вось ім гэта трэба.

Усходнееўрапейскія… Яны ім патрэбныя. Скажам, французы, ангельцы ў Афгане, у Іраку ўжо галовы класці неахвота, значыць, ім трэба ў Косава, ім трэба ўсходнееўрапейскія гоі для службы ў іх войсках, для іх глабальных аперацый у розных кутках планеты. Ну, а

галоўным чынам, канешне, галоўны вораг усё ж такі Масква: узяць праваслаўную Маскву, ізноў жа рукамі ўсходнееўрапейскіх, пажадана, салдацікаў. Ну, калі гаварыць адкрытым тэкстам, вось так. Дарэчы, ёсць лісточак “Айчына зямная і нябёсная”, ну дык на завяршэнне тут такія пытанні ёсць: навошта НАТАлітарнай дэманкратыі Русь Белая? Як сметнік для сённяшняга радыёактыўнага смецця. Навошта ёй Русь Вялікая? Як скарбніца прыродных рэсурсаў і жыццёвай прасторы, якія ў яе амаль вычарпаны. Навошта ёй Русь Кіеўская? Як жывы меч у сэрца Расіі Вялікай і трыадзінай Русі Святой, як Каін. Навошта ёй Русь Святая? Як Хрыстос Іудзе і тым, хто плаціў і плоціць яму. Сапраўды, уцаркаўлёныя праваслаўныя народы і дзяржавы непераможныя. І завяршаецца гэты лісточак вершам “Саюзная дзяржава”.

Не багаборны той саюз,
Адродзім з Божай дапамогай,
Не звяз заблуднікаў-нябогаў,
А Бела Русь, Святую Русь.

**А.К.:** *Чалавек праз свае кнігі, праз свае выступы, публікацыі, я маю на ўвазе літаратараў, святароў, людзей грамадскай дзейнасці, яны ратуюць усіх. І ўзнікае пытанне, а як ратаваць самога сябе?*

**І.М.:** Самога сябе можна ўратаваць, толькі пусціўшы ў сваё сэрца Творцу свайго, Богачалавека Хрыста. А гэта можна зрабіць толькі ў час Літургіі, прычасціўшыся Святых Хрыстовых Таін. Хто абмінае таго, па чыім абліччы і падабенстве ён сатвораны, хто таго абмінае, ухіляючыся ад Прычасця, той сябе не ўратуе.

**А.К.:** *Але ж вось, Мікола, на самай справе ўзнікае такое параўнанне з медыцынскімі парадамі: калі хочаце зменшыць верагоднасць захворвання ад мікробаў, часцей мыйце рукі. Мы ў пэным сэнсе абмываем сваю душу, калі часцей больш менш прыходзім да споведзі і Прычасця, ці так гэта?*

**І.М.:** Дык споведзь жа параўноваюць з лазняй для душы…

**А.К.:** *Вось я першы раз чую такое…*

**І.М.:** Калі мы рэдка ходзім у лазню, доўга не ходзім у лазню, мы адчуваем няўтульнасць, дыскамфорт цялесны. А калі мы зусім не змываем сваё сэрца на споведзі, яно камянее і робіцца нячуйным да грахоў, якія творыць чалавек. Яно жыве ў граху і думае, што яно жыве так, як трэба. І такім чынам, сэрцайка наша недаступным мы робім для таго, па чыім абліччы і падабенстве мы створаны. І мы не можам аб сабе думаць: яно запоўнена духамі цемрадзі, жарсці, якія ён нам падкінуў. І тады мы палоннікі, мы трапляем у палон. Вось гэты духоўны палон, запалоненасць сэрца духамі цемры, робіць нас цацкай у гульнях і лакальных, і глабальных гульнях антыхрыста. Адзінае выйсце – гэта прыйсці ў храм, пакаяцца, прычасціцца Святых Хрыстовых Таін. І тады будзе ў сэрцайку нашым Богачалавек Хрыстос, і ён дапаможа нам знайсці сваю сцяжыну.

**А.К.:** *Калісьці ў мінулых нашых сустрэчах мы закраналі пытанне крыжа, лёсу чалавека, які ён павінен данесці да апошняй святой брамы – да сустрэчы з Госпадам. Чаму так атрымліваецца, што самы цяжкі крыж прыпадае да самых упартых, да самых верных сыноў Госпада? І чаму атрымліваецца так, што тыя людзі, якія вялі самае праведнае чыстае жыццё, яны пры жыцці мелі самыя найвялікшыя пакуты? І толькі гэты шлях наканаваны кожнаму сапраўднаму верніку і сыну Госпада.*

**І.М.:** Богачалавек Хрыстос адказаў нам на гэтае пытанне Сваім шляхам. Ён узяў усе нашыя грахі на Сябе, Сам будучы бязгрэшным, грахі ўсіх мінулых, сучасных Яму і наступных пакаленняў, і пранёс і цяжар гэтых грахоў, і пакуту неразумення сваіх бліжніх, уключаючы і саміх блізкіх, бліжэйшых вучняў, якія разбегліся ў самы вырашальны момант. Ён паказаў, ну і сказаў: хто любіць мяне, бяры свой крыж і ідзі за мной. Толькі свой крыж сваіх немачаў, сваіх грахоў, так што адказ ён даў. І хто найбольш

у верны, той найбольш імкнецца ўпадобіцца. Прападобныя – гэта тыя, хто стараюцца ўпадобіцца. І гэта ён запрашае кожнага ісці ягоным шляхам. Хрыстос не ішоў бунтаваць супраць сучаснага яму цэзара. Ён не заклікаў нікога ісці на мітынгі, на дэманстрацыі. Ён заклікаў да пакаяння кожнага індывідуальна і ўсіх разам. Вось, сябры мае пытаюць: “Вой, чаму такія жорсткія? Вось мы выйшлі адзначыць нейкую дату, а нас пабілі…”. Ну, дык а чаму табе, як Хрыстос не зрабіць? Вось нейкая дата, дарагая табе: прыйдзі ў храм, памаліся, спавядайся, прычасціся, і адчуеш такую благадаць, што адзначыў гадавіну такім вось чынам. У храм дух ліхі не пускае, а заказчыкі рэвалюцый гукаюць да масавых сутыкненняў, ведаючы, што яны заказваюць, што яны хочуць атрымаць. Вось адказ на пытанне. Ты хацеў бойкі, ну ты і атрымаў. Хацеў бы ты благадаці, хацеў бы ты быць з Хрыстом, дык пайшоў бы і прычасціўся, і пусціў яго ў сваё сэрца. А так ты пусціў духа ліхога ў сваё сэрца. Яшчэ спакушаем бліжніх сваім прыкладам. І ў выніку атрымалася тое, што на радасць толькі духу ліхому і на засмучэнне Жывому Уваскросламу Хрысту, які назірае гэтыя бойкі і сумуе ад таго, што не за ім ідуць, а за антыхрыстам. Вось такі просты адказ. Прычашчайся – і будзеш з Хрыстом у сэрцы. І ніякія зямныя заказчыкі рэвалюцый табе не страшныя, ніякая антыхрыставая акупацыя табе не страшная, калі ў цябе ў сэрцы будзе Богачалавек Хрыстос, калі ты будзеш у ягонай царкве, якую брама пякельная ня здужае.

**А.К.:** *На самай справе, браце Мікола, узнікае такое параўнанне, што ўсялякія рэвалюцыі не прывялі да ўмацавання душы чалавека. Я прыводжу такі для сябе прыклад, што рэвалюцыя — гэта як датэрміновыя роды, што не можа нарадзіцца годнае, здаровае раней таго часу, які вызначаны прыродай, вызначаны Богам. Вось той жа чалавек, у якога праз дзевяць месяцаў павінна з’явіцца немаўлятка, павінна з’явіцца праз гэты тэрмін Усё, што з’яўляецца раней, гэта анамальна.*

**І.М.:** Яшчэ раз пра дух рэвалюцыі. Мы выпусцілі лісток “Дастаеўскі і Каліноўскі: спроба рэлігійна-маральнага супастаўлення лёсаў двух рэвалюцыянераў”. Дык вось аб

сутнасці рэвалюцыі вельмі моцна сказаў мітрапаліт Анастасій (Грыбаноўскі), з 1936 па 1964-я гады прадстаяцель Рускай паваслаўнай замежнай царквы. Рэвалюцыя сваімі найглыбіннейшымі каранямі выходзіць за межы прасторы і часу, спрадвечная барацьба зла з дабром, цемры са святлом, сатаны з Богам і складае найглыбейшую маральную аснову рэвалюцыі, яе патаемную душу і галоўную мэту. Усё астатняе, што звычайна характарызуе яе, гэта значыць палітычныя і маральныя перавароты, разгул крывавых жарсцяў, ёсць толькі знешнія вынікі ці сродкі гэтай барацьбы. Яны тычацца яе гэтак сама, як стрэлкі на гадзіннікавым цыферблаце да рухальнай прыхаванай ад нас спружыны. Рэвалюцыйны працэс працінае ўсю гісторыю свету. Першы акт гэтай драмы меў месца ў глыбіні нябёсаў, калі там адбыўся бунт супраць Творцы ў асяроддзі бясплотных духаў. Эпілог яе апісаны вогненнымі фарбамі на старонках Апакаліпсіса. Паўшы Дзянніца першы запаліў агонь рэвалюцыі ў свеце, не зрынуты за сваю дзёрзкасць з неба. Сатана памкнуўся ўцягнуць у гэтую сумную барацьбу і першага чалавека, настроіўшы яго супраць свайго Творцы. Атручаны назаўсёды атрутай гардыні, што прагучала для яго ў словах “будзеце як багі”, нашчадкі Адама ніколі ўжо не маглі самі ацаліцца ад гэтай непазбежнай хваробы. Сатана нябачна распальваў у чалавеку гэты згубны дух самасцвярджэння, які спакушаў яго супрацівіцца свайму Творцу, з’яўленне гуманізму, што паспрабаваў вывесці чалавека з-пад началенне Божаму аўтарытэту, каб абвясціць яго істотай самадастатковай і секулярызаваць усю культуру, якая ўзрасла на хрысціянскіх каранях, уяўляе сабой новы момант у развіцці і паглыбленні гэтай векавой драмы. Рэвалюцыя заўсёды прыходзіць са спакусай свабоды, прытым свабоды абсалютнай, Боскай, абяцанні якой гучалі ў словах спакусніка “будзеце як багі”. Рэвалюцыя заўсёды знаходзіць для сябе спажытак у гэтай неўміручай ілюзіі чалавецтва, за захапленне якой апошняе заўсёды плаціла такой дарагой цаной. Дух гуманістычнае свабоды, што пранік у нетры каталіцкай царквы, выклікаў тут надзвычайную рэвалюцыю, вядомую пад імем Рэфармацыя. Можна ўспомніць і перадсмяротную споведзь Жаны Ралан перад статуяй Свабоды, міма якой яе везлі на пакаранне: “О

Свабода, колькі злачынстваў робіцца ў тваё імя!”. Калі б нават рэвалюцыя і давала станоўчыя вынікі, гэтыя здабыткі не каштуюць чыстае слязы аднаго дзіцяці. Жыццё людзей тут служыць цэглай і кроў цэментам, іх пакуты – тынкам, жахі і зверствы – фарбай. Паводле прафесара сацыялогіі Сарокіна: рэвалюцыйная катастрофа пакідае пасля сябе такія культурныя разбурэнні і такія глыбокія духоўныя раны, якія не могуць залячыць цэлыя стагоддзі. Пушкін паказаў сапраўдную мудрасць, калі павучае нас вуснамі Грынёва ў “Капітанскай дачцэ”: “Лепшыя і найбольш трывалыя змены ёсць тыя, што паходзяць ад паляпшэння звычаяў, без усялякіх гвалтоўных змен”. Вось ты, Алесь, крануў тут дзевяцімесячны тэрмін выспявання дзіцяці. Дык вось гэта і ёсць выспяванне нашага сумлення, нашай уцаркаўлёнасці, нашага жыцця ў Хрысце. Вось што такое натуральнае выспяванне чалавечай душы, душы сям’і, душы племені. Але сатана сее свае гены, рэвалюцыйныя гены, праз нейкіх няўдалых, няўпісаных у кантэкст натуральнага развіцця людзей, і, распальваючы іх гардыню, робіць палітыканскіх лідараў, бунтаўнікоў і ўсіх завадатараў, якіх прыкмячаюць вось гэтыя самыя ўжо служкі антыхрыста, якія маюць чым плаціць гэтым небаракам. Вось яны іх збіраюць, прыкмячаюць, гадуюць, раскручваюць, робяць ім рэйтынг пэўны, плоцяць за ўтварэнне палітычнай партыі, і яны пачынаюць каламуціць. Заказчыкі ўжо рэвалюцыі ведаюць і актораў, і выканаўцаў там, салістаў, кардэбалет і г.д. Гэта ўжо, так бы мовіць, прафесійная справа прафесійных рэвалюцыянераў, служак антыхрыста. Так што і юны Каліноўскі, і юны Дастаеўскі трапілі вось абодва славутых беларуса пад уплыў трэцяга беларуса, старэйшага крыху па ўзросце, Бялінскага, які паказаў, што “мир устроен так подло, что для его изменения оправданы любые средства”. Вось і Дастаеўскі, і Каліноўскі, і іхныя юныя душы запаліліся гэтай заразай. І за бунт супраць праваслаўнай дзяржавы, законы якой адпавядалі запаведзям Божым і канонам Царквы, яны і атрымалі прысуд да пакарання смерцю. Дарэчы, за ўвесь XIX век пальцаў дзвюх рук хопіць, каб назваць тых, хто вось за такое дзяржаўнае злачынства былі асуджаны да пакарання смерцю. Вось які гэта быў “жорсткі” рэжым: за цэлы век каля дзесятка бунтаўшчыкоў ён прысудзіў да пакарання

смерцю. А калі гэтыя рэвалюцыянеры ўжо ўзялі антыхрыставу ўладу, то толькі за першую трэць XX стагоддзя дзесяткі мільёнаў закатаваных голадам і жалезам. Вось які іх гуманістычны дэманкратычны лад. І вось яны ўтварылі гэты 1941-ы год хрысціянскай дзяржаўнасці, якая так гуманна са сваімі магільшчыкамі абыходзілася, што каля дзесятка там да пакарання смерцю, астатніх у Шушынск перасылала, дзе яны як у санаторыі адпачывалі, на паляванне хадзілі, рыхтавалі свае кадры, каб гэты "зверскі" рэжым знішчыць. Ну а потым устанавілі сваю ліберальную дэманкратыю, якая амаль увесь XX век доўжылася. А на мяжы трэцяга тысячагоддзя Хрыстовай эры тыя ж самыя заказчыкі антыхрысты нашу сённяшнюю юную моладзь апальваюць тымі ж спакусамі блакітных, аранжавых і іншых рэвалюцый, скіраваных супраць той жа ненавіснай дзяржавы, Святой Русі, законы якой адпавядаюць запаведзям Божым, канонам Царквы, і якую пасля знішчэння царскай сям'і, памазаннікаў Божыя, узначаліла сама Багародзіца. Сама Багародзіца, з'явіўшы ікону сваю "Дзяржаўную", узначаліла Святую Русь. І, нягледзячы на антыхрыставу акупацыю, і ў Мінску, і ў Маскве Святая Русь аб Госпадзе жыве.

**А.К.:** *Слухаючы гэтыя прамаўленні, прыходжу да такой высновы: рэкамендацыі, дадзеныя ўсім, гэта рэкамендацыі, дадзеныя нікому. Можна прамаўляць пэўныя ісціны, лозунгі, хаця мы ўжо жылі ў час лозунгаў, заклінанняў, і мы бачылі, чым усё скончылася. Наслухаўшыся камуністычных лозунгаў і ідэалогію, сярод якой мы жылі на працягу столькі год. Як толькі хіснулася гэтая сістэма, дзе падзелася і гэтая ідэалогія, дзе былі і тыя камуністы, і ў мяне адразу такі вобраз узнікае: у нашым палітэхнічным інстытуце, калі было абвешчана, што асуджэнне камуністычнай партыі, то камуністы наперад адзін аднаго беглі да кабінета, дзе знаходзіўся іхны штаб, сакратарыят камуністычнай партыі іхняй інстытуцкай, і адзін наперадзе аднаго здавалі білеты. А той, хто не паспеў, то ў шчыліну паміж дзвярмі туды яго закідваў. А перад тым гэта былі лідэры, былі аўтарытэты. І вось узнікае такое пытанне: як дастукацца да сэрца кожнага чалавека? Як звярнуцца так, каб людзі паверылі, што гэта не чарговая кампанія. Добра,*

*з’явіўся такі час: Прэзідэнт, наш Уладыка Філарэт, і знайшлося паразуменне, еднасць пэўная, і мы бачым, што вось усталяваўся на пэўны час, як бы мовіць, той мір паміж Царквой і дзяржавай. Як падрыхтаваць людзей, як іх пераканаць, што гэта ўсё ў пэўны час можа змяніцца, каб несці крыж Господняй веры адзін. Ідзі адзін, ідзі нават тады, калі за табой ніхто не ідзе.*

**І.М.:** Вазьмі кнігу святога Іусціна Сербскага “Філасофія і рэлігія Дастаеўскага”. Яна выдадзена добрым накладам Беларускім Экзархатам. Бліскучай мовай і з найглыбінным пранікненнем у багаслоўскую сутнасць і праблемы душы Дастаеўскага, кожнай душы, якая хоча быць з Хрыстом. Там раскрыта пакута вялікага беларуса Фёдара Дастаеўскага, як ён ішоў да Хрыста, адзін, у асяродку гэтых бунтаўшчыкоў, і вернікаў, і нявернікаў, і нігілістаў, і анархістаў. Адзін прайшоў шлях, прыняўшы прысуд да пакарання смерцю. Пяць хвілін ён чакаў кулю ў сэрца, у апошнюю хвілю замянілі дзесяццю гадамі катаргі. Гасподзь, які прывёў яго на гэтую катаргу з гэтага рэвалюцыйнага асяродку ў другой палове XIX веку, амаль не ў другой палове, а ў сярэдзіне XIX веку. На катарзе Гасподзь яму адкрыўся, так як блізка ён быў з ім, як нідзе, ён потым казаў, ніколі вось так Гасподзь не быў блізка да мяне, як на катарзе. І вось ён раскрыў у сваіх славутых раманах і “Бесы”, і “Браты Карамазавы”, і “Злачынства і пакаранне”, і “Ідыёт” усім нам сутнасць вось гэтых пошукаў, пакуты адной самотнай душы, да Хрыста. І вось той, хто прачытае гэтую кнігу святога Іусціна “Філасофія і рэлігія Дастаеўскага”, той будзе мець такую святыню ў сэрцы, такі компас, як кажуць, які ніхто не саб’е яго з гэтага вось шляху са Хрыстом. Хто мае ў сэрцы Хрыста, таму ніхто не патрэбен, ні якія павадыры, партыйныя ці якія іншыя – ён са Хрыстом будзе, ён са Хрыстом будзе, ён будзе прымаць у літургіі таінства Прычасця і ўсё. Сам Хрыстос яго правядзе праз любыя катастрофы, так, калі Гасподзь папусціць катастрофу татальную, ён усё роўна з Хрыстом. Вось ён аддзяляецца ад плоці – ён з Хрыстом, і пасля аддзялення, як і быў да таго. Вось ратунак – Хрыстос. Але трэба быць з ім на літургіі ў Прычасці, і тады любыя павароты вонкавых абставін не

страшныя, бо ён іх прымае, як папушчэнне Божае, ён не спужаецца іх, хто мае страх Божы, сыноўні страх, страх не засмуціць Госпада, не адтуліцца ад яго. Таму абсалютна не страшныя зямныя павароты абставін, а малаверу страшныя, ён баіцца: ах, сёння добра, заўтра кепска, ай, што рабіць, – малавер, што рабіць. Ён без Хрыста, таму ён і трымціць, як лісток, і баіцца змены дэкарацый, змены персаналій, змены палітычных лідэраў і г.д. Будзь са Хрыстом у Прычасці на літургіі, і ніхто табе на зямлі не страшны.

Пра сябе, Алесь, скажу, што за гэтыя амаль дванаццаць год змены ў маім сэрцы, у маёй душы толькі пачаліся, ледзь-ледзь пазначыўся кірунак гэтых змен, яшчэ вельмі марудна я пераходжу сам ад рэжыму своечыння да рэжыму ўслухвання ў аблічча і падабенства Божае, закладзенае ў кожную душу, у тым ліку і ў маю. І ўсё больш прыходжу да высновы, што самае важнае – не нашы высілкі, а малітва, унутраная малітва, і ўжо паўтараю бясконца: Госпадзі, ты можаш усё, што захочаш, Госпадзі, калі хочаш, зрабі, як мы просім, а перадусім, па-над усім, воля твая святая. Дык як мы просім? Мы ў малітве павінны прамовіць, што мы просім, так маліцца навучыцца, каб не самачынна, а ў царкоўным рытме малітвы, а ў малітве храмавай. І тады мы ўвойдзем у рытм храмавай малітвы, у гадавы цыкл царкоўнага жыцця, вось толькі тады… Я сам яшчэ толькі-толькі пачынаю ўцаркаўляцца, можна сказаць, таму што адвольны мой рытм яшчэ не ўкладаецца ў рытм манастырскі, у храмавы. І мяне выносіць ці то ў вонкавыя нейкія абставіны: ці то сябры, ці нейкія творчыя мае задумкі, яны ўкліньваюцца і парушаюць рытм. Альбо я фармальна прысутнічаю на богаслужэнні, а ў гэты час мая фантазія не ў малітве, я не з Госпадам размаўляю, а з, як мне маё чада кажа, рагатай музай, якая табе дыктуе сваё замест малітвы. Ну дык вось такая малітва, што не хочаш з Госпадам размаўляць – размаўляеш з рагатай, са сваімі страсцямі, ну і такі вынік. Гасподзь можа зрабіць усё, што захоча, але ён бачыць, што ты сам не хочаш з Ім размаўляць. Я зразумеў, што мы не хочам размаўляць з Госпадам, з кім заўгодна: з сябрамі, з супрацоўнікамі, з духам ліхім змагаемся. Нават цягне часам на такія рыфмары, прысвечаныя духу ліхому, так, можа яму і ў радасць. Хаця я думаю, што даю зброю

сябрам, як змагацца з духам ліхім. Дык вось, ува мне я бачу адно, што я яшчэ далёка са стану разбойнага, своечыннага ўнутранага стану не выйшаў, далёка мне яшчэ да сапраўднага, пакаяннага стану. Не тое, што гэты разбойнік, якога Алег Лойка так перастварыў, моцна і дасканала, што ён трыццаць гадоў у пячоры, маліўся так, што яго душа без мытарстваў была занесена ў рай. Гэта пасля трыццацігадовай пакаяннай несупыннай малітвы жырандоля стагоддзяў запалілася. Дык вось таму яна і не запальваецца ў нас, стагоддзяў жырандоля, што я, акаянны, можна сказаць, мадэль усеагульнага стану нашай шляхты, змагарнага, баявога, але гэта змагарны стан з Богам. Мы не хочам быць з Богам, мы хочам змагацца, тварыць рэвалюцыі, перабудовы, а гэта толькі на радасць першаму рэвалюцыянеру і яго зямным змагарам. Дык вось у мяне вельмі сумны стан: разбойны і своечынны. Фармальна я знаходжуся за мурам, а, па сутнасці, я за мурам, але з другога боку, дзе ў сэрцы ёсць цёмныя стыхіі, у ніжняй частцы. Так што такі мой стан за гэтыя дванаццаць гадоў: я толькі лепей убачыў, наколькі ён жахлівы, разбойны і своечынны, і далёкі ад размовы з Богам. Гэта фармальна я і рыфмару нібыта, і размаўляю з Богам, нібыта ў агульных рысах я ў манастырскім асяроддзі, а рэальна, у глыбіні сэрца. На жаль, не ўсё так проста.

**А.К.:** *Не, браце Мікола, хачу супакоіць цябе. Вось зараз нарадзіўся ў мяне вобраз, вобраз паромшчыка: вось на адным беразе стаяць людзі не царкоўныя, на другім ужо трошку прасунутыя, людзі, якія ўжо пайшлі наперад, да Бога, да веры, да пакаяння, а паміж ім рака – рака непаразумення. Рака тая каламутная, якую вось гэты хвастаты б’е, ён дае людзям перайсці. А на сённяшні дзень інак Мікалай – паромшчык, ён садзіць людзей на адным беразе і вязе да другога. Але ж ён не застаецца там, ён вяртаецца зноў да гэтага берага, ізноў грузіць свой паром, ізноў… І вось так нібы выконвае сваю місію, адвозу гэтых людзей, падцягвання да таго берага. Куды б прасцей было: паставіць на замок паром і пайсці ў манахі ці схіму прыняць, а што рабіць было б тым, хто там застаўся. Хто б выконваў гэтую няўдзячную справу – справу раздваення. Нездарма я задаў такое пытанне: гэтае пытанне бытуе*

*сярод нашых сяброў, аднадумцаў, літаратараў. А што ж ён, Мікола, і не там, і не там, быццам бы і за мурам, і ў міру. І вось я знаходжу такім чынам адказ. Гэта справа цяжкая, у поўным сэнсе няўдзячная ад нядобразычліўцаў, але вельмі Богу ўгодная, таму што кожны чалавек выконвае, як казаў інак Мікалай, сваё паслушанне. І, менавіта, вось у гэтым я бачу сэнс знаходжання інака Мікалая за мурам і яго пэўным часам выхады з-за гэтага мура, ратаванне гэтых тапельцаў, іх перавозку на гэты бераг. Колькі яно цягнуцца – гэта можа цягнуцца больш нават чым у таго злачынцы, які запаліў жырандолю праз трыццаць гадоў. Але ж толькі Богу вядома, колькі часу трэба для таго, каб самому вызначыцца, на якім беразе паставіць на завалу свой паром. Але ж на сённяшні дзень ёсць плён, ёсць сэнс, ёсць цудоўны духоўны вынік – колькі людзей, у тым ліку і мяне, інак Мікалай, браце Мікола, паэт Зьніч, Алег Бембель, перавёз на той бераг. І за гэта толькі можна сказаць: Госпадзі, слава табе за гэтага паромшчыка!*

**І.М.:** Ну ты крышачку пaспрабаваў суцешыць мяне грэшнага. Можа і суцешыў крыху. Ну што я магу сказаць, калі сам паромшчык пачынае тануць, тады ўжо сябры павінны яго выцягнуць за пасмы на бераг, каб ён урэшце ачуняў і зноў пачаў маліцца і выконваць сваё паслушанне. Але ж, сапраўды, толькі аднаму Богу вядома сіла малітвы кожнага чалавека. Вось, кажу часам, мае сябры, я таксама прашу вашых святых малітваў. Кажуць, ну, якія ў малітоўніку? Што малітоўнік, кажу, я прашу малітваў вашых, бо толькі аднаму Богу вядома сіла і шчырасць малітвы кожнага. Таму будзем кожны ў меру сваёй немачы маліцца, плыць, чапляцца за паромы, старацца пераплыць на той бераг, дзе Гасподзь Хрыстос, ангелы белыя, і каб духі ліхія нас у гэты вір сваіх жарсцяў разбуральных не ўцягнулі.

# ЖЫРОВІЧЫ – МІНСК

## ПЕРШАЯ ЧАСТКА

**І.М.:** Сёння 24 лістапада 2008 года. Я, грэшны інак Мікалай, насельнік Жыровіцкага манастыра, прыехаў у стольны Менск да майго сябра Алеся Клышкі. І вось мы ў ягонай хаціне, ва ўтульнай келлі, якая нагадвае келлю манастырскую, столькі тут ікон і так тут усё ўзнёсла і натхнёна, сумовімся і працягваем нашыя дыялогі.

Гасподзь наведаў майго сябра Алеся хваробай, жорсткай, працяглай, бязлітаснай. Але ён моцны духам, вочы гараць нязломнай верай, толькі хоць і кульгае, як паранены воін, як спартовец, які атрымаў траўму ў жорсткім спаборніцтве, але трымаецца моцна, і мы працягваем сумоўі. Хачу пачаць іх двума вершамі з новага зборнічка, які называецца “Мне не цябе шкада, а тваю маці”. Сёння мы робім такую камерную прэзентацыю, я прэзентую свой зборнічак сваму сябру Алесю. На вокладцы – сучаснік, абкружаны спакушэннямі гэтага веку. Лірычныя героі – у прамаўленнях іх пошукі сэнсу зямнога жыцця, пакутныя, супярэчлівыя, часам зманныя, навеяныя духамі цемры, а на завяршэнне галоўны лірычны герой прамаўляе наступнае:

…далей?..
каб у Хрысце спачыў…
а вам — пакуль — карысней доля…
зямную смагу — я спатоліў…
цяпер гукае — Далячынь…

Алесь, некалі ты мяне запытваўся, аб чым я думаў, апынуўшыся на мяжы паміж гэтым і іншым светам. Сёння мы крышачку з табой памяняліся ролямі – ты крануў гэтую таемную і страшную мяжу. Як ты пачуваеш сябе на гэтай мяжы, што ў сэрцы, што ты хочаш сказаць самому сабе, нам, грэшным, і нашым нашчадкам?

**А.К.:** *Па-першае, паважаны браце Мікола, я вельмі ўдзячны табе і Госпаду за тое, што ён спадобіў нам сёння*

*сустрэцца. Гэта нечаканая была для мяне навіна. І вось нашу хату і келлю наведаў блізкі майму сэрцу, маім думкам, майму ўяўленню, веры, чалавек, брат, інак Мікалай. За гэта глыбокі паклон і падзяка, што сёння мы маем такую мажлівасць сустрэцца. Я памятаю тое пытанне, якое я задаваў, калі мы сядзелі, назіраючы цудоўныя краявіды, на сядзібе баярына Солтана. Птушкі спявалі, сонейка свяціла, і мне ўсё карцела даведацца, а што ж там з чалавекам, калі ён развітваецца з усім гэтым хараством. Я памятаю, што інак Мікалай адказаў, што гэта, як у крынічку апускаешся: першы раз зімна, трошкі страшна, а потым другі раз, трэці – ужо спакойна.*

*Першая хвіля выпрабавання, калі ты застаешся сам насам з Госпадам. І я ўзгадваю гэты стан сваёй душы, сваіх думак, і думаю: Божа, але ж чалавек не думае, дзе ляжыць яго назапашанае багацце, хто будзе чытаць яго кнігі, хто распарадзіцца яго гаспадаркай, хто будзе займацца ці не займацца працягваць яго справу, такіх думак не існуе. Існуе толькі адно – праўда, грэшны я, пакутаваў так ад хваробы, што думаю, Божа, няўжо ты можаш спыніць вось гэтыя пакуты мае, гэты нясцерпны боль, на імгненне было жаданне, каб гэта ўсё прайшло, набыць цішыню і душэўную, і цішыню фізічную. Другое, што думаеш толькі аб адным, аб чым чытаў, аб чым сам намагаўся пісаць у сваіх вершах, у сваіх творах, – як яна адбудзецца гэтая сустрэча, што будзе, і адна думка не давала спакою: ці ўсё паспеў паведаць, ці ўсім дараваў? Дараваў усім, за ўсіх у думках маліўся, не пакінуў ніякай крыўды на каго ці чаго іншага злога, але ж быў толькі страх адзін: ці варты я буду таго, каб Гасподзь мне ўказаў шлях далейшы майго ўжо незямнога жыцця ў тым накірунку, які завецца ягонымі абіцелямі. І гэта не адчуванне страху, не адчуванне нейкай падзеі, а гэта ціхі, роўны, светлы спакой. Вось так я магу ўзгадаць тыя хвілі, калі жонка казала, мы ўжо думалі, што ты пойдзеш ад нас. Але Гасподзь распарадзіўся трошкі па-іншаму: я пачаў паціху ад гэтай мяжы адпаўзаць. І вось на сённяшні дзень маю такую магчымасць ненатужна весці наша сумоўе, працягваць нашыя духоўныя сустрэчы.*

**І.М.:** Алесь, я табе ахвярую гэты зборнічак “Мне не цябе шкада, а тваю маці”. У нас атрымалася серыя нашых

дыялогаў, а гэта — серыя паэтычных зборнічкаў: першы — “За мурам”, гэта другі і трэці будзе “Між тэктанічных пліт…”. Я хачу, каб такая трыяда была і ў нас. Я хачу, каб мае лірычныя героі, якія прайшлі праз першыя два зборнікі, сустрэліся там, за той мяжой, з якой мы пачалі гаворку, і прадоўжыць іхныя дыялогі за той мяжой. Вось такая ў мяне задумка. У класічнай літаратуры з даўніх часоў гэтая тэма вельмі актуальная. Тут варта і Дантэ прыгадаць, не параўноўваючы нас, грэшных, з ім, і іншых…

Вось гэтую мяжу толькі што пераступіў наш добры сябра Алег Лойка. Мы праводзілі яго годна, ён годна завяршыў свой вельмі цяжкі, страшны на канцы шлях. Фінішная, як кажуць, прамая была ў яго вельмі страшная, можа, не ўсе ведаюць – гангрэна, нагу яму аднялі, ад другой ступню аднялі, страшэнны боль быў апошнія два гады. Я ведаў яго блізка, пачынаючы з таго часу, калі я ў лякарню, акурат пасля таго, як яму нагу аднялі, прынёс арыгінал паэмы, і кажу: Алег, Гасподзь даў табе такія ўмовы, для духа твайго і для плоці такія іспыты, што апроч цябе ніхто гэтую паэму так не зробіць (беларускі аналаг гэтай паэмы), не зробіць яе з’явай нашай культуры. І, сапраўды, за восем дзён, фактычна на адным дыханні, ён зрабіў беларускі варыянт паэмы, прычым у прафесійным сэнсе непараўнальна больш моцны, чым арыгінал. Ён даў ёй назву “Стагоддзяў жырандоля” (у арыгінале яна называлася “Старая лампада”). Там жырандоля павінна была запаліцца, як старац сказаў, калі Гасподзь даруе разбойніку пасля моцнага пакаяння і прабачэння грахоў, сама запаліцца. І вось трыццаць гадоў мінула, пакуль запалілася гэтая жырандоля. А Алег яе перанёс у кантэкст нашай нацыянальнай гісторыі – стагоддзяў жырандоля. Я адгукнуўся на ягоны варыянт жменькай радочкаў, якія тут у гэтай кніжцы таксама ёсць…

Такі наш лёс бязлітасны…

Я спадзяюся і горача веру, і сэрцам адчуваю, што душа нашага сябра Алега да келляў раю набліжаецца: дзевяты дзень яшчэ не мінуў, потым саракавы міне, і будзем маліцца і верыць, што душа яго будзе там.

Дык вось, Алесь, мы гаворым пра мяжу, на якую ступае кожная асобная душа. Ты сочыш, што ў свеце адбываецца. Упершыню ў гісторыі Кітай набывае такі разгон,

што Гогаль пісаў, што на Святую Русь, якая на троіцы імчыцца, будуць узірацца іншыя плямёны. Цяпер на разгон гэтага тыгра паўтарамільярднага азіраюцца ўсе, нават вялікія плямёны збянтэжаныя і не ведаюць, што гэта азначае. І як ім жыць далей на гэтай маленькай зямельцы. Упершыню над белай Амерыкай запанаваў каляровы ўрад, братам белым, гэта апроч Кітая, вельмі сур’ёзны знак.

У гэтым зборнічку, які я табе ахвярую, ёсць такі верш “На скон народа”, класічны матыў трансфармаваны таксама ў танальнасць нашай гісторыі.

Вось, Алесь, табе дадзена зведаць, што адчувае душа, ступіўшы на мяжу гэтага свету і іншасвету, яўныя сконныя знакі даюцца і плямёнам. Як ты адчуваеш стан і нашай Беларусі, і іншых плямёнаў у гэты час?

**А.К.:** *Я працягнуў бы гэтую думку, трошачкі вярнуўшыся да асобы Алега Лойкі. Справа ў тым, што мне таксама пашчасціла з ім сустракацца, ужо пад час яго цяжкай хваробы. Так ужо атрымалася, што ў “Слонімскай газеце” нашы вершы і нашыя фотаздымкі апынуліся побач, такі вось маленькі знак. І вось вяртаючыся да асобы гэтага чалавека, да сваёй хваробы, да яго хваробы, да хваробы вякоў, якая была неўзабаве колькі год таму, я хацеў бы прывесці колькі слоўцаў з той кніжкі, якую мне Гасподзь паслаў пад час вось гэтых іспытаў. Гэтая кніжка “Ілатрапіён” (у перакладзе – сланечнік, па-расійску – подсолнух) мітрапаліта Тамбоўскага і Сібірскага Іаана (Максімовіча). У волі Божай — воля чалавека. Здавалася б, што тут можна шмат казаць, але ж кожны раз, калі я перагортваю адну староначку, прачытваю другую, вяртаюся, падкрэсліваю, раблю пэўныя пазнакі, думаю, Божа, і гэта важна, і гэта, і вось я дайшоў да словаў вядомай ісціны, што Гасподзь пасылае на зямлю сваіх улюбёных сыноў час ад часу, каб яны выканалі галоўную справу яго, і ім ён асабліва дапамагае, бо яны пасланцы, пасланцы Божыя яго, іх яшчэ завуць абранымі людзьмі, абранымі Богам. І я вось што думаю: калі кожнага шараговага, будзем казаць, хрысціяніна ў жыцці спаткае нейкае выпрабаванне, то ён у першую чаргу павінен думаць аб тым, ці не з’яўляецца і ён тым самым абраннікам Божым, ці не на ім ляжыць поўная адказнасць і місія выканаць тое, што*

*менавіта павінен выканаць толькі ён? І вось лёс Алега Лойкі — чалавека з адмысловай біяграфіяй. У свой час ён быў абласканы ўладамі, займаў высокія пасады, быў загадчыкам кафедры, дэканам, шмат часу праводзіў за мяжой. Там аб хваробе яшчэ і не думалася на той час, і нельга казаць, што толькі былі ў яго сябры добразычліўцы, багата было і ворагаў. І вось чалавек напрыканцы панёс такое паслушанне ў выглядзе гэтай хваробы. І ў той жа час паспеўшы зрабіць вось гэтае літаратурнае пакаянне, пераасэнсаваць лёс гэтага раскаянага злачынцы, гэтага разбойніка, зрабіць твор і ў той жа час падысці павольна, натуральна да неабходнасці споведзі і Прычасця, і сысці з гэтага свету ачышчаным, спавяданым, прычашчоным. Вось гэта і сведчыць аб тым, што кожнаму з людзей, хто яшчэ не ведае, які яго лёс, якія яго чакаюць выпрабаванні, ён павінен толькі думаць аб адным, што пэўная місія ляжыць на ім, і можа быць і ён з'яўляецца тым абраннікам, які павінен праз пакуты, праз гэтыя горасці, беды, прыйсці да Госпада ў выглядзе пакаянага, раскаянага хрысціяніна і стаць поруч, па правую руку Госпада ў тым свеце. Гэта што тычыцца, як бы мовіць, духоўнага становішча чалавека, на прыкладзе нашага агульнага знаёмага.*

*Калі ўзгадаць татара-мангольскае іга, то, па-першае, наша Вялікае княства Літоўскае – гэта гістарычная наша радзіма, яна не была акупавана татара-мангольскім войскам. І ў той жа час, татары дазвалялі адкрываць цэрквы, манастыры, яны прыслухоўваліся да гэтага, яны не ваявалі з гэтым, і гэта ўжо дало надзею, што Гасподзь спыніў гэтую руку разбурэння ворага. І на той час былі ўжо створаны першыя епіскапаты на тэрыторыі палоннай Расіі. І я думаю, што тое, што зараз адбываецца, яно адбываецца натуральна. Лёс нашай праваслаўнай царквы зараз праходзіць той перыяд, калі не чакаюць нас, так бы мовіць, катакомбы, а калі трэба нам усім прайсці выпрабаванне сапраўднай веры. Гэта час выпрабавання, гэта не варожая навала, я б нават сказаў, што гэта папускае Гасподзь. Вельмі добра любіць тых, хто любіць цябе, маліцца за тваіх добразычліўцаў, ахвярадаўцаў, але ж Гасподзь нас, як сваім прыкладам паказаў, што прыйшоў ён у гэты свет ратаваць грэшніка, а не веруючага. І я думаю, што кожнаму*

*хрысціяніну такое выпрабаванне было ў 1918 годзе, калі, я ўжо ў сваіх сумоўях спыняўся на гэтым пытанні, калі вось тыя ж людзі, якія ўчора сем'ямі хадзілі ў храм, сёння па загаду бальшавікоў-камісараў пайшлі збіваць званы і спальваць іконы. Ці не выпрабаванне гэта веруючаму чалавеку? Ці не ахвяраваць павінен быў ён і сваё здароўе, і жыццё, дабрабыт, каб рука яго не паднялася рабіць такое злачынства? Але ж не кожны гэта вытрымаў, далёка не кожны, а толькі адзінкі, якія намагаліся зберагчы вось гэтыя скарбы, вось гэтую нашу хрысціянскую праваслаўную спадчыну. Таму нічога страшнага не адбываецца. І што тычыцца той жа Амерыкі, Гасподзь нам яшчэ раз прадэманстраваў, што здавалася б непахісная эканамічная сістэма, багацце, шыкоўныя вілы, шыкоўныя машыны, у адно імгненне, ці то ўраган, ці смерч, ці вось такі фінансавы абвал – яны прыводзяць чалавека да згубы ўсяго. Ніколі не забуду Маямі, месца такое вельмі ўтульнае, дзе мільярдэры на старасці год сваіх пабудавалі сабе шыкоўныя маёнткі, паклалі грошы свае ў банкі і ўжо былі гатовыя жыць, дажываць свой век у росквіце і дастатку. І ў той жа час наляцеў гэты ўраган, і нічога не засталося. Вось і ўсё, што паспеў сабе назапасіць чалавек на будучае. Так і любы з нас можа ў імгненне згубіць і матэрыяльныя свае запасы, і стан у грамадстве, а больш таго і аўтарытэт, больш таго – і імя. Адзінае, што застаецца – гэта вера, непахісная вера ў тое, што Гасподзь накіраваў чалавека на гэтую зямлю са сваёй місіяй. У кожнага свая задача. Але самая простая задача: прайсці свой шлях сапраўдным вернікам, праваслаўным хрысціянінам.*

**І.М.:** У кожнага асобнага чалавека і кожнага племені – свая задача, так. Але вернемся ізноў да нашага сябра (Царства яму Нябёснае) Алега Лойкі. Я вось апошнія гады блізка яго назіраў і проста цяпер, калі ўжо ён там, я ўспамінаю нашы сумоўі – вершы чыталі, пра новыя творчыя задумкі гаварылі, колькі ён зрабіў за гэты час на маіх вачах, ён пра Караткевіча мастацкі твор напісаў, успаміны свае аб іх сумоўях. Яны былі паміж сабой блізка знаёмыя. Ён напісаў новую паэму "Высокі бераг", вось літаральна апошнімі днямі я атрымаў раздрукоўку. Нізку вершаў вельмі

моцных, лірычных напісаў. Ён апублікаваў у “Полымі” вялікае эсэ літаратуразнаўчае – такі грунтоўны агляд гісторыі нашай літаратуры – менавіта ў плане набліжэння яе да Госпада, матыў раскаянага разбойніка. Вось у гэтым вялікім эсэ гучыць у плане руху ўсёй нашай літаратуры, у плане аддалення і набліжэння яе да Бога. У такім ракурсе нашую літаратуру яшчэ не даследавалі, здаецца, або амаль не кранаці.

Я вяртаюся да майго гаспадара, брата Алеся, які ўжо некалькі месяцаў такі іспыт жорсткі вытрымлівае, і я з табой, Алесь, сумовіўся толькі па тэлефоне да гэтага. Вось у нас і па тэлефоне не толькі творчыя размовы, але і канкрэтная праца з нашых дыялогаў. І сёння мы з табой працуем, мы з табой не енчым, якія мы хворыя і няшчасныя, але мы працуем. Мы дзякуем Богу за кожны дзень, што ён дае нам натхненне, мажлівасць пасумовіцца, яшчэ нешта на славу Божую і на карысць бліжніх зрабіць. Так што, Алесь, я радуюся, што ты ў такім стане. Я дзякую Богу, што ён дае табе не толькі жорсткі іспыт, але і моцную сілу духа, натхнення.

**А.К.:** *Як чалавек павінен паводзіць сябе на гэтай зямлі, і, бачачы прыклад жыцця брата Алега, я так падумаў: калі б даў яму Гасподзь моцнае здароўе, будаваў бы ён свой маёнтак, ездзіў бы за мяжу з дэлегацыямі па сённяшні дзень, выступаў бы на канцэртах, на вечарынах, і часу перакласці гэтую паэму, і часу дзесьці напісаць свае апошнія эсэ, на жаль, магло б не хапіць. Дык вось – у выпрабаваннях, у хваробах, у нястачы ўмацоўваецца і крышталізуецца хрысціянін.*

*Зерне ўрастае ў непагадзь,*
*Лісточак асфальт узрывае,*
*Слова ўзрушвае душу і плоць,*
*Злое — жыццё адымае.*
*Нам невядомая сіла нябёс*
*З добрасцю жыць заклікае,*
*Каб кожны з пакліканых*
*Крыж свой данёс*
*Да брамы не пекла, а раю.*

**І.М.:** Дзякуй, Алесь. Дзякаваць Богу за ўсё, бо покуль жывыя, покуль яшчэ рука трымае асадачку і насаджае наша натхненне на паперу, покуль яшчэ ў стане мы з табой сумовіцца, і стужка нас у стане занатаваць, будзьма маліцца, працаваць, і Гасподзь дапаможа нам ва ўсіх нашых добрых справах. Амінь.

Алесь, я вельмі рады, што ты, ступіўшы на тую мяжу паміж гэтым і іншым светам, на гэтай мяжы сёння выглядаеш моцна натхнёным. І я бачу, што перад табой абшары і гэтага, і іншага свету. Вяртаючыся да таго, пра што мы не раз казалі, хачу, каб ты вось з гэтай мяжы зірнуў і на гэты, і на іншы свет. І на задумку Божую аб кожнай асобнай душы, аб нашых з табой душах. І ў цэлым аб нашых зямных сцяжынах, улічваючы вось тыя апошнія пытанні, клопаты, што каляровы ўрад запанаваў у адвечна белай Амерыцы, што тыгр усходні і ўсе тыгры меншыя, што вакол яго, набіраюць неверагодны разгон на гэтай грэшнай зямельцы. Што белы брат пачаў азірацца на сваіх каляровых сабрацця ў і адчувае, што ён, калі і не выдыхаецца на гэтай дыстанцыі, то супернікі яго абыходзяць яўна і ўпэўнена. Вось у такой сітуацыі хачу табе прапанаваць з новай кніжачкі, прэзентацыю якой мы працягваем, "Мне не цябе шкада, а тваю маці". Сучаснік – гэта ўжо абагулены вобраз не толькі белага брата, але вось сучаснік сядзіць так ужо чорны, шэрага колеру, ці то гэта скура, ці гэта цень, што на яго падае ад гэтых дынаміт спакусніц гэтага веку. Дык вось ты казаў, што класічныя матывы тут цябе найбольш узрадавалі. Так, класічныя матывы тут дадзены як камертон вякоў, а маналогі розных лірычных герояў, пэўна, сучасніка, усю палітру сваю, ці дух гэтых спакушэнняў, у гэтых маналогах адгукаецца. І вось адзін з маіх лірычных герояў, набліжаючыся ўжо да фіналу гэтага зборнічка, прамаўляе такую рыфму. Вось у кантэксце таго, што ты прамаўляў на завяршэнні папярэдняга сумоўя, і ў кантэксце прамаўлення гэтага лірычнага героя, я хачу, каб ты працягнуў свае развагі з тваёй мяжы.

Акупанты Масквы … і Берліна…
Парыжа… і Йе-Руса-ліма… —

Хто вас выкінуў з раю?
…Я вам Ісціну нагадаю:
Хрыстос прызямліўся ў краіне —
Існай ў Айцы і Сыне
І Дусе Святым… Амінь!

**А.К.:** *Добрыя словы, браце Мікола. І я перад тым, каб працягнуць нашае сумоўе, яшчэ раз хачу выказаць падзяку Госпаду і тваёй асобе за гэтую такую лёгкасць на пад'ём, за твой рашучы крок – прыехаць сюды з Жыровічаў у Мінск, працягнуць нашае сумоўе. Дзякую Госпаду за твой візіт. Працяг думак, якія былі выказаныя ў той момант, я хачу падзяліцца тым, пад уражаннем чаго я знаходжуся ў апошні час. Гэта вялікі смутак для ўсяго праваслаўнага хрысціянскага народа – развітанне са Свяцейшым Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем ІІ. Гэтая падзея, дарэчы, вельмі трапны, мне спадабалася, водгук на гэтую падзею ад Таццяны Бембель, тваёй дачкі, на старонках "Комсомольской правды". Яна кажа, што смутак мой па чалавеку, які ўзначальваў маю царкву. Але ж смутку не павінна быць, мы павінны радавацца, што ён дайшоў да той мэты, да якой рыхтаваў сябе ўсё жыццё. І вось смерць чалавека, як мы молімся ў малітвах — "дай мне, Госпадзі, смерць ціхую, хрысціянскую і непасаромленую". І вось чалавек прыняў сустрэчу з Богам у сваёй келлі, пад час адпачынку, гэта таксама знак. І як адгукнуліся людзі, увесь свет… Я пасля пахавання Паўла ІІ не памятаю такой падзеі ў хрысціянскім свеце, калі б так узняліся людзі ў адным вось такім смутковым парыве. Таму шмат думак прыходзіла у час пераасэнсоўвання гэтай падзеі, і, слухаючы выступленні людзей па тэлебачанні, і назіраючы ўсю гэтую працэдуру развітання з ім і яго пахаванне, я міжволі пачаў прыходзіць да той думкі, што калі людзі звяртаюцца да Госпада ў веры, якая не патрабуе ніякіх яўных знакаў доказу, яны праз смерць блізкага, нават дарагога чалавека могуць узняцца вельмі высока, могуць знайсці сэнс свайго існавання. А ён толькі ў адным – у бязмежнай любові гэтага чалавека да людзей, у яго міралюбстве, міратворчасці. І прыходзіш да такой высновы, што нам Кітай, што нам Амерыка – калі, вось слушна ты заўважыў, калі мы на прыкладзе сваёй веры,*

*сваіх абрадаў, сваёй уцаркаўлёнасці можам людзей вярнуць да сябе. Бо хрысціянства праваслаўнае – гэта не секта, яно не зацягвае да сябе людзей, яно не сілком ці спакусамі, яно сваім прыкладам кліча людзей прыняць тое, на чым яно стаіць. Я ніколі не забуду, калі яшчэ ў старажытныя часы, у старажытным Рыме адзін з багатых людзей заможных узяў да сябе работніка – гаспадар ведаў, што найміт праваслаўны хрысціянін, таму сказаў яму, глядзі, калі я пабачу хоць раз ікону ці будзеш пры мне маліцца, я адразу ж пазбаўлюся ад цябе. Прайшоў год. І гаспадар падышоў да найміта, кажа, я прымаю тваю веру, таму што я паглядзеў, як ты сябе паводзіш. І вось гэта прыклад нам усім: ніякія навалы, ніякія такія жахі, якія быццам бы могуць узнікнуць з боку, масы людзей, якіх большасць у свеце, нам не пагражаюць. Таму што мы сваім прыкладам, сваім жыццём, сваёй верай можам нават гэтых людзей павесці за сабой. Вось такая думка ў мяне ўзнікла за гэты час.*

**І.М.:** Думка сапраўды вартая таго, хто шчыра верыць у Богачалавека. Таму што Богачалавек Хрыстос прыйшоў узняць, вярнуць у годнасць богасыноўскую ўсіх нашчадкаў паўшых нашых прабацькоў Адама і Евы. Якога племені Адам і Ева? Усе плямёны ад іх пайшлі, усе колеры вясёлкі пайшлі ад Адама і Евы. І дзякаваць Богу, што ні адзін праменьчык гэтай вясёлкі не можа не быць пракрытым Духам Святым і якога ўваскрослы Богачалавек паслаў праз сваіх апосталаў, праз сваю адзіную, святую, саборную і апостальскую Царкву, якую ён сатварыў на векі вечныя, якую брама пякельная ня здужыць. І сапраўды, першаіерарх гэтай царквы, з якім учора развітаўся ўвесь свет, усе плямёны з ім развіталіся, і радасць, якая сапраўды ў гэтым развітанні пакрывала смутак, натуральны для чалавека, які яшчэ ў гэтым свеце застаецца, а душа раба Божага Алескія ІІ, Свяцейшага Патрыярха, ужо ступіла за тую мяжу, на якой стаіш і ты, Алесь, такі натхнёны, і я ўзрадаваны. Сястрычка мая, якая паглядзела развітанне, выказала думку, што так мы набылі яшчэ аднаго моцнага малітоўніка за ўсіх нас. І па вачах відаць, што гэта так. Калі ўчора фільм паказалі аб апошнім яго візіце да нас. Сімвалічна, што апошні яго візіт быў у Русь Белую. Пасля гэтага візіту ён адышоў да Госпада.

Вось гэтая радасць, Алесь, працягваецца ў нашым сумоўі і прагучала яшчэ думка, я не памятаю, хто першы яе агучыў, што ім благаслаўлёны была ідэя стварэння новай сталіцы Святой Русі трыадзінай у даўнім слынным праваслаўным горадзе Полацаку, які знаходзіцца акурат паміж паўночнай сталіцай – Санкт-Пецярбургам, усходняй сталіцай – Масквой, паўднёвай сталіцай – Кіевам і нашым стольным Менскам, акурат Полацак паміж імі. Ну, я не чытаў ніякіх афіцыйных матэрыялаў, прысвечаных гэтай ідэі, але яна настолькі кранула маю душу, слынны град Полацак столькі асацыяцый гістарычных, успамінаў абудзіў. І вось у святле гэтай самай гістарычна-філасофскай элегіі ў рыфмарах, якую мы з табой тут прэзентуем, як ты адчуваеш, як тваё сэрцайка адгукаецца на гэтую вось прамоўленую ідэю?

**А.К.:** *Так, браце Мікола, я хачу вярнуцца да гэтых падзей апошніх дзён. Перад вачыма два моманта: першы, гэта развітанне з Алексіем II Прэзідэнта Украіны. І мяне так моцна ўразіла, што, мы памятаем камуністычныя часы, гэтых надзьмутых, гэтых амаль незямных істот, генеральных сакратароў і розных пасад займаючых у цэнтральным камітэце людзей. Я б і ў сне не мог сабе ўявіць, каб гэты чалавек перахрысціўся на крыж ці прачытаў малітвы, запаліў свечку. Ці не цуд гэта Божы, што сёння ператварэнне і людзей, якія з намі жылі апошнія дзесяцігоддзі? Чалавек мае права заявіць, што ён атэіст, што ён няверуючы, што ён спавядае тую ці іншую нейкую веру. І ў той жа час, мы бачым ператварэнне чалавека, яго ўсведамленне аб дачыненні да сённяшняга дня, да тых святых, якія будуць, я не сумняваюся, на нашых вачах. Вось яны і жылі, вось такія людзі, як Алескій II. І яны, развітваючыся з гэтым чалавекам, кладуць крыж на сябе, яны цалуюць яго мітру, рукі, яны запальваюць свечкі, яны моляцца. Ці не цуд гэта Божы? Не хочацца пераходзіць на асобу, разбіраць паводзіны чалавека. Але ж вось глядзіш, што чалавек нешяк прамовіў: трэба спяшацца рабіць добрыя справы, пакуль Гасподзь нам яшчэ дае жыццё. Гэта прамаўляў не святар, гэта прамаўляў Прэзідэнт. І чалавек не можа сябе прымусіць рабіць тое, што ў яго не ў сэрцы, пры ўсёй сваёй дыпламатыі. І таму ўпершыню я пабачыў, як*

*Прэзідэнт наш хрысціўся, упершыню я пачуў словы, якія ён запісаў у кнігу жалобную з нагоды смерці Алексія II: “майму настаўніку, дарагому сябру з любоўю”. Але ж прызнацца ў сяброўстве, у любові да іерарха праваслаўнай царквы… Я не мог сабе ўявіць, што гэта б зрабіў колькі дзесяткаў гадоў назад самы ўплывовы палітык, нейкі там кіраўнік краіны. Вось мы на сённяшні дзень прысутнічаем на гэтым проста цудоўным пераўтварэнні кожнай асобы. Гасподзь казаў нам: не шукайце цудаў. Але ж калі чалавек уважліва прыглядаецца да сябе, да сваіх блізкіх, гэты цуд адбываецца ў кожную хвіліну. І ў першую чаргу, я лічу, гэта цуд уцаркаўлення, цуд веры. Калі чалавек без пэўных знакаў прымае тое, што самае дарагое для шмат якіх хрысціян. І гэты чалавек становіцца з імі ў адзін шэраг, і ён ужо не адрозніваецца ад іх. Але ж у яго ёсць улада, у яго ёсць магчымасці нешта ўмацаваць у гэтам накірунку. І таму, калі б гэтая ідэя залунала дзесьці ў кіраўніцтве нашым, я думаю, усё было б зроблена дзеля таго, каб вось здзейснілася, што вось я бачу ў Міколавых кніжках: выява Хрыста на абшарах Еўропы, дзе сэрцанька ягонае знаходзіцца якраз на абшарах Беларусі. І гэта добра. Усё звяртаецца да свайго пачатку. Адкуль яна ідзе, вера, дзе яна мацавалася, павінен стаяць гэты крыж, які ўшаноўвае гэтую гісторыю. Таму я ідэю гэтую вельмі ўхваляю і буду рады дажыць да таго часу, калі мы будзем прысутнічаць на тым мерапрыемстве, якое будзе сцвярджаць, што наш сённяшні еўрапейскі Іерусалім знаходзіцца ў Полацку.*

**І.М.:** Алесь, набліжаецца 2020 год, год 500-годдзя з’яўлення Багародзіцы на камені ў Жыровічах і 550-годдзе з’яўлення цудатворнай Жыровіцкай іконы. Крышку далей зазірнем: мы ўжо на той мяжы, дзе час і вечнасць ўзаемапераліваюцца, таму часавыя прамежкі робяцца зусім маленькімі ў параўнанні з вечнасцю. Дык вось 2020-ты набліжаецца, набліжаецца таксама 2054-ты – тысячагоддзе трагічнага расколу зямнога цела Царквы на ўсходнюю і заходнюю часткі. Тысяча год расколу… Ці не хопіць ужо тысячы гадоў, каб за грахі вось тых мінулых даўніх пакаленняў Гасподзь папусціў гэты раскол. Ці не надышоў час пакаленням пачатку трэцяга тысячагоддзя Хрыстовай

эры пераадолець гэты раскол другога тысячагоддзя, пад чорным ценем якога прайшло ўсё другое тысячагоддзе, і нават пачатак трэцяга ён захапіў. Гэты раскол з малітвачкай, адчайнай і гарачай малітвачкай, пераадолець, узяўшы ўвесь плён вякоў і тысячагоддзяў мінулых, каб трэцяе тысячагоддзе Хрыстовай эры сапраўды стала часам, калі ўсе плямёны пачуюць голас Богачалавека сэрцам. І калі яны прымуць вольнаю воляю вось гэты покрыў бел-чырвона-белай Хрыстовай плашчаніцы, пад колерам якой і Свяцейшага Патрыярха мы праводзілі. Труна была пакрыта бел-чырвона-белымі колерамі плашчаніцы. Ці не надышоў час пераадолець гэты раскол з верай.

Мы пазначылі дзве даты, 2020-ты і 2054-ты гады. Вось акурат для новай сталіцы аднавіцца і заззяць ва ўсёй красе і сіле. Гэта не адзін і не два гады трэба, а вось акурат недзе паміж 2020-тым і 2054-тым годам гэтая сталіца будзе добра адноўлена, упарадкавана і прыстасавана для сваёй новай місіі. Яна ўжо не можа быць такой сталіцай, з якой націскаюцца кнопкі, і бюракратычная сістэма на вялізных абшарах пачынае, усё падмінаючы, як асфальтавы каток, выконваць, а павінна на іншым узроўні даваць імпульсы, найвышэйшага духоўнага плана. А ўжо даўнія сталіцы – і Масква, і Санкт-Пецярбург, і Кіеў, яны могуць, так сказаць, свае функцыі выконваць, абкатаныя ўжо, правераныя, а гэта як бы па-над імі… І ёсць жорсткія структуры і мяккія структуры, умоўна скажам. Новая сталіца будзе цэнтрам мяккіх структур, духоўных, але тыя мяккія, яны і найбольш моцныя, бо жорсткія структуры ўключаюцца, калі ўжо мяккая маленькая структура дае натхнёны імпульс.

**А.К.:** *Адносна таго, што тысячагоддзе набліжаецца расколу хрысціянства, і я думаю, што ў першую чаргу нам не трэба баяцца часу. У Госпада няма часу, у яго няма стагоддзяў, у яго – імгненні. А ён самае галоўнае дае нам – час для уразумлення. Як добры бацька ўразумляе далікатна сваё дзіця. У мяне вельмі вялікія спадзяванні на сённяшніх кіраўнікоў каталіцкай і праваслаўнай хрысціянскай царквы. Я не сумняваюся, што Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі будзе абраны мітрапаліт Кірыл. На сённяшні дзень,*

*ведаючы асобу гэтага чалавека, ён вельмі добра разбіраецца і ў палітыцы, у праблемах эканомікі, тэхнікі, чалавек увогуле вельмі адукаваны, вельмі высокага духоўнага ўзроўню. Ён можа разумець, што трэба рабіць і спяшацца рабіць крокі насустрач нашым братам каталікам. Тое ж самае я магу сказаць і пра асобу Папы Рымскага Бенядзікта XVI, які працягвае накірунак злучэнняў, паразумення, якое заклаў у свой час Папа Рымскі Павел II.*

*Я не сумняваюся, што гэта ўжо выспела. І інтэрв'ю, якое я бачыў па тэлебачанні, калі Алескій II наведваў за мяжою каталіцкі храм і пакланяўся цярноваму вянцу Гасподняму, і мы папракнулі, ці не было ж у вас сумеснае малітвы? Ён казаў: не, мы кожны паасобку вялі службу, але ж гэта першы крок. Першы крок да таго, што мы можам меркаваць і па сваім мірскім жыцці, што побач з намі – нашыя сябры, нашыя калегі. Хто каталік, хто праваслаўны, хто другога веравызнання, можна звярнуць увагу, што не замінае нам гэта ні добрыя стасункі мець, ні добрыя адносіны. Але трэба баяцца сектанцтва. Секты, якія зараз паўсюль з'яўляюцца і людзей ахопліваюць так моцна, яшчэ раз сведчыць пра тое, што можа мацавацца краіна, горад, нейкая пабудова толькі цаглінкамі моцнымі кожнага паасобку, Так і кожны чалавек – вось гэтыя цагліначкі, калі не будуць яны хісткімі, не будуць трухлявым — не будзе моцны падмурак. І ўсе падставы казаць, што так, можа выспець ідэя панавання цэнтра праваслаўя ў Полацку. Я вельмі рады, браце Мікола, што вось такое пільнае назіранне за ператварэннем асобы чалавека, а яно адбываецца, відаць, з кожным чалавекам. Але ж навідавоку нашыя кіраўнікі, мы бачым гэтых людзей па тэлебачанні, чуем іх, чытаем пра іх. Вось гэта адлюстроўвае і змены ва ўсім нашым грамадстве. Падзеі развітання з Аляксіем II і словы, якія я пачуў, магчыма за апошнія дзесяцігоддзі не чуў столькі шчырых слоў ад простых вернікаў. І мне было вельмі прыемна, што развітваліся з Аляксіем II і муфты расійскія, і пратэстанты, не кажучы пра каталікоў – усе былі разам. Гасподзь адзін. Калі ўявіць сабе вялікую гару, той жа Эльбрус ці Джамалунгму, і на ёй ёсць розныя шляхі, цяжкасці ўзыходжання. Яны ўмоўна падраздзяляюцца на першы, другі клас цяжкасцей, трэці, увогуле, ёсць шлях, дзе*

*на гару можна заехаць на кані. Таму кожны народ ідзе сваім шляхам, і кожнае веравызнанне, яно і намагаецца да набліжэння да Госпада. І мы проста не маем права асуджаць, што чалавек пайшоў тым ці іншыя маршрутам. Дзякуй Богу, нас Гасподзь прасвятліў, даў нам праваслаўе, веру, якую ён запавядаў нам і сказаў: вось жывіце гэтымі запаведзямі, ідзіце гэтым шляхам, і не клапаціцеся пра заўтрашні дзень – вы прыйдзеце. Мая воля найперш, потым ваша. Хтосьці пачаў высоўваць волю сваю, і адбыўся сур'ёзны раскол, амаль тысячу год таму ад самавызначэння, ад гардыні перш за ўсё, жадання валадарыць, жадання быць як бы разумнейшым за Госпада. Вось гэтыя адхіленні вяртаюцца да першапачатковай кропкі. І на сённяшні дзень мая ўпэўненасць у тым, што з'яўленне такіх людзей, як Алескій ІІ, з'яўленне такіх святых, як беларуская Еўфрасіння Полацкая, з'яўленне такога святога, як Серафім Сароўскі, яны скіроўваюць людзей да думкі, што я маю, як я жыву, і што галоўнае ў гэтым свеце. І калі гэтая думка будзе панаваць над масай людзей, яно натуральна адбудзецца тое, у чым Гасподзь мае свой промысел. А дзе гэтае месца ўжо будзе – дзе будзе цэнтр вось гэтых вернікаў – усіх людзей, якія прыйдуць да Госпада. Гасподзь ужо ведае і, я думаю, што ён нам гэта падкажа праз свае пэўныя знакі. А нам трэба толькі з цярпеннем чакаць, маліцца, і ў першую чаргу працаваць не над блізкімі, не над усім светам, не асуджаць і не выхоўваць грамадства, а звярнуць першую ўвагу на самога сябе. І калі чалавек кожны будзе ісці шляхам самавызначэння, самавыхавання, вось гэтыя цаглiначкі натуральна складуцца ў моцны непахісны дом.*

**І.М.:** …памілуй, Хрысце, памілуй
Нас — за разбой панылы…
Не ведалі — што тварылі…
Пустэча — нашы вярыгі…
Памілуй, Хрысце, памілуй
Нябожчыкаў і жывых…
І дай нам усім сцяжыны
Ў бясконцых Шляхах Тваіх…

Алесь, як ты бачыш свой шлях для сваёй душы, і ў часе, і на мяжы, і ў іншасвеце?

**А.К.:** *Некалі такое пытанне я задаў брату Мікалаю, калі мы вярталіся з Жыровічаў у Мінск, патрапілі ў непрыемную гісторыю, калі мы былі вымушаны заняцца працягам нашых запісаў. У нас з’явіўся вольны час, і я задаў такое пытанне брату Мікалаю, мне вельмі карцела ведаць, а як бачыцца мая асоба, маё жыццё вось інаку Мікалаю. І тады ён адказаў мне і вельмі падтрымаў. Што тычыцца сённяшняга дня, я ўдзячны Госпаду за тое, што ён мне даў, і ніводнага разу я не пашкадаваў ні аб сваёй хваробе, не задумаўся такімі пытаннямі за што, менавіта чаму мне. І прыйшоў да высновы, што і пакуты, цяжкая хвароба могуць служыць чалавеку і саслужыць яму вельмі карысную службу ў яго духоўным выхаванні. Таму, адказваючы на пытанне, як я ўяўляю сабе сваё далейшае жыццё, і як я бачу сябе ў гэтым свеце, я яшчэ раз прыходжу да такой высновы, што самае ўжо дарагое, што мне даў Гасподзь, у мяне ўжо ёсць: я зразумеў – вось гэтая мяжа, вось гэта святло, вось гэта цемра. І як трэба жыць далей, калі Гасподзь дасць мне яшчэ згуляць пэўны час на гэтым полі жыццёвым другі тайм, як казаў браце Мікола, а можа яшчэ і дадатковы час, то я буду ўжо кіравацца тымі адчуваннямі, тымі прасвятленнямі маімі душэўнымі, якія прыйшлі за гэты час, каб не вяртацца ў тую багну, у тую бездань грахоў, каб не рабіць тое, што раней, за тое, што мне зараз было б сорамна. Мне падаецца, вось гэтая ўважлівасць да таго, што адбываецца з чалавекам, з кожнай асобай, яна вельмі сур’ёзна можа змяніць стан жыцця і далейшы лёс чалавека. Гасподзь уразумляе, і чалавек, выношваючы, як выношваецца дзіцятка маці дзевяць месяцаў у сваім улонні, ён выношвае сваю душу. І бывае так, што не народзіцца, прыйдзе фізічны скон, а чалавек не нарадзіўся, не нарадзіўся духоўна, не нарадзіўся сэрцам, не нарадзіўся Госпаду.*

*Мне неяк жонка задавала пытанне: ну, як жа так, ты такі вернік, такі чалавек. Ну, добрыя яна мне дала рэкамендацыі, а чаму такія ў цябе няшчасці ў жыцці: і там параза, і там падманулі, і не далі абараніць доктарскую дысертацыю, і там цябе не зразумелі, і там цябе адхілілі, і не далі грошай. І я прыйшоў да высновы, і адказ просты: Гасподзь сказаў, калі мы звернемся да Евангелля, якой брамай трэба ісці – вузкай брамай ці брамай вольнай, дык*

*вось праз гэтую шырокую браму пралезе і любы наш грэх, і любы наш праступак, і любая думка грахоўная, а вось менавіта праз вузкую браму… Нам трэба шмат задумацца, як мы падыдзем да яе, ці праціснемся праз гэтую браму са сваімі грахамі. І таму падагульваючы вось гэтае пытанне, я прыходжу яшчэ раз да высновы: самыя вялікія скарбы, якія можа даць Гасподзь чалавеку, гэта першае, што ў яго скарбонцы – вера, непахісная вера ў Госпада, у яго промысел, у яго існаванне, каб чалавек не хістаўся ў другі бок. Другое – воля, свабода, якая дадзена чалавеку, каб чалавек сам вызначыў, як распарадзіцца тымі днямі, гадамі, дзесяцігоддзямі той волі, якую ён мае на гэтым свеце. І нездарма я прывёў такі жонцы прыклад жыцця нашага зямнога, як прадбаннік, як быў жар на старонках газеты, што такое лазня ў гэтых заможных людзей, у сучасных умовах. Яны, кажуць, прылятаюць у лазню, у прадбанніку разліваюць гарэлку і кажуць, трэба хуценька выканаць рытуал і разбегчыся, часу няма. Дык вось можа так жыццё ў гэтым прадбанніку і спыніцца. Калі чалавеку ў прынцыпе ўтульна, тут ужо цёпла, тут ужо заможна, тут сытна, але што чакае яго, якая пара, якая асалода, якое возера з халоднай вадой, гэты свет, гэтае чыстае паветра, гэтыя дрэвы, птушкі, якія спяваюць, ён задавальняецца ў прадбанніку, выпіць чарку. У сэнсе такім сваё ўзяць, усё, што можна ўзяць у зямным жыцці, і не дачакацца, не імкнуцца вось туды, да самага галоўнага акорда. Дык вось, каб наша жыццё на гэтым прадбанніку не спынілася, каб мы дажылі да гэтай сапраўднай лазні, да гэтага хараства ў першую чаргу для нашай душы, трэба ісці вось гэтым шляхам паслушання, змірэння, пакоры, якую нам запавядаў Гасподзь. Дачакацца часу, не будаваць вялікіх планаў, не ўяўляць сябе нейкай значнай асобай, а сціпла ісці да таго, да чаго прывядзе нас Гасподзь. Бо наша жаданне – гэта нашая воля, а перадусім – воля Гасподняя.*

## ДРУГАЯ ЧАСТКА

**І.М.:** Алесь, цуды Гасподзь дае нечакана. Сёння, калі я толькі цябе ўбачыў, я анямеў, я ўбачыў цуд, які Гасподзь мне дае. Чаму так? Скажу табе шчыра, калі я цябе ўбачыў два там з нечым тыдні таму, то ў мяне разам з радасцю сустрэчы ўзяў моцны дух тугі. Я адчуў, што ты не проста ступіў на мяжу паміж гэтым светам і іншасветам, а што ты ўжо амаль пераступіў яе. Я так адкрыта табе шчыра і казаў, і Алег ужо пераступіў тую мяжу, а сёння я бачу, што ты, ступіўшы на яе, ты не пераступіў, а ты зрабіў крок назад, ступіў ужо моцна ў гэты свет, фактычна з іншасвету, і як наноў народжаны. У цябе зусім іншы колер скуры, зусім іншы бляск вачэй, ты як юнак сядзіш вось, быццам ты абнавіў сваю прыроду, а дух у цябе ўжо адтуль, і сам нават тэмбр голасу, і пагляд на гэты свет адтульны. Ты адначасна ўжо яўна і тут, і там. І вечнасць, і час у табе арганічна спалучаны, ты ўжо як жыхар, нябожчык – не, жыхар неба, нябожчык па-беларуску, гэта цудоўнае слова, музыку якога яшчэ мала хто разумее. Але ты яшчэ ў часе, ты яшчэ моцны, юны. Я ўзрадаваўся, што ты не проста выйдзеш там на другі тайм ці не, ты выйшаў. І мы ўжо з табой, наш тандэм, гуляе другі тайм.

Пытанне, якое я хачу табе паставіць, да тога пакалення, якое ідзе за намі, і нават ужо і за тым пакаленнем. Назва “Мне не цябе шкада, а тваю маці”… Дык вось пра тое пакаленне. Дыягназ, які яму паставіць, скажам, гісторыя, вось ёсць паняцце пандэмія. Дык вось пандэмія, якая напала на тое пакаленне, я б хацеў, каб яно само сабе паставіла дыягназ. І адзін з маіх лірычных герояў, ужо “Санаты мытарства”, ён прысутнічае тут, у другой частцы, дзе матуля і сынок, чаму мне шкада не яго, а яго маці. Я б хацеў, каб гэтае пакаленне, ва ўсякім разе некаторыя з лірычных герояў, якія належаць да таго пакалення, паставілі сабе самі такі дыягназ.

У мяне ёсць унук, не буду называць яго імя, яму 21-ы гадок ідзе. Дзяцюк ростам амаль з цябе, плечы амаль твае. Прыгажун, вочы блішчаць, сястрычкі млеюць, як ён толькі ідзе па вуліцы. Бацькі – цудоўныя людзі, працавітыя, натхнёныя, вернікі, іх любяць на службе, і аднаго, і другую. А гэты дзяцюк узяў характар ад бацькоў, добры, шчыры,

гатоў падзяліцца апошнім з сябрукамі. Дайшоў да двух судоў, першы – за бойку, ён за сябрукоў заступіўся, некаму ўрэзаў. Далі ўмоўна тэрмін, другі раз – суд быў больш сур’ёзны, артымаў чатыры гады хіміі. За што? Ехаў ноччу п’яны на машыне бацькоўскай, кіроўца класны, віртуоз, таму ганяў часта п’яны начамі. І, дзякаваць Богу, нікога не забіў, сам жывы, але аднойчы, праўда, бокам у плот урэзаўся, плот паваліўся. Але стаяла на колах машына, сам жывы-здаровы. Гэты раз ехаў ноччу шукаць сваю каханую, нешта яму захацелася яе знайсці ды пахваліцца нейкай стрэльбай, якую ён недзе там знайшоў. Ехаў як звычайна як “вдоль па Піцерскай”, міліцыя хацела спыніць, ён пачаў уцякаць ад яе, стукнуўся задам некуды ў плот, перакрылі ўсё, злавілі. Добра, што ён гэтую стрэльбу не пусціў. Цяпер за перавозку зброі, якою ён хацеў пахваліцца каханай, які ён круты брат, далі чатыры гады хіміі. Пяць гадоў ён жыў як? З восьмага класа, здаецца, пайшоў у вучэльню, набыў прафесію кіроўцы класнага. Як толькі паступіў у гэтую вучэльню, вось з 15-ці гадоў практычна, на маіх вачах усё гэта было. З 13-ці гадоў я яго назіраю блізка. Ну, вучыўся як? П’яныя гулі былі ладам жыцця. Бацькі любяць, “падмазваюць”, цягнулі яго з курса на курс. Скончыў вучэльню, трэба было працаваць у калгасе, бо дзяржаўную вучэльню скончыў. Адмазалі, неяк пачалі тут, пры бацьках, уладкоўваць на працу. Класны кіроўца, значыць, а тут войска набліжаецца. Але з такім характарам у войску — ён пачне адразу там… і яго скруцяць-зламаюць… Ну, і адмазалі ад войска. Набыў работу адразу, па Еўропе гойсаць на фурах пачаў, добра, столькі сядзеў на шыі ў бацькоў, ды тут свае грошы з’явіліся, за фуры міжнародныя добра плоцяць. Ну, шчодра адразу з блізкімі сябрамі дзяліўся, сабе зусім нічога не прывозіў, а потым улез у бойку, а потым перад каханай захацеў пахваліцца. Што ты, Алесь, скажаш? Які маеш вопыт пэўнага жыцця свайго і працы з моладдзю ва ўсіх праявах яе там, і спартовых, і іншых, свой нейкі сямейны вопыт маеш. Што б ты вось гэтаму пакаленню сённяшніх, скажам, 15–20 гадовых, 30 гадовых, пажадаў, параіў? Канешне, яны парады слухаюць не вельмі ахвотна, тым не менш, мажліва, хто з іх і паслухае, у тым ліку і мой унучак…

**А.К.:** *Па-першае, я хачу выказаць спачуванні. Вось гэтая кніжка, яе назва, менавіта адлюстроўвае лёс вось гэтага чалавека…*

**І.М.:** Ён мой лірычны герой, адзін з маіх лірычных герояў…

**А.К.:** *… ну, а ягоная маці, канешне, вельмі блізкі табе чалавек, які ты адчуў вось гэты боль мацярынскі. Усё гэта ўвасобілася ў вершах. Браце Мікола, я такіх прыкладаў процьму мог бы прывесці, яны паўсюль. І вось што мне яшчэ даў Гасподзь за гэты час, я ніколі не глядзеў тэлебачанне, толькі ў выключных выпадках. І вось зараз час з'явіўся, я гляджу пазнавальныя праграмы, палітычныя. І толькі з пункту гледжання, як бы аналітычнага, вось як разважаюць людзі, як яны жывуць. І прыходжу да такой высновы: калі нам узгадаць з табой наша дзяцінства, калі я ўпершыню набыў сабе парткі толькі на другім курсе. Я жонцы казаў, што калі я атрымаў першую сваю стыпендыю, купіў сабе абутак і, апрануўшы яго, не забуду ніколі. Гэта была цэнтральная абутковая крама каля кінатэатра "Цэнтральны", праспект Скарыны, 13 у Мінску. І я выйшаў на вуліцу, ішоў дождж, а я думаю, што гэта такое, бо ногі ў мяне сухія… У мяне была такая пэўная карэляцыя: калі ідзе дождж, ногі павінны быць мокрыя, а тут яны былі сухія… І калі ўзгадаць, што мы жылі вялікай сям'ёй, бацька займаў даволі высокую пасаду — рэферэнт старшыні Вярхоўнага Савета. Быў галоўны загадчыкам гаспадаркі нашага Дома ўраду. Але ж быў сумленны чалавек, і не пайшоў на пэўныя прапановы падману людзей, і страціў усё – і партыйную сваю прыналежнасць, і нашыя пэўныя жыццёвыя ўмовы. І мы сем чалавек пражылі ў маленькай двухпакаёўцы, дваццаць сем метраў. Ужо дарослыя былі дзеці, а маё месца было вызначана пад сталом – у нас вялікі такі быў стол круглы. Вось я пад ім спаў на рэчах яшчэ амерыканскай гэтай дапамогі. І для мяне было незразумела, як гэта можна, атрымаць грошы і не падзяліцца з маці. Як можна ўзяць з'есці кавалак і не падзяліцца з сёстрамі, братамі. Наша жыццё нас выхоўвала зусім па-іншаму. А вось мы ўжо імкнуліся стварыць пэўныя ўмовы дабрабыту,*

*камфорту сваім дзецям. Тыя – сваім дзецям, але што з гэтага атрымалася? Мяне ўразіла, калі Форд, уладальнік такога брэнду аўтамабільнага ў Амерыцы, свайму сыну не даў у спадчыну мільёны, не даў яму маёнтак, а ён яго паставіў на канвеер рабочым. І той колькі год працаваў проста рабочым, потым ішоў па гэтай лесвіцы ўверх ў сваім калектыве. Ішоў да таго часу, пакуль ён не адпакутаваў сваю пасаду і свой дабрабыт. Вось гэта другі бок нашай "добразычлівасці" нашым дзецям. Мы ўсё жыццё намагаліся пазбавіць іх цяжкасцяй, каб яны сытыя былі, не дай Бог ногі дзе не прамачылі... А што робіцца зараз на Захадзе: у нас яшчэ праваслаўе, мы кідаем колькі камянёў у наша мінулае савецкае, але ж ведала цудоўна камуністычная партыя, што трэба выхоўваць людзей і моладзь у паслухмянасці, у строгасці, у адукаванасці. Хай у веры ў гэтыя надзьмутыя і надуманыя сімвалы, але ж гэта была вера. І гэта быў вельмі слушны псіхалагічны крок. Крок такі, які стварыў гэтае пакаленне камсамольцаў, якія асвойвалі цаліну, якія ездзілі будаваць Байкала-Амурскую магістраль. І я ў тым ліку колькі разоў ездзіў на тую Поўнач, колькі папрацаваў у гэтых будаўнічых атрадах, і ўсё гэта рабілася са шчырасцю. Калі я прывозіў дадому грошы, я ўсё да капеечкі аддаваў бацькам, а яны ўжо давалі параду, што мне набыць, што мне даць. І вось у такой нястачы, на мяжы голаду і цяпла, я думаю, што гэта і было выхаванне, мы яшчэ паспелі выратавацца. Я, можа, не да месца, але, браце Мікола, хацеў бы спаслацца на твой жыццёвы вопыт, бо не ўсе ягоныя старонкі ў храме, у манастыры, ведаюць і тваё жыццё мінулае. Яно таксама было не бясхмарнае, не было яно дасканалым, і той жа бацька колькі ён меў ад цябе пакутаў, колькі ён перажываў, калі ты мог сабе дазволіць паводзіць так, як ты сабе лічыў неабходным. Я ніколі не забуду, як расказвала твая дачка Танечка, як ты пайшоў на могілкі ў храм Аляксандра Неўскага (ваенныя могілкі), і раздаў усё, што ў цябе было людзям, якія сядзелі на паперці, і амаль басанож вярнуўся дадому. Ну, тады гэта было калі чалавеку казалі, што ён ужо з глузду з'ехаў. А бацькі гэта перажывалі таксама. А колькі ты адпакутаваў у барацьбе за бацькоўскую хату, за гэты маёнтак ягоны ў Мінску. І можа з гэтага і пачалося тваё адраджэнне. Вось гэтая*

*хвароба страўніка, якую ты ў той час набыў, яна і была першым штуршком, які прывёў цябе ў храм, да крынічкі да святой. Калісьці ты мне казаў, я прыехаў сюды на тры дні, а ўжо больш за дзесяць.*

**І.М.:** Праблема гэтага дыягназу і, адпаведна, курсу лячэння… Адразу ж пасля суда, зразумела, такога жорсткага прысуду не чакалі, спадзяваліся на ўмоўны тэрмін, суткі, штраф які, а тут прысуд. Ну, у трансе і сам герой лірычны, і матуля. Ну, я так матулю супакойваў, кажу, ну можа ўсё ж такі да яго нарэшце дойдзе, што склад злачынства не ў тым, што ён там, як у іх прынята казаць, з мянтамі, а склад злачынства зусім у іншым. Склад злачынства перад Богам і бацькамі, свой склад злачынства разбойнік у "Стагоддзяў жырандолі" адчуў, як трыццаць год каяўся. А пакуль ён грашыў, ён не разумеў склад свайго злачынства перад Богам. Дык можа пасля такога прысуду мой лірычны герой нешта зразумее. Ну, як пачатак выпраўлення, кажу… Ну, а машына была запэцканая, дождж, ну, хай для пачатку хоць памые машыну. Прычым пра машыну я ўспомніў, калі матуля сама сказала, я пайду памыю машыну, таму што сорамна. Я кажу, а можа ён памые? Ды не, кажа, такі вецер, яму ж будзе халодна…

**А.К.:** *Прабач, але ж мне не шкада гэтую маці. Мне шкада гэтага хлопчыка, вось у чым справы. І я ўзгадваю момант, калі колькі гадоў таму я перажыў тое ж самае, блізкае, са сваім сынам. У яго пазычылі вялікія грошы і не вярнулі. Паабяцалі машыну прывезці – не прывезлі, а пачалі падбіваць сустрэчы. І гэты сын мой вырашыў сваімі сіламі высветліць гэтае становішча. А той не разгубіўся і напісаў заяву ў міліцыю. І вось можаш сабе ўявіць, што сын трапляе пад крымінальную справу за бойку з чалавекам быццам бы… Ніхто ж не ведаў пра гэтыя грошы, пра гэтыя пазыкі і г.д. І мы з маёй жонкай накіраваліся ў храм, паехалі ў Навінкі, у гэты Елізавецінскі манастыр, да айца Андрэя Лемяшонка. Дарэчы, у яго ёсць і мае кніжкі, і я з ім меў сустрэчы. Вельмі моцнае ў мяне ўражанне ад асобы гэтага святара, чалавека. І ён адразу, без падрыхтоўкі, не выслухаўчы, што мы і з чым мы прыйшлі, відаць, па выгляду*

*гэтага хлопца, па выразу ягоных вачэй, ён сказаў, ведаеш, можа табе і нядрэнна было б пабыць колькі гадоў у турме. Дзякуй Богу, гэтая сітуацыя, гэтая бяда абышла нашую сям'ю стараной. Яго апраўдалі, уся гэтая справа была закрыта. Сёння ён мне тэлефануе і кажа: татка, я набыў такую на праваслаўным кірмашы кніжку Васіля Вялікага, яго жыццяпіс. І вось ты ведаеш, чытаю кожную старонку і быццам бы жыву там, у тым часе і перажываю гэта ўсё. Наступны званок: тата, ты чуеш інтэрв'ю Алескія ІІ, выключы свой футбол, слухай праваслаўныя перадачы, я табе прынясу кніжкі, якія я зараз набыў, там шмат чаго карыснага ты для сябе знойдзеш. Ты ведаеш, я разумею, што чалавек павінен адпакутаваць спачатку, прайсці праз цяжкасці, каб штосьці мець сёння. І можа таму, што я сёння не маю свайго прытулку для жылля, я не маю станоўчай працы, я згубіў свой бізнес, мяне разарылі поўнасцю мае нядобразычліўцы і мае канкурэнты. Але жонка пакуль што мяне не пакідае, верыць у мяне. Я заўжды толькі памятаю тыя словы: Алесенька мой, я веру, ты пераможаш, але ж пераможаш праз цяжкасці, праз горасці, праз беды…*

*І я пераходжу да адказу на пытанне, як я бачу гэтую моладзь. А вось я так і бачу: скалечаная моладзь у большасці сваімі бацькамі, скалечаная бязмежным апякунствам, гэтым клопатам непатрэбным, калі "навошта, навошта, я сама… навошта, навошта, ён ручкі запэцкае… а ці ж ён паеў сёння…". Я вымушаны зараз жыць з цешчай, якая на вачах на маіх песціла свайго сына, які потым захварэў, патрапіў ён у бальніцу, і дзякуй Богу, зараз прыбіўся з дапамогай маіх сяброў і менавіта інака Мікалая да манастыра.  Там ён нясе пэўнае паслушанне, выконвае пэўную працу. Яна ўвесь час толькі клапацілася, вы паедзьце да яго і запытайце, ці не галодны ён, можа, вы яму прынясіце што паесці. Вось гэта было самае галоўнае, калі яна клапацілася, каб ён быў наеты.*

*Калі анёл прыйшоў і мне*
*Прамовіў: "Чаму ужо на зборы", –*
*Я разгубіўся. – Дзень каторы?*
*Так хутка, мо мяне міне?..*
*Яшчэ паспеў бы ў Храм прыйсці,*

*Ва ўсіх грахах паспавядацца,*
*А час мінуў – пара збірацца…*
*О, як не хочацца ісці.*
*Дай, Ойча, час мне на збавенне,*
*Паспець прыпасці ног Тваіх, –*
*Пакуль мой голас не заціх*
*Пашлі жыцця яшчэ імгненне…*

*Дзеткі нашы вучацца ад нас. Няма настаўлення, няма пакарання, а ёсць толькі асабісты прыклад, што ўсмоктваецца, як кажуць, з малаком маці. Кожны дзень дзіцятка бачыць, як паводзяць сябе бацькі. Калі я дачку сваю выдаваў замуж, яна даволі была маладога ўзросту, 18 гадоў, і яна кажа нашым сватам, бацькам свайго мужа будучага, кажа, я не ведаю, як мы будзем правіць вяселле, бо мой бацька непітучы, ён алкаголь не ўжывае. Яны перапалохаліся, кажуць, што нам вяселле рабіць безалкагольнае ці як, бо ў наш час нас людзі могуць не зразумець. Бо яна ніколі не бачыла на маім стале бутэльку, яна не бачыла, каб я наліваў у кілішкі. Зноў-такі вяртаюся да цешчы. Я кажу, што вы робіце, мая даражэнькая, навошта вы наліваеце ў келіх сыну свайму віна? Для апетыту, кажа, будзе лепей есці. Я кажу, адкуль бутэлькі пасыпаліся з-пад ложку? Ты просіш, каб я прыехаў, змагаўся з яго паводзінамі, і купляеш яму бутэлькі. Яна кажа, я пайшла ў краму, падумала, ну што яму ісці, дык я лепей сама куплю, усё роўна ж ён пойдзе. На такіх, можа, не вельмі прыгожых прыкладах, так выхоўваюць сваіх дзетак сённяшнія бізнесоўцы. Толькі яны не наліваюць у чарку, яны купляюць шыкоўныя ім інструменты, машыны, яны апранаюць дарагую вопратку. Я гляджу, як гэтыя дзеткі нічым іншым не займаюцца, як толькі на кампутары глядзяць фільмы, глядзяць у Інтэрнэце вельмі непатрэбныя матэрыялы, потым з тэлефонам у гэтыя гульні перагульваюцца і слухаюць гаворку маці і бацькі. Яны не кажуць аб тым, што сёння пост, што сёння трэба паводзіць сябе так, што трэба не трымаць у гэтай лядоўні там сёння каўбасу ці нейкія прысмакі, а трэба прасцей харчавацца, А вось у нядзелю мы пойдзем не на танцы, а пойдзем у храм на службу, а сёння ты, дзетачка, пойдзеш у царкоўную школку сходзіш, паслухаеш спевы, А сёння ўвогуле*

*ў гэты дзень у сераду ці ў пятніцу тэлебачанне мы глядзець не будзем, бо тэлевізар на гэты час не "працуе". Так робяць нашыя бацькі сучасныя маладыя? Каб толькі адвязацца. Вось табе, жонка, грошы, вось вам, дзеткі, вашы гулі-цацкі, ад мяне адыдзіце, я прыйшоў стомлены, я сёння цэлы дзень быў на сваёй фірме, у мяне непрыемнасці, у мяне грашовы крызіс, таму вы да мяне чапляйцеся, не да вас, дзеткі, самі жывіце, самі… Магу прывесці прыклад са сваёй дачкой, якой я кажу, дачурачка, уся твая праца нічога не вартая. Бо самы дарагі час, самы карысны час, гэта той час, які ты правядзеш у кампаніі побач са сваімі дзеткамі. Не важна, што ты робіш: гатуеш ты ежу ці рыхтуеш з імі урокі, ці чытаеш ім кніжачкі, ці адказваеш на іх пытанні. Вось гэта твая місія выхавання, місія маці. На жаль, мне падаеца, гэтую місію тая жанчына і сын той жанчыны, якім прысвечана назва гэтай кніжкі, і большасць адпакутавана і вынашана інакам Мікалаем вершаў, паводзіла і думала інакш. Я думаю, што Гасподзь усё вырашыць. І гэты хлопец, калі ён разумны, калі ён чысты, ён такі, так бы мовіць, ну, складаны… І вось гэтая светлая частка пераможа, яна яго падтрымае, і ён вынесе з гэтых пакутаў, з гэтай няволі толькі добрае. Як кажуць, добры чалавек з усяго выносіць добрае, злы чалавек – выносіць злое. Усё залежыць ад таго, да чаго імкнуцца.*

**І.М.:** Госпадзі, слава Табе! Сумоўе адбылося, другі тайм пачаўся, нармалёва. Алесь, дзякаваць Богу, будзем і надалей, колькі Бог дасць, праўдзіць нашую зямную сцяжыну.

**А.К.:** *І каб трошкі цябе яшчэ суцешыць, мой даражэнькі браце Мікола, я гляджу, твой твар павесялеў, вочкі трошкі заззялі, пасля майго адказу. Я зноў спашлюся на кніжку, якую я прыводзіў у мінулай гаворцы, "Ілатрапіён", дзе ёсць такія словы: чалавек і яго дзеянні — яны добрыя, ці непаспешныя і да апошняй малейшай і да апошняй лічбы "всё начертано на хронометре Божьего провидения". І калі мы верым, і калі мы ўпэўненыя, усё тое, што адбываецца не па нашай волі, тое, што папускаецца Госпадам, яно павінна пайсці на карысць. Але гэта ўсё*

*залежыць ад таго, як да гэтага аднесціся. Які знайсці карысны матыў, як мы вось… Інак Мікалай – музыка, ён знаходзіць асноўны матыў у нейкай песні. У кожным творы музычным ёсць матыў, ёсць аснова. І калі чалавек гэта знойдзе, то і гэтая бяда будзе павернута на карысць Госпаду. Яшчэ адно. Мяне наведала хвароба, вось гэтую сям'ю наведала бяда, вось гэту – няволя. У майго сябра загінуў сын у аўтааварыі, таксама даў чалавеку без правоў руль, яны былі на падпітку, і ўсе загінулі. Я калісьці чуў такія словы, калі ў храме ладзіліся службы па памяці забітых і загінуўшых і памерлых дзетак, службы для бацькоў, бацькі задавалі ўвесь час пытанні: "За што, чаму мяне, як гэта магло атрымацца?". А бацюшка кажа: "А дзе вы былі раней? Ці вы прыходзілі сюды да мяне?" Не. А памятаеш, як загінулі тыя дзеткі на Нямізе. Бацюшка адзін запытаў, калі паглядзеў, як яны ў моргу ляжалі, а ці быў хоць крыж у каго на шыі з дзетак? І гэтага не было. Дык чаму дзівіцца? Хтосьці гэтых дзетак адпускаў на гэтыя пляскі, хтосьці з гэтых дзетак атрымаў ад бацькі зусім не заробленую машыну, грошай багата, кватэру багатую… Мой сябра мне пахваляўся, паказваў, які мае скарб. Кажа, што сваю дачку ён збіраецца выдаць замуж. А ён быў уплывовы чалавек у адміністрацыі горада Бабруйска. Кажа, бачыш мэбля, а вось тут ежа, а тут адзенне, а вось тут грошы – усё гэта будзе для іх. І ён праз замежныя сувязі шукаў мужа сваёй дачцэ ў Францыі, бо там часта бываў. А яна не ведала пра ягоныя планы, знайшла чалавека, які выйшаў толькі што з турмы, панесла ад яго дзіцятка, стала весці лад жыцця зусім непатрэбны, і ўсё абвалілася, усе планы… Ён тады сыночка пачаў рыхтаваць, прывёў сюды, уладкаваў у інстытут з маёй дапамогай. А ён хоча піць гарэлку, ён хоча смаліць цыгарэты, і ў рэшце рэшт, зламалася жыццё юнака. А мне яго жонка ўвесь час ставіла ў прыклад. Ці бізнэсовец, ці спартсмен, ці то ты навуковец, паэт — не зразумела. Вось глядзі, Юрый, усё мае, усё дзеткам падрыхтавана, усім хаты. І аднойчы, калі ён ужо сабраўся ехаць на адпачынак, а сэрца яго, зразумела, рвалася з гэтых бедаў, ён выйшаў з машыны і ціха сканаў, адышоў у лепшы свет. Жонка яго хуценька распрадала ўсё, з'ехала ў сваім накірунку, дзеці жывуць у сваім накірунку. І вось на*

*месцы гэтага дома, гэтай хаты нічога не засталося. Бур’ян у пераносным сэнсе слова. Вось яшчэ адзін прыклад, чаму мы здзіўляемся, што нашыя дзеткі трапляюць у міліцыю, трапляюць у турму, трапляюць дзесьці за краты. А потым іх лёс ператварае адно спадзяванне, што можа там яны выправяцца і штосьці зразумеюць… Вельмі цяжка, канешне, спадзявацца, але ж трэба маліцца. Лёс дзіцяткі могуць змяніць толькі бацька і маці праз свае малітвы, праз сваю веру і праз сваё спадзяванне на Госпада. Вось для гэтага трэба бацькам самім выконваць хрысціянскія правілы, хадзіць у храм, трымаць пасты, хадзіць да споведзі і прычасця. Цуд не адбудзецца сам па сабе. Гэта казачка ўжо старажытная пра яблыньку і яблычка. Вось яно далёка і не адкотваецца. А таму мы ўсё збіраем ва ўраджай тое, што ў карэньчыках у гэтай яблыньке. Словы, якія з кнігі Царстваў, якія я выпісаў у дапамогу для сябе. Я думаю, можа яны і спатрэбяцца камусьці, хто будзе слухаць гэтую стужку. “Сын мой, калі ты прыступаеш служыць Госпаду Богу, то падрыхтуй душу тваю да спакусаў, упраў сэрца тваё, і будзь цвёрдым, і не засмучайся, калі наведаюць цябе спакусы, ці то хваробы, ці іншыя якія беды. Менавіта прыляпіся моцна да Бога і не адступай ад яго, каб узняцца табе пад канец пры заканчэнні твайго прадпрыемства”. Вось гэтая справа, якую робіць чалавек, бо ўсё можа быць, прагучаць вырашальным апошнім акордам. Калісьці інак Мікалай напісаў вельмі добры верш “Вырашальныя хвілі апошнія”. Вось і Гасподзь, ён паказаў нам праз Святое Пісанне: не важна, хто прыйшоў а якой гадзіне, усім будзе ўзнагарода, якую Гасподзь сам вызначыць. Дык і нам, не важна, як жылі дзеці нашы да трох, пяці, дзесяці, пятнаццаці гадочкаў, а вось якімі яны будуць хрысціянамі, якімі яны прадстануць прад Богам, якімі яны выхаваюць сваіх дзетак, вось гэта і будзе вось гэтым апошнім акордам, які зараз мы пачулі ў гэтых словах. Так што, брацe Мікола, і суцяшаю цябе, і абнадзейваю цябе, сваю веру, што ўсё гэта скончыцца так, як павінна быць. А што тычыцца нашага зямнога жыцця і нашых пакутаў, у чаканні, які тэрмін нам адмераны, я такія словы хацеў бы прывесці з Святога Пісання адносна нашага існавання на гэтай зямлі: “Я не пражыву тут больш таго часу, што табой вызначана мне, і*

*не памру, пакуль табе не будзе заўгодна спыніць дні мае”. Калі чалавек так будзе жыць, са спадзяваннем, што ўсё ў руцэ Божай, а табе трэба толькі выконваць тое правіла, як правілы дарожнага руху, правілы паводзінаў у грамадстве, правілы паводзінаў у любым месцы. Вось пакуль чалавек гэта не ўцяміць сабе, ён не зразумее, яму будзе вельмі цяжка адказаць на пытанне, а чаму гэта здарылася з ім, з ягонымі дзеткамі, а чаму менавіта яго напаткала такая хвароба. І калі гэта пройдзе, і дзе знайсці таго варажбіта ці лекара, які адгоніць гэтыя праклёны, то можа якую варажбу на мяне навялі… І чалавек адхіляецца, адхіляецца ўбок і шукае… Калісьці мы казалі, пра гэты ключык: шукае той ключык, які мае ў руцэ, каб хтосьці адчыніў вось гэтыя патаемныя дзверцы, другі… Вось гэта, каб зняць з сябе адказнасць за тое, што з табой адбываецца. А тут жа, мы ў працяг кажам, і адбываецца: і з тваімі дзеткамі, і з тваімі ўнукамі. Таму што ўсё мае свае падставы, мае пачатак і мае свой канец. Калісьці я выказаў такую думку, што самае галоўнае, што ёсць у чалавеку, яно знаходзіцца на адлегласці працягнутай рукі. Гэта яго сям’я, ягоныя кнігі, ягоны іканастас, ягоная справа, ягоны стол, ягоная асадка, ягоная папера, ягоныя дзеткі. І калі чалавек навучыцца вось у гэтым наваколлі маленькім, у сваёй келлі наводзіць парадак, ён ніколі не будзе абурацца на тое, што адбываецца за вакном і на гэтым свеце. І не спужаецца аніякіх крызісаў, аніякіх ураганаў, аніякіх бедстваў. Ён будзе спакойна казаць: “Госпадзі, слава табе за ўсё, спадзяюся на цябе, Божа, бо твая воля, не мая воля, а твая нада мною. Амінь”.*

**І.М.:** Узгадайма, што ў кожную хвілю нашага зямнога жыцця Гасподзь кожнаму з нас стварае найлепшыя ўмовы для ўратавання душы і таму ўзгадаем і прымаўку, якой вякамі жывіўся народ наш: “маліся, працуй і Гасподзь дапаможа”. Амінь.

Ты жывое йшчэ, маё каханне…
Й я жывы… й малюся за цябе…
Хай табе — з сутоння да світання
Ангельскі чуваецца напеў…
Чую я, што тулішся ў трывогу…

Што цябе замучыў дух тугі…
І няма паблізу анікога,
Хто цябе да сэрца прытуліў.
І табе — у змроку прадсвітальным —
Мроюцца магільныя крыжы…
Быццам любы — крохкі і адчайны —
Стрэчу з злыбядой не пераэжыў…
Мілая, у малітве супакойся…
Гэта — духа цемры насланнё…
Гэта — нашых грэшных душ забойца
Мучае цябе сваім агнём…
Тыя, хто табе да смерці любы,
Без каго нібы не можа жыць —
Богам зберагаюцца ад згубы —
Покуль доўжыцца малітвы ніць…
Яна лепш ад ніткі Арыядны
Нам дапамагае у бядзе…
Яна — промень зорачкі Каляднай,
Што ў задумку Божую вядзе.
Ў ёй сыходзяцца шляхі і лёсы…
Ў ёй згасае дэманаў кумір…
Ў ёй — усіх — збірае Ўваскрослы
На свой шлюбны векавечны пір…
Дык пакінь дарэмную трывогу…
Не аддайся дэману тугі…
Да крыві маліся — праз знямогу —
І збавення ўбачыш берагі…

**А.К.:** *Дзякуй, браце Мікола. Будзем карыстацца гэтым натхненнем. Я папрасіў бы цябе пачытаць яшчэ свае радкі. Гэта матывы Ясеніна, Цютчава, Лермантава. Я іх чуў калісьці і па радыё, яны дужа мне спадабаліся. Можа гэтыя вершы будуць мне таксама ў памяць нашай сённяшняй сустрэчы.*

**І.М.:** Маўчаць труніцы, муміі і косці…
Ты, мова, не маўчыш…
З прадоння дзён…
На светавым пагосце

Звініць пісьмёнаў крыж…
Няма ў нас даражэйшага чагосьці…
Умейце ж, Крывічы,
У меру сіл… у час пакут і злосці… —
Хоць мову берагчы!..

Госпадзі, ты кожную душу, пасланую табою ў свет, запрашаеш да свабоднай Сатворчасці з табой, з тваім Промыслам. Госпадзі, хай будзе воля твая святая, і ты ўжо ведаеш, хто будзе ў слынным градзе Полацаку, прыняўшы гэтае неймаверна цяжкое паслушанне. Што ён у малітве мог папрасіць? Госпадзі, каб больш дасканала, больш адпаведна тваёй задумцы канкрэтна пазначыць найбліжэйшую і дальнюю перспектыву ў канкрэтных галінах нашага грамадскага жыцця. Вось гэтыя часткі трыадзінай Святой Русі, Русі Белай. Канкрэтна, у галінах культуры, асветы, аховы здароўя, аховы твайго стварэння – прыроды і г.д.

**А.К.:** *Калі мы па другому разу праслухваем з братам Міколам стужкі, то і самі здзіўляемся думкам, якія прыходзяць у галаву. І тады брат Мікола мяне супакойвае. Кажа: "Алесь, гэта ж не ты прамаўляў, Можа праз цябе прамаўляў сам Гасподзь, Дух Святы". Я хачу сказаць, браце Мікола, што чалавек падрыхтаваны, ён падрыхтаваны да ўсяго. Як кажуць, нельга хрысціяніна ўвесці ў нейкі грэх, калі чалавек сам да гэтага не падрыхтаваны. Нельга яго пакрыўдзіць, таму што сапраўдны хрысціянін, ён ніколі не будзе крыўдаваць на свайго крыўдзіцеля, ведаючы, што чалавек злы і чалавек помслівы – гэта чалавек няшчасны, гэта чалавек непаўнавартасны. І яго толькі трэба пашкадаваць. Што тычыцца нашых папярэдніх гаворак, бачання будучага Беларусі і ў кантэксце эканамічным, палітычным — у мяне найвялікшае спадзяванне на тое, што моладзь, якой мы сёння прысвяцілі пэўную частку сваіх развагаў, думаю, што яна будзе выносіць з сённяшняга дня лепшае – лепшая моладзь. І можа ў агульнай масе гэтыя маладыя людзі не ўяўляюць сабой нашае будучыні, але ёсць носьбіты ідэі, носьбіты веры, ёсць абраныя людзі, таксама сярод маладых людзей. І я думаю, што ў краіне яшчэ не выкарыстаны вельмі сур'ёзны козыр, сур'ёзны патэнцыял,*

*які знаходзіцца ў рэчышчы беларускай свядомасці. І ў першую чаргу – гэта нашая цудоўная беларуская мова, веданне гісторыі. Я паглядзеў, як толькі нашае кіраўніцтва звярнула ўвагу на гістарычныя помнікі Беларусі, на рэстаўрацыю, аднаўленне, на збор матэрыялаў, музейных каштоўнасцей, яна, краіна гэтая, адразу ж адчула нейкую дапамогу. Ну, ці не цуд гэта Божы, што на сённяшні дзень Беларусь не зламалася так, як колькі краінаў заходняга свету. Вось да прыкладу тая ж Ісландыя. Яна сёння краіна-банкрут, яна залежыць ад замежнага капіталу, ад замежных рынкаў. І ў той жа час, мы, існуючы ў гэтым досыць сур'ёзным ворыве эканамічных, палітычных варункаў, мы не рухнулі, не сталі на калені. Гэта не значыць, што мы пазбеглі непрыемнасцей. Не, яны дакрануцца ўсіх. Мы калісьці разважалі, што ў свеце адзіным людзі гэты свет дзеляць на краіны, на нейкія блокі, аб'яднанні, а гэта ўсё як у адной талерцы – позна ці рана, усё будзе змешана і ўсё будзе ўраўнаважана. Ёсць такая з'ява ў хіміі як дысацыяцыі, калі ідзе выроўніванне канцэнтрацыі па ўсяму аб'ёму. Вось вы лыжачку солі ці цукру кідаеце ў шклянку. Але гэта ж не так, што зверху будзе салодка, а ўнізе будзе салёна, а пасярэдзіне не. Яно будзе паціху ўсё выроўнівацца. Так і ў гэтым свеце. І я думаю, Беларусь возьме на ўзбраенне гэтую беларускую ідэю яднання. Неяк я даваў інтэрв'ю на радыё. У мяне запыталі, што больш за ўсё клапоціць. Я кажу: клапоціць раз'яднанне эліты, тых людзей, якія апантана любяць сваю Радзіму, якія ведаюць, як для яе зрабіць лепей. І задача кіраўніка дзяржавы —аб'яднаць усе гэтыя сілы, гэтыя ўсе намаганні, асабліва на грунце беларускай мовы, беларускай гісторыі і беларускай спадчыны. Вось у нас калісьці існаваў такі часопіс "Спадчына". Не ведаю, ён яшчэ існуе ці не. Але колькі руплііўцаў нашай гісторыі, мастакоў, пісьменнікаў, розных людзей, якія ставіліся сур'ёзна да гісторыі нашай Радзімы, колькі яны паклалі ўвагі на алтар нашай Беларусі. Гэта ўсё трэба збіраць, усё ўлічваць, нічога не падзяляць. І самае галоўнае – гэта аб'яднанне. Больш нічога не можа аб'яднаць людзей, як вера, любоў і надзея. Думаю, што і моладзь, калі яна пабачыць памкненні кіраўніцтва, людзей, якія часова, я паўтараю, часова стаяць зараз каля ўлады,*

*усё Гасподзь можа змяніць у адзін момант, і праз пэўны час гэты чалавек не зможа нічога змяніць ні ў лёсе Радзімы, ні ў лёсе сваім, ні ў лёсе свайго асяродку. Дык вось гэта і паслушанне – кіраўніцтва краінай, і вельмі адказны момант, калі чалавеку дадзена магчымасць зрабіць карыснае для большасці людзей. Я веру і ў нашую моладзь, я веру ў сённяшні, як бы мовіць, курс. Ні з усім я пагаджаўся раней, але сёння я гляджу з упэўненасцю ў заўтра. Я думаю, што вось такую краіну, еўрапейскую, і такую краіну праваслаўную, хрысціянскую, адбудуе наша моладзь.*

# НЕДАРАВАЛЬНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**І.М.:** Мы ў келлі Алеся Клышкі. Хочам з вамі падзяліцца нашым болем, нашымі спадзяваннямі, нашай верай.

Кроў мучанікаў?.. ці — бунтаўшчыкоў?..
Хай кожны — у сэрцы — Бога запытае… —
І вольнае сумленне атрымае
Адказ: …мой Край, не кідай шлях Хрыстоў…
Што думаеш пра Плошчу і пра шлях Хрыстоў?

**А.К.:** *У цяжкую хвіліну, не толькі калі яна цяжкая для Радзімы, для нашай зямелькі, для кожнага паасобку, вось Гасподзь нам пасылае паратунак. Паратунак у выглядзе аднадумцаў, блізкіх вернікаў, якія аказваюць нам дапамогу па тых сілах, якія ім дае Гасподзь. А мы на сённяшні дзень павінны задумацца, безумоўна, што робім, як жывем, чаго чакаем, да чаго імкнемся, і што ў выніку хочам атрымаць ад тых ці іншых падзей. Дык вось, адказваючы на гэтае пытанне, я магу сказаць, што ў сэрцы кожнага з нас жыве дух рэвалюцыі. Гэты дух — вораг роду чалавечага, які хоча змяніць парадак усталяваны, паставіць свае парадкі, жыць па сваёй волі, жыць "без смирения" так званай свабодай, свабодай неабмежаванай дзейнасці, неабмежаваных жаданняў і неабмежаванага спажывання. І таму я лічу, што даўно я ўжо прыйшоў да такой высновы, што ў нашым сямейным родзе рэвалюцыі вычарпалі сябе. Ужо дзед мой, Іосіф Голубеў, калісьці ў гэта вочы кінуўся з галавой, і дбаў лепшага жыцця. І праз пэўны час ён выйшаў адтуль, і зразумеў, што гэта ніяк не спалучаецца з ягоным хрысціянскімі поглядамі і ягоным хрысціянскім унутраным светам. Прагледаючы гэтыя метамарфозы з чалавечым уяўленнем, стаўленнем да пераменаў, да хуткіх нейкіх з'яваў, я ўжо прыйшоў да высновы, што самае лепшае, што можа рабіць чалавек, гэта тыя змены, якія ён павінен зрабіць у першую чаргу ў самім сабе. І грамадства, натуральна, змяняецца толькі тады, калі пэўная крытычная колькасць людзей ператвараецца ў іншае грамадства. І тады ўжо той*

*чалавек, які вылучаецца на пасаду кіраўніка гэтай грамады, ён як бы адлюстроўвае, уяўляе сабой большасць меркаванняў, большасць тых жаданняў і пачуццяў людзей, якія яго вылучылі. Складаная сітуацыя… Адназначна сказаць я не магу, маё стаўленне двухбаковае. У першую чаргу, безумоўна, як чалавек у пэўным сэнсе дасведчаны і інфармаваны, я хацеў бы, канечне, больш шпаркага руху Беларусі ў накірунку развіцця, і прамысловым, і эканамічным, і сацыяльным. Але трэба сыходзіць з тых пазіцый, з таго, што мы маем на сённяшні дзень. І ў першую чаргу я задаю пытанне: калі не пагадзіцца з сённяшняй уладай, з сённяшнім парадакам, а прагнуць зменаў без розніцы пад якім сцягам, ці то Еўрасаюза, ці расійскім, што ад гэтага атрымае Беларусь? Дзе яна апынецца? Хто будзе валадарыць на гэтых абшарах нашай Беларусі? І таму настолькі складанае ў мяне стаўленне да ўсяго таго, што адбылося… Адзіны, можа, станоўчы момант, калі можна гэта лічыць, гэта тое, што я пабачыў, што ў нашым грамадстве выспела моладзь. Моладзь, якая мае свой погляд, якая нічога не баіцца, але моладзь, якая прагне жыцця, і асабістага, заможнага і разняволенага. І той ярлык бязмежна памяркоўнай нацыі, ён не пасуецца з гэтымі поглядамі маладых людзей. Зразумела, што моладзь можна скіраваць у любым кірунку. Таму першы момант, які мяне ўсхваляваў, што моладзь, незалежна ад якіх заклікаў, шукае свята, яна шукае адзінства, яна шукае моманту прадэманстраваць сваю любоў і да Радзімы, і любоў да праўды. Таму адказваючы такім працяглым адказам на гэтае пытанне, я хачу завяршыць толькі адным: як важна і як сур'ёзна трэба ставіцца да таго, каб нават у дробязі не падмануць спадзяванні моладзі. Таму што — гэта будучыня Беларусі. Мы ўжо адыходзім са сваёй мараллю, са сваімі поглядамі, і, што тут казаць, і аўтарытэтам. Мы для маладых шмат у чым ужо не аўтарытэт. Розныя выбары, усялякія грамадскія ўзрушэнні нясуць у сабе і станоўчыя, і адмоўныя моманты. Моладзь вельмі балюча рэагуе на няпраўду. І я думаю, што гэта сур'ёзнае папярэджанне сённяшняй уладзе ў тым, што калі ты хочаш павесці за сабой моладзь, нельга дапускаць нават найменшых такіх хібаў у сваёй палітыцы і ў сваіх паводзінах. Асабліва ў тых*

*момантах, дзе моладзь для сябе робіць вельмі сур'ёзную выснову. Гуляць з маладой плынню ў заклікі і ў лозунгі нельга. З моладдзю трэба размаўляць, як з роўнымі, як з сёняшнімі ўжо людзьмі, якія прыходзяць нам на змену. Моладзі трэба праўда.*

**І.М.:** У дэманкратыі граць не маю,
Ні ў чужыя, ані ў свае,
Дзеткі бацьку не выбіраюць,
Бацьку дзеткам Гасподзь дае.

**А.К.:** *Мы добра ведаем, што ўлада ад Бога. Але ж Гасподзь не ўзяў чалавека таго ці іншага і паставіў уладарыць у той ці іншай краіне. Гасподзь, калі спадзяемся на яго ўсюдыпрысутнасць, усёбачнасць, ён абірае не тое што лепшага, а выбірае больш прыгоднага да той сітуацыі, якая існуе сёння ў той ці іншай краіне. Мы не кажам гэта толькі пра Беларусь. Гэта тычыцца і Расіі. Мы пражылі жахлівыя хвіліны жыцця і моманты Кастрычніцкай рэвалюцыі і наступствы ўлады бальшавіцкай. І мы пабачылі, калі ідзе не ад Бога ўлада, яна знішчае ўсё тое, што звязана з Богам, з яго мараллю, з яго прысутнасцю на зямлі: гэта храмы, манастыры, манаства і ўвесь праваслаўны люд. Вось якая тут сур'ёзная справа. Таму Гасподзь нам не апускае аднекуль з нябёс гэтага чалавека. Ён вылучае яго з нашага асяродку. І калі ёсць на тое воля Божая, мы павінны сур'ёзна паставіцца да той ці іншай асобы, падабаецца яна нам на сёняшні дзень ці не падабаецца. мы можам чагосьці не разумець, але як сказаў Гасподзь, па справах мы будзем меркаваць пра тое, што гэты чалавек на сваім месцы ці не на сваім. Высілкі апошніх год сёняшняй улады, яны вельмі станоўчыя, станоўчыя ў тым сэнсе, што Беларусь захавалася некранутай і нерасцярушанай, неразарванай ні з левага, ні з правага боку. І вось у першую чаргу за гэта беларускі народ павінен быць удзячны Богу, і дзякаваць Богу за тое, што мы маем на сёняшні дзень.*

**І.М.:** Новым роўнаапостальным Канстанцінам і Ўладзімірам:

На новым “вітку”… — ля нэа-паганства…—
У сэрца й руку бярыце
Хрысціянства!..

**А.К.:** *Мы ўжо вылучылі агульнае нашае стаўленне да таго, што адбылося. Але ж мы пасля ўсякіх падзей маем наступствы. І тут я бы хацеў звярнуцца і сказаць слова адносна дзеянняў улады. Я разумею, што ўсялякае парушэнне парадку грамадскага выклікае насцярожанасць, а то і страх. Дык вось на мой погляд у дадзеным выпадку, тыя людзі, якія дзейнічалі па навядзенні парадку, яны кіраваліся не мэтай навядзення парадку, а яны як бы наталялі свой страх. Вось гэта я адчуў і ўбачыў у тых неадэкватных дзеяннях міліцыі і праўладных органаў адносна тых людзей, якія выйшлі на Плошчу. На Плошчу выйшла каля васьмідзесяці працэнтаў маладых людзей. Людзі не палітызаваныя. Я ведаю гэтых студэнтаў, я ведаю выкладчыкаў, шмат хто быў там. Людзі прагнулі дыялогу, людзі прагнулі праўды. Мы не будзем судзіць агульныя вынікі выбараў. Я зноў вяртаюся да таго пытання, што ўсё падманнае, позна ці рана, яно становіцца яўным. І людзі будуць ведаць. Не хацелася б, каб на падмане выхоўвалася моладзь. І вось мы зноў прыйшлі да таго пытання, з чаго распачалі нашае сённяшняе сумоўе. Навошта падманваць людзей, навошта дакладаць гэты каменьчык падману ў розум і ў сэрцы маладых людзей. Таму сённяшняя ўлада ці заўтрашняя, павінна ведаць: там, дзе закідваюцца хаця б маленечкія зярняткі хлусні, падману, пэўных адміністрацыйных рэсурсаў, там пачынаюцца непрыемнасці. Памятаю, у мяне была гаворка з былым міністрам замежных спраў Беларусі Пятром Кузьмічом Краўчанкам. Ён распавядаў, што спадар Кебіч пад сябе рабіў пасаду Прэзідэнта, каб стаць Прэзідэнтам. У выніку той хлусні, якая да яго была даведзена з месцаў, маўляў, спіце спакойна, усё добра, вы пераможаце і так. І той з кабінета не выходзіў, ні пра што не клапаціўся. І вынік які атрымаўся… Ён згубіў сваю пасаду. Вось гэта вельмі сур’ёзнае папярэджанне, што трэба не дапускаць падману, трэба вывучаць сапраўднае становішча грамадства.*

**І.М.:** Хто навязаў хрысціянскім народам ідэю народаўладдзя, ідэю дэманкратыі, ідэю зменнай улады, якую мяняе народ? З другога боку, калі народу была дадзена мажлівасць абсалютна свабодна выказаць сваю волю, ён крычаў: “Распні, распні!..” Амаль аднадушна і дэманкратычна. Дык вось, пытанне “ўлада ад народа”, калі яму даюць свабодна выказваць сваю, нібыта, волю, вось як яно можа абярнуцца, ці мы хрысціянскія народы, Еўропа, хрысціянскія плямёны, якія вякамі мелі ўладу памазаннікаў Божых. Ці мы ўжо сатанінскі саюз сіянізаваных рэспублік, якому была навязана дэманкратычная ўлада, якая ў свой час мяняецца пэўнымі заказчыкамі рэвалюцый, яна ж не сама па сабе, не народам мяняецца… А народ? Што народ разумее ў тым, хто перад ім выступае, красуецца на тэлеэкране, будучы народны лідар. Адкуль ён, хто яго прасоўвае, якую ён рэальна будзе палітыку праводзіць? Ці можна народу ў прынцыпе вырашаць такія пытанні? Змена ўлады — гэта найвялікшая хірургічная аперацыя ўсяго нацыянальнага арганізму. Дык хіба на аперацыю выбіраюць хірурга ўсеагульным галасаваннем хворых? Аперацыя чалавечага арганізаму — гэта з’ява непараўнальна больш простая, чым аперацыя ўсенароднага жыцця. Вось якія пытанні ў хрысціянскіх народаў: ад каго ўлада і што мы творым, калі мы патрабуем народнай улады і выбарнай улады. Не патрабуем, мы з чужога голасу гэтага патрабуем. Хрысціянскія народы ніколі такой улады не патрабавалі, але яна была навязвана іншавернымі, іншапляменнікамі ў час антыхрыставых антынацыянальных рэвалюцый так званага Новага часу.

**А.К.:** *Браце Мікола, хачу пагадзіцца і ў той жа час з пэўнымі пасыламі не пагадзіцца. Мы вернемся на тую Плошчу, дзе каб хтосьці з улад звярнуўся да народу, і каб ён выказаў сваю думку…*

**І.М.:** Узгадаем часы Хрыста… І што народ аднагалосна крычаў “распні”!

**А.К.:** *Я б не хацеў, каб мы глядзелі на народ, як на нейкае быдла…*

**І.М.:** Асатанелы народ — гэта не быдла — гэта ангелы ў параўнанні з асатанелым народам…

**А.К.:** *Трэба не забываць, што рабіла Рымская імперыя на абшарах вось тых зямель, дзе яна валадарыла падчас зямнога жыцця Хрыста.*

**І.М.:** Бог сказаў, аддавай цэсару — цэсарава, а Богу — Богава… Нават у тыя часы ён даў універсальнае правіла.

**А.К.:** *Людзі не мелі ні сваёй выбарчай улады, ні сваёй волі на месцы… Што мы хочам, калі да таго народа звяртаецца кіраўнік, звяртаецца цэзар і кажа, каго вы хочаце выбраць: ці той, хто нясе вам Ісціну, Праўду, Любоў, ці хто змагаўся за вас са зброяй у руках, хто герой? "Вараву нам!" – крычаць, – "Вараву"! Не трэба сябе ўводзіць у зман і не трэба шукаць нейкія сіянісцкія тэмы. Я лічу, што грамадства, народ, выхоўваецца часам і выхоўваецца тымі людзьмі, якія прыходзяць да ўлады. І тут я зноў-такі хачу прывесці маленькі прыклад. Я ляжаў у лякарні, у палаце з самым простым кіроўцам з раёна, з Клецку. І ён мне распавёў: Алесь, ты не ведаеш, што ў нас робіцца на месцы, любы начальнік – гэта цар. Нельга сказаць слова супраць. У нас скасавалі заработную плату на трыццаць працэнтаў. І цішыня. Выйшаў старшыня аб'яднання і сказаў: каму не падабаецца, хай сыходзіць, піша заяву, знойдзем іншых людзей. І людзі маўчаць. На месцах людзі атрымалі феадальную ўладу. І гэтая ўлада карыстаецца сваімі перавагамі. І што атрымліваецца? Людзі напалоханыя, людзі затурканыя… Ён расказаў мне маленькую справу. Яго сын, дваццаць два гады, ішоў увечары, у Слуцку з моладзевага мерапрыемства. На яго наляцелі нейкія малодчыкі і забілі. Дык калі ён пачаў расследаванне гэтай справы і пайшоў вышэй-вышэй, яму патэлефанавалі з мясцовай улады, і сказалі: калі не хочаш, каб было яшчэ горш, не займайся гэтым расследаваннем. Чаму? Не таму, што хтосьці з уладных структур яго забіў. А таму, што калі б знайшлі гэтых злодзеяў, парушыўся б працэнт злачыннасці і па раёну, і па гораду. Парушыўся бы паказчык працэнтны дабрабыту людзей… І гэтак паўсюдна. Я*

*размаўляю з людзьмі з вёсак, з раёна, я б не хацеў лічыць іх проста вось гэтай масай, якой нельга даверыць выбар кіраўніка. Тут я не пагаджаюся, браце Мікола, з табой і хачу сказаць, не трэба шукаць знешняга ворага. Вораг заўжды ёсць. Гэта, як хвароба ў арганізме, яна заўсёды ёсць. Прысутнічаюць мікробы, вірусы. Яны не жывуць па ўсім арганізме, яны нібы закансерваваныя. Ствараюцца пэўныя ўмовы – і яны выходзяць. І чалавек ахоплены той ці іншай хваробай, ён гіне. Дарэчы, тое самае я магу сказаць па сваім арганізме: калі я быў здаровым чалавекам, дактары недакладна паставілі дыягназ, пачалі вылечваць адну хваробу. Потым высветлілася другая, а ў рэшце рэшт знішчаны імунітэт, разбураны ўвесь арганізм. Чалавек страціў дваццаць кілаграмаў вагі. І перспектыва толькі мяняць суставы, якія ўжо пачалі згніваць. Тое ж самае адбываецца і ў грамадстве. Гэта найвялікшая пастка для людзей казаць ім, што вы, маўляў, займайцеся сваёй справай, а мы будзем займацца сваёй. Мы вам выберам кіраўніка, ён будзе такім, як трэба для вас. І вам гэта будзе ўсё добра. Вось гэта называецца падман. Што робіцца ў Афрыцы? Зараз мы бачым, там, дзе поўны гвалт быў над народам, ён потым выходзіць крывавымі падзеямі. Тое ж самае ў Туркменіі, Кіргізіі. Калі ўлада кіруецца Божымі запаветамі, калі ўлада кіруюцца праўдай і любоўю, яна не падманвае, яна не помсціць, яна не праяўляе жорсткасці, празмернай лютасці, яна высакародная і яна ніколі не дэкларуе: вось гэтыя людзі нашы, а вось гэтыя – не нашы. Хіба ж бацька ў сям'і дзеліць дзяцей? У твайго дзеда колькі іх было?*

**І.М.:** Чатырнаццаць толькі жывых паднялі на ногі…

**А.К.:** *І вось уяві сабе, што сямёра будуць сядзець злева ад бацькі, а сямёра справа. І ён скажа, вось, браты, што справа, слухаліся мяне, атрымалі зямлю, атрымалі спадчыну, грошы, а вось гэтыя злева, гэта вашы ворагі, бярыце сякеры і знішчайце іх. Вось што адбываецца, калі ў сям'і ці ў грамадстве ідзе падзел. Не павінна быць падзелу. Я прайшоў праз жыццё людзей, калі ў нас заўжды ў хаце былі расчыненыя дзверы. І ў 1950-я гады шмат выйшла з турмаў людзей. Яны ішлі ўсе, былыя вязні турмаў, нейкія злодзеі…*

*Маці ніколі іх не падзяляла на дрэнных і добрых. Яна ведала, чалавека трэба пакарміць, падзяліцца вопраткай. І калі бацька прыходзіў з працы, і нас сем чалавек сям'і тулілася ў маленькіх двух пакойчыках, дваццаць два метры. І мы выжывалі там. Маці кажа: дзетачкі (і бацьку), я ўсё аддала нашым сябрам, хто прыходзіў, гэтым жабракам. А жабракі ішлі адзін за адным… Міласэрнасць, любоў, спагадлівасць і міралюбства — вось чым у першую чаргу павінна кіравацца грамадства, Вось што павінна быць у першую чаргу ў валадара ці ў іншага чалавека, якому Гасподзь сёння даў мажлівасць кіраваць нацыяй. Вось гэтыя хібы, вось гэтыя моманты, якія я пералічыў, яны адмоўна адбіваюцца і на грамадстве, і ў нашых сэрцах. Я шчыра скажу, што праводзіць рэферэндумы (мне проста сэрца разарваў той рэферэндум), калі я страціў і дзяржаўную беларускую мову і бел-чырвона-белы сцяг свой гістарычны я страціў. І я зразумеў, што можна гвалтам змяняць унутраны свет людзей, але ён не змяняецца адразу, бо ідзе барацьба, супраціў… Вось так выспяваюць у грамадстве ворагі сённяшняй улады. Але да ўлады можа прыйці другі чалавек і ён некалі прыйдзе, чалавек, які супрацьлеглую палітыку будзе весці. І тут могуць пачацца новыя праблемы. Пры ўсім сваім лаяльным стаўленні да таго, што інак Мікалай прамовіў: "улада ад Бога", я намагаўся трошкі раскрыць: "улада ад Бога", але трэба і з народам лічыцца.*

**І.М.:** Алесь, улада Святой Русі была вельмі літасцівая да сваіх магільшчыкаў будучых. Яна пасылала іх у дом творчасці ў Шушынскае, дзе яны з дубальтоўкай хадзілі на паляванне, збіраліся на свае імпрэзы… Яна літасцівая была, за ўсё дваццатае стагоддзе па пальцах можна пералічыць, колькі бунтаўшчыкоў супраць улады было пакарана смерцю. А потым гэтыя змагары за свабоду ўсіх народаў, гэтыя іншаверныя іншапляменнікі, якія далі нам дэманкратыю, яны вынішчылі дзесяткі, мільёны людзей адразу, толькі не паспеўшы прыйсці да ўлады. Цяпер іхныя лозунгі фактычна паўтараюцца, іхныя метады змены ўлады фактычна паўтараюцца… Дык вось, улада – заўсёды ад Бога, але ўлада бывае або благаслаўлёная Богам па малітвах і добрых справах нашых, або папушчаная па грахах і беззаконнях нашых. Дык

вось, улада ў хрысціянскіх дзяржавах адвеку грунтавалася на запаведзях Божых і канонах Царквы, нават калі нам была навязаная абсалютна чужая хрысціянскім народам дэманкратычная ўлада. Лозунгі гэтай свабоды і ўлада ад народа — яны практычна адзін к аднаму паўтараюцца ва ўсіх рэвалюцыянераў усіх часоў. Таму што крыніца гэтых рэвалюцыянераў, гэтых зменшчыкаў улады, гэтых спакуснікаў улады ад народа – крыніца адна. Завадатар адзін, але ён кадрам заўжды. Пакуль хрысціянскія народы не вернуцца да той сістэмы ўлады, якая правераная вякамі жыцця хрысціянскіх народаў, жыцця хрысціянскай Еўропы, якой ужо пайшло трэцяе тысячагоддзе з дня нараджэння Хрыстовага, які прынёс уладу ад Бога і паказаў, якая яна, і як яго дэманкратычная ўлада прыняла, мы маем да гэтай пары. Дык вось пакуль хрысціянскія народы не вернуцца да той Богам дадзенай сістэмы ўлады, будуць вось гэты дух рэвалюцыі, віхры варожыя, гэтыя Плошчы, гэтыя падпольшчыкі, гэтыя тэрарысты, будуць узрушваць народ бясконца. Выбар у нас адзін – або аддаваць цэсару — цэсарава, а Богу – Богава і быць уцаркаўлёным племенем, хрысціянскім племенем, або ісці за бунтаўшчыкамі, іншавернымі іншапляменнікамі, для якіх вось толькі расколвай дзяржавы і звонку, і знутры, а потым хоць рукамі голымі бяры. Яны гэта і робяць – расколваюць і звонку, і знутры, і ўсе гэтыя ізмы, усе гэтыя лібералізмы і дэманкратыі прыдуманы для гояў, для расколвання іхніх дзяржаў, і для таго, каб гояў біць рукамі гояў, і так трымаць уладу над гоямі па ўсім свеце. Вось з дапамогай гэтай зменнай дэманкратычнай улады, якая фінансуюцца тымі, хто трымае золата свету і хто ворагі Хрыста, няўмольныя, непахісныя, якія будуць да канца, ж да Другога Прышэсця будуць тузаць і мучыць хрысціянскія плямёны, і плямёны, і сэрцы хрысціянскія будуць вось так у напрузе каламуціць і адводзіць ад Хрыста. Так што выбар адзін – або аддаваць цэсару — цэсарава, а Богу Богава і ісці за Хрыстом вузкім шляхам, або ісці на плошчы, бунтаваць і каламуціць па іхным сцэнарыі жыццё да Другога Прышэсця Хрыстовага.

**А.К.:** *Так, браце Мікола, я ў адрозненне ад тваіх вось думак, глабальных, сусветных, разважаю местачкова, на*

*маленькіх прыкладах, на маленькіх з’явах, на вёсачках, на гарадочках, на паселішчах… Я ўзгадаў момант: чаму падчас бальшавіцкай гэтай навалы амаль ніводнай сядзібы панскай у Беларусі не было спалена ці разбурана рукамі сялян, якія працавалі на пана? Узнікае пытанне: чаму? Што рабілася ў Расіі, мы ведаем. таму што беларускі пан, беларускі гаспадар ён заўжды дбаў пра свой люд, пра сваё насельніцтва, пра сваіх работнікаў. Ён намагаўся і даваць ім адукацыю, дапамагаў ім матэрыяльна, дапамагаў будавацца. І мы гэтых прыкладаў ведаем процьму… І Беларусь, нягледзячы на тое, што пасля паўстання Касцюшкі шмат было зруйнавана і знішчана, і перададзена ў расійскія рукі маёмасці беларускай, захавалася вось гэтая беларуская талерантнасць і дабрыня. Да апошніх дзён, да Другой сусветнай вайны, праіснавалі гэтыя ўсе маёнткі, і людзі з павагай ставіліся да сваіх былых гаспадароў, і цяпер прыйшоў момант Другой сусветнай вайны. І прыйшлі партызаны. Вось Ружанскі палац… Хто яго спаліў? Партызаны. З якой нагоды? А проста так, бо гэта рэшткі панскія былі. Колькі цэркваў было старажытных спалена, драўлянага дойлідства, колькі помнікаў было знішчана? Узнікае пытанне: якая рука сусветнага зла, калі хлопцы беларускія ішлі ў партызаны і стваралі бандыцкія фарміраванні, і для таго, каб атрымаць нейкія ўзнагароды з Масквы, забівалі нейкага там на ровары паштара нямецкага, абвяшчалі, што яны ўзялі вельмі карысную тут сакрэтную інфармацыю. Потым бліжэйшыя вёскі былі спалены ўсе немцамі ў помсту за гэта. Вось такія падставы рабіліся… З прычыны таго, што я шмат працаваў на прадпрыемстве, а ў ліцейных цэхах народ не з самых вышэйшых колаў, адукацыі і паходжання, я вынес са зносін вось з гэтымі людзьмі вельмі станоўчае перакананне ў іх вялікай мудрасці, у іх прыроднай дабрыні. І вось гэты народ трэба скіроўваць у правільным накірунку. Адказваючы на пытанне, што так вось гэтая сусветная халера знішчыла самадзяржаўе… А што спрыяла гэтаму? Ну, мы тут павінны аддаць належнае Царкве. Быццам бы і праводзіліся заняткі Божым словам, і людзі ведалі, што трэба ў храм сем’ямі хадзіць. Але наколькі ўсё гэта было глыбока, наколькі гэта было ўсё натуральна, ад сэрца? Гэта*

*ператварылася ў абрад, у абрад наведання царквы, потым – у абрад яе разбурэння. І тыя ж самыя людзі-вернікі, якія хадзілі да гэтага бацюшкі, яны знішчалі потым гэтыя самыя храмы. Я не хацеў бы прыменшыць ролю сусветнага зла, але я хацеў бы сказаць, што і на месцах усё робіцца не так, як гэта павінна рабіцца. І ніколі не ўзніклі б гэтыя рэвалюцыі, якую б там волю не атрымалі будучыя правадыры пралетарскія, калі б на месцах людзі былі выхаваныя ў сумленні, у шчырасці і ў дабрыні. Вось прыклад вам Беларусі і прыклад Расіі, дзе на самой справе была прыгнятальніцкая ўлада, дзе была вось гэтая ўлада памешчыка татара-мангольскага. Улада такая, калі стаіць абраны хан, а ўсе астатнія – жыццё нічога не вартае. І гэтым жыццём можна распараджацца.*

*Паглядзіце, браце Мікола, што робіцца ў Расіі. Расія распісалася ў тым, што Расіяй кіруе мафія, кіруюць злачынныя колы. І не могуць нічога зрабіць. Любая навала на Расію: то пажар – Расія ледзь не згарэла, зараз снегапад – палова Расіі засталася без святла. Пайшоў смог – людзі, ледзь гэта Масква не атруцілася ўся, парушылася электрычнасць – з аэрапорта ніводзін самалёт не мог вылецець колькі дзён з маскоўскіх аэрапартоў. Далей – няма ўлады на месцах, а яна пачынаецца з улады гаспадара, сям'і… Вось што такое сям'я? Гэта сям'я, гэта бацька, гэта маці, гэта дзеці. Гэта нашчадкі, якія ведаюць, як сябе паводзіць, якія парадкі ў сям'і, хто першы садзіцца за стол, каго нельга назваць па імені, толькі імя па бацьку можна звярнуцца, каму трэба вучыцца, каму трэба ісці. Яна самакіруецца парадкам і выратавальным прынцыпам выхавання. Вось што галоўнае было парушана. І гэта пачалося парушэнне яшчэ і пры царскім рэжыме. Гэта тое, што пачала разбурацца сям'я. І вось гэта пачалося, на гэтай глебе ўсё: забойствы, войны. Мы ведаем, прыходзіць трыбун, і калі грамадства чымсьці не задаволена, ён прапануе міфічныя нейкія бонусы. І людзі ідуць, адзін ад таго, што яго пакрыўдзілі, другі праз тое, што яго зняважалі, трэці за тое, што яго абрабавалі, чацвёрты за тое, што яго ні за што пакаралі і г.д. Нязгодных на рэвалюцыю набіраецца багата. Хтосьці казаў: рэвалюцыя робіцца рукамі незадаволеных, а ўлада бярэцца ў рукі тых,*

*хто скарыстаўся вынікамі гэтай рэвалюцыі. Таму не трэба, мне падаецца, вось гэтых рэляцый і пошукаў сусветнага зла. Таму на гэтым мы і спынімся: так, яно ёсць, яно існуе і яно віруе. А што рабіць? І што рабіць для Беларусі? Як ажывіць Беларусь? Вы паглядзіце, ідуць перадачы зараз па беларускім тэлебачанні, абмяркоўваюць пытанне: адраджэнне беларускіх вёсак. Дык што стала мясцовая ўлада рабіць? Яна пабудовы старажытныя, яшчэ дзевятнаццатага стагоддзя, пачала знішчаць, І ставіць побач аграгарадкі, без аніводнага дрэва, знішчаючы панскія яшчэ алеі, знішчаюцца млыны, а ставіцца сучасны супермаркет на ўзор мінскага, толькі ў меншых памерах. І людзі сталі гвалтам крычаць: што вы робіце? Вы знішчаеце нашу гісторыю, адметнасць такую гістарычную, фальклорную, культурную… Вось з чаго ўсё пачынаецца. І чалавек прыйшоў у гэтую хату, дарэчы, вельмі няякасна зробленую, за якую ён заплаціў пэўныя грошы. Ён выходзіць у гэтае чыстае поле, ён не мае куды кінуць вока, ні на дрэва, ні на кусцік, толькі на заасфальтаваную дарогу і яму прапануюць прыйсці ў храм. Пабудавалі новы храм: нейкі там фундатар выйшаў з турмы, ці, наадварот, не сеў у яе. І вось ён адкупіўся — пабудаваў храм. Прыходзіць бацюшка на споведзь, Прычасце, і людзі прыходзяць у храм. Усё голае, бездухоўнае, без каранёў… Калісьці я, браце Мікола, вось яшчэ раз звяртаюся да тых словаў, якімі я завяршыў сваю паэму “Мінская зямля”:*

*Усё ідзе ад каранёў,*
*Ад родных вёсак і палёў,*
*Бацькоўскай хаты, роднай мовы,*
*Тым толькі нацыя здарова.*

*Нацыя наша, наша грамадства хворае. І я думаю, цяпер гэта зразумеў і наш кіраўнік. Свае і чужыя — мы ведаем, да чаго гэта прыводзіць. Вось рэвалюцыя ў Расіі — яна і паказала. Грамадзянскія войны знішчылі большую частку насельніцтва, чым любая інтэрвенцыя, любыя замежныя войны. Перамалаціліся паміж сабой усе. Тое ж самае зараз набрыньвае і ў Беларусі. Вось у гэтым я бачу найвялікшую памылку. Перадусім, мы казалі, хрысціянская любоў, перадусім – беларуская зямелька, перадусім –*

*беларуская культура. І нельга казаць, што вось гэта – быдла, яно не вартае выказаць слова, хай яны сядзяць там у сваіх аграгарадках, а мы ім працэнт вызначым. Я цалкам не згодны з такой пастаноўкай, таму што трэба лічыцца з людзьмі. І калі ты паводзіш сябе сумленна, калі ты даеш ім магчымасць жыць годна, то гэтыя людзі, паверце мне, ніколі не ператворацца ў нейкі статак, у нейкую масу. Я прыйшоў да высновы праз свой жыццёвы шлях, праз стасункі менавіта з простымі людзьмі, з рабочымі, з іх біяграфіямі, з іх паходжаннем. І нам не трэба спасылацца на нейкія міфічныя сілы сусветныя, нам хапае сваіх праблемаў. Дай Бог, каб мы іх вырашылі.*

# ЖЫРОВІЦКАЯ ПАСТАРАЛЬ

**І.М.:** Сёння 19 сакавіка 2011 года мы зноў у келлі Алеся Клышкі. Грэшны інак Мікалай хоча спаймаць хвалю натхнення Алеся і захаваць яе на многая лета.

**А.К.:** *Добра, браце Мікола, зноў такі рады цябе бачыць у сваім месцы, у сваёй келлі, зноў непрадбачныя пытанні, неабгавораныя нейкія праблемы. І вось мы іх збіраемся абмеркаваць, зыходзячы з апошніх падзей і ў свеце, і ў нашай краіне. І ў нашым жыцці асабістым. 19 сакавіка. У гэты дзень за апошнія колькі дзесяткаў год Месяц найбліжэй падыйшоў да Зямлі. На Зямлі прадказваюцца катаклізмы. Яны ўжо распачаліся, але ў той жа час мы бачым, як усё знітавана ў свеце, як Гасподзь усё стварыў на сваім месцы: і Месяц, і планеты, і Сонечную сістэму, і нашую матачку-зямельку. І ўсялякае ўмяшальніцтва ці змена парадку – яно прыводзіць да хаосу.*

*У мінулы раз мы абмяркоўвалі падзеі трохмесячнай даўніны ў Мінску, выказвалі сваё стаўленне да гэтых падзей і свае меркаванні, прыходзілі да высновы. Першая выснова, што гвалт над парадкам ніколі не прыводзіў да станоўчых вынікаў. І сённяшні дзень зноў такі сведчыць, што чалавек сам, па сваёй прыродзе, па сваёй саматужнасці, як бы высока ён не развіваў тэхнічны свой узровень, сацыяльны, матэрыяльны, ён істота даволі хісткая, няўстойлівая. Гледзячы на падзеі, якія адбываюцца ў Японіі, становіцца страшна. Я бываў у гэтай краіне і ведаю гэтых людзей, і гэтыя цудоўныя мясціны. І бачыў, як людзі руплівa ставіліся да кожнага лапіка сваёй роднай зямелькі, якія яны былі адданыя культуры. І хай гэта другое вераспавяданне было, але яны былі руплівцы на сваёй зямлі. І ў той жа час людзі высока ўзышлі ў сваім развіцці. І ў пэўны момант страцілі ўвагу, страцілі асцярожнасць. Хаця неаднаразова міжнародная супольнасць папярэджвала, што трэба прымаць меры, што з цягам часу тэхніка зношваецца. Але ўпэўненасць японцаў у сваёй бездакорнасці, у сваім такім развіцці – падвяла. Дастаткова адбыцца такім вось страшэнным падзеям, як цунамі, землятрус, і аварыя*

*атамнай энергетыкі, як краіна стаіць на парозе свайго існавання, на парозе пытання: быць альбо не быць далей. І што самае цікавае, што расійскае кіраўніцтва ўжо звярнулася з прапановай, каб людзі маглі выехаць, даюць ім магчымасць знаходзіцца на тэрыторыі Расіі, пэўным чынам працаўладкавацца і пэўным чынам дзесьці прытуліць людзей нямоглых, старых, малых і г.д. Усе мы чакаем апакаліпсіса, мы чакаем таго, што Іаан Багаслоў прадказаваў пра гісторыю Зямлі, праз свае словы ён выказваў думкі Хрыста. І вось мы прыходзім да высновы, што апакаліпсіс можа адбывацца не адначасова, не ў гэтую менавіта хвіліну, а ён можа быць расцянгуты для чалавека на дзесятак гадоў, а можа і на сотню, але сам працэс, як кажуць, ён пайшоў… І мы гэта бачым і па прыродных з'явах, і па сацыяльных. Тут шмат можна пра што весці гаворку. Але самае галоўнае, да чаго прыходзіш, да якой высновы, што чалавек — госць на гэтай Зямлі, доўга ён тут не затрымліваецца. І ўсё тое, што ён робіць на карысць свайго развіцця тэхнічнага, маральнага і матэрыяльнага, раней ці пазней у гэтых умовах прыходзіць да катаклізма. Вось тое, што мы маем на сённяшні момант.*

**І.М.:** Але, як у нас спакон веку кажуць: паміраць збірайся, а жыта сей. Давай зірнем на апакаліпсіс. З пазіцыі вось гэтых гістарычных контураў Гасподзь даў нам новага Прадстаяцеля Царквы, Свяцейшага Патрыярха Кірыла, які на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў Хрыстовай эры сфармуляваў упершыню ў гісторыі сацыяльную канцэпцыю Царквы. Пад ягоным апекаваннем цэлая вялікая сябрына праваслаўных вучоных з розных галінаў сфармулявала пазіцыю Царквы па асноўных пытаннях сацыяльнага жыцця, якая дае магутны імпульс, канцэнтруючы ў сабе дасягненні гісторыка-філасофскай думкі, сацыяльных навук, дае мажлівасць спалучыць гэта і паставіць на трывалы грунт запаведзяў Хрыстовых і канонаў Царквы. Дае мажлівасць увесь плён гісторыі, які назапашаны, паставіць на трывалы грунт, на якім дзяржаўнасць хрысціянскіх народаў стагоддзямі трымалася ў Еўропе. У той жа час другі вялікі хрысціянскі народ, нямецкі, пасля крушэння сваёй хрысціянскай дзяржаўнасці ў 1918-м годзе, яму Гасподзь дае

шанец таксама адраджэння як народа хрысціянскага, і знак таму вельмі выразны, што немец, які прайшоў шматдзесяцігадовы шлях ад свайго ранняга юнацтва, калі ён фарміраваўся ва ўмовах нацыянальнага нямецкага адраджэння, і цяпер ён займае пасаду першаіерарха рыма-каталіцкай царквы. Вось дзве такія постаці сярод сучасных знакамітых яркіх фігур сучаснага чалавецтва. Мажліва гэта дзве найбольш яркія. Вось як ты ўспрымаеш, які знак Гасподзь хрысціянскім народам дае праз гэтых двух людзей – Свяцейшага Патрыярха Кірыла і новага прадстаяцеля-немца рыма-каталіцкай царквы?

**А.К.:** *Я ўзгадваю нашую гаворку, яна тычылася нашых сямейных справаў. Такая завядзёнка пайшла, што адзін з нас пытанне ўздымае глабальнага маштабу, другі — чыста такога сямейнага, местачковага. І калі ў мяне адбыліся пэўныя недарэчнасці ў сямейным жыцці маіх дзетак, я кажу, вось я малюся, я намагаюся, а мне, браце Мікола, будзе казаць: Алесь, мы штосьці робім, але ж і Гасподзь таксама робіць сваю справу. Ён таксама ў баку не застаецца. І тое, што зараз набліжаецца сустрэча Папы Бенядзікта XVI і нашага Патрыярха Кірыла, я лічу, што ў гэтым ёсць пэўны знак – знак таго, што людзі не падзяляліся. А мы ж бачым, што адбываецца ў Афрыцы зараз, што дастаткова ўзварухнуць толькі ў адным месцы – яно хвалямі ад землятруса разыходзіцца па ўсім свеце. Тут ужо не важна, на якіх падставах людзі выказваюць сваё незадавальненне, свой пратэст, выходзяць на плошчу – вынік які? Вынік — гэта нестабільнасць, вынік — гэта гвалт. І я быў вельмі засмучаны вось апошнімі звесткамі. Глядзеў, што ў тым жа Йемене, такой лагоднай і спакойнай краіне, па дэманстрантах быў адкрыты агонь і было забіта сорак чалавек адразу. Жыццё чалавека становіцца нічога не варта. У працяг гэтага я таксама хачу прывесці прыклад з Іракам: вось там багата тэрарыстаў, багата супраціву ідзе паміж людзьмі, згоднымі з сённяшнім парадкам ці не, прыходзяць звесткі: забілі пятнаццаць, дваццаць чалавек, там загінула сто, а вось ад гэтага выбуху трыста… Я сябе лаўлю на думцы, што я пачынаю ўжо не рэагаваць на колькасць людзей загінуўшых, на гэтыя страшэнныя падзеі, ужо мы*

*прызвычайваемся да гэтага. Дык вось якая сувязь паміж гэтым пытаннем і тое, што зараз я ўзняў такія моманты апошніх падзей. Задача ворагу рода чалавечага – гэта знішчэнне чалавека. Яму пажадана, каб чалавек сябе сваімі рукамі знішчыў. Гасподзь паказвае чалавеку шлях да ратавання, да любові. Там, дзе любоў, там не можа быць гвалту, не можа быць ніякіх такіх здарэнняў, масавай гібелі людзей. І вось неяк не спалучаецца гэта ўсё, што тэхнічна развітая краіна атрымлівае такі моцны ўдар тэхнагенны па свайму народу, па сваёй тэрыторыі. У той жа час такая краіна як Нямеччына, якая дзве хвалі такога нацыяналізму перажыла і ў Першую сусветную вайну і ў Другую, зрабіла пэўныя высновы. Невыпадкова вось немец стаў узначальваць гэты каталіцкі сусветны рух, што было пэўнае пакаянне народа, і была зменена палітыка сусветная. Дарэчы, зараз вось прымаюцца пэўныя захады ААН па ўтаймаванню Кадафі — у недалёкім мінулым сусветнага тэрарыста, ён зараз узначальвае кіраўніцтва Лівіі. Дык вось Германія — адна з краін, якая адмовілася ўводзіць свае войскі і прымаць удзел у навядзенні парадку.*

*Правіла Божага парадку на Зямлі: вось яно сонца ўзышло, вось яно свяціла было ў пэўным месцы, вось яно і зайшло, і прыйшла ноч. І так гадзіна за гадзінай, дзень за днём, год за годам ідзе пэўна парадак у прыродзе, у наваколлі. Як толькі чалавек сваімі тэхнагеннымі ўмяшальніцтвамі парушае гэты парадак — парушае клімат, парушае глебу, парушае паветра, – мы маем катастрафічныя наступствы. І вось цяпер мы паглядзелі, што нічога чалавек не можа даць рады з атамнай энергіяй, што гэта — закладзеная бомба пад ложак чалавека. Уявіце сабе такі момант: вы жывеце ў шыкоўным гатэлі, але вам кажуць, што нам не было куды пакласці скрыню з дынамітам, хай ён часова пабудзе ў вас пад ложкам. Ён не ўзарвецца ніколі, толькі тады, калі які агонь там будзе, вадой залье штосьці, землятрус, дык ён да вашага паверха і не дойдзе. А тут усё адразу. Па-першае, землятрус, уначы замкнулася праводка, пажар – пачало гарэць, прарвала трубу – пачало вадой залiваць… Як вы будзеце адпачываць на сваім ложку? Вось так і чалавек, ён нібыта падкладае пад свой ложак дынаміт – атамную энергію, і будзе казаць, што без гэтага ён жыць не можа!*

*Яшчэ колькі часу пабудуць выкапні, якімі мы тут карыстаемся, як паліва, нафта – гэта ўсё скончыцца. Не ставіў Гасподзь перад чалавекам такую задачу, каб ён палез у такія тонкія матэрыі, дзе чалавек даць рады не ў стане. І вось прыходзіш да высновы, што чалавек сам, сваімі рукамі, паціху набліжае сябе да гэтага катаклізму, да гэтага канца. І як мы ўжо казалі, ён можа быць у сусветным маштабе, дзе мільёны гадоў, ён можа зведзены быць у адну кропку. Гэтая кропка можа быць пяцьдзесят, дваццаць, трыццаць год, можа быць адзін год – і ўсё скончыцца. Вось такія падзеі – і чалавецтва на парозе трэцяй сусветнай вайны. Цяпер вось паглядзіце, што робіцца ў Афрыцы – і гэты працэс будзе разгортвацца далей… Патрабаванням людзей няма межаў, заўсёды ёсць пратэст, заўсёды ёсць незадаволеныя. Але Гасподзь – Бог парадку. Госпадзі, навучы мяне быць паслухмяным уладам, нада мною пастаўленым – мы такое чытаем, такія радочкі ў малітве – не ад таго, што мы ператвараемся ў нейкі паслухмяны такі натоўп, а толькі ад таго, што калі будзе парушаны парадак, калі не будзе выспяваць тая ці іншая змена, беспарадак прывядзе да трагедыі. І ён можа выйсці ў тэхнагенную трагедыю. Ён можа выйсці і ў экалагічную трагедыю, выліцца, і ў сацыяльную, і ў ваенную, якую заўгодна. І вось у звязку з гэтым я разглядаю крок, які могуць зараз зрабіць насустрач дзве такія хрысціянскія плыні. Гэты крок можа вельмі сур’ёзна паўплываць на сусветнае ўмацаванне аптымістычнай перспектывы існавання чалавека на гэтым свеце.*

**І.М.:** Алесь, бацька ілжы вельмі хітра абвясціў у свой час аддзяленне Царквы ад дзяржавы, і школы ад Царквы. Вякамі Царква, а Царква – гэта ўвесь народ Божы, Царква – гэта ўсе хрысціянскія плямёны Еўропы былі першым, а ў іх пачаўся працэс гвалтоўнага адсячэння дзяржавы ад Царквы. Менавіта дзяржавы хрысціянскіх плямёнаў гвалтам былі адсечаныя ад цэласнасці, ад царкоўнага народу Божага. Школа таксама была адсечана. І вось калі зразумець, што ў выніку гэтых рэвалюцый антыхрыставых Новага часу адбылося адсячэнне дзяржавы і школы ад царкоўнага, цэласнага народнага арганізму. І што адбываецца цяпер? Цяпер адбываецца працэс адраджэння хрысціянскай

дзяржаўнасці, дзяржавы паступова на ўсіх узроўнях вяртаюцца ў Царкву хрысціянскіх народаў. І індывідуальна чалавецтва на розных ступенях, і ў цэлым на дзяржаўным узроўні, Прэзідэнты моляцца ў храмах разам з прадстаўнікамі Царквы. Дык вось гэты працэс вяртання адсечаных дзяржаў і школ, сістэм асветы, у цэласнасць арганізмаў хрысціянскіх народаў. Ёсць сфармуляваныя і распрацаваныя Асновы сацыяльнай канцэпцыі Царквы, ёсць яркія лідары царкоўныя ў найпершых і найвялікшых хрысціянскіх народаў, святарускага і нямецкага. А нямецкі ўжо пакрывае праз постаць першаіерарха і ўвесь каталіцкі свет. Дык вось быццам золак адраджэння хрысціянскіх плямёнаў хрысціянскай Еўропы. Як ты, Алесь, у цэлым вось бачыш вось гэты працэс? Як табе ўяўляецца гэты золак адраджэння хрысціянскай дзяржаўнасці і ў цэлым хрысціянскай Еўропы?

**А.К.:** *Калі мы разглядаем такую фігуру як піраміда, то вось тое, што ты, браце Мікола, абазначыў – гэта вяршыні. Гэта ўжо фінал таго, што павінна адбыцца і тое, што, дай Бог, адбудзецца. Але ж у падмурку, унізе, стаіць сям'я. І я задаваў сабе пытанне такое, чаму так цяжка ідзе выхаванне дзетак у хрысціянскім рэчышчы. Усім зразумела, які б не быў бацька і чым бы ён не займаўся, ну які бацька не хоча, каб у яго дзіцятка было паслухмянае, дысцыплінаванае, каб яно было адукаванае, каб гэтае дзіцятка мела перспектыву ў гэтым жыцці. І кожны робіць на свой капыл, адзін прызвычайвае чалавека да свайго бізнеса, другі хоча яму перадаць у спадчыну свае веды настаўніка ці далучыць да свайго прафесійнага занятку і г.д. А перадусім стаіць яшчэ адзін самы галоўны пласт, самая галоўная мэта, што без дзіцячага паслушання, без вось гэтай паслухмянасці ў побыце, без культуры радавой, нічога не атрымліваецца. І чалавек, калі ён вось назапашвае гэтыя хрысціянскія правілы паводзін, калі ён не кіруецца гэтай мараллю, рана ці позна ён хоча мець больш грошай, ён хоча мець пасаду, ён хоча, каб пра яго пісалі ва ўсіх сродках масавай інфармацыі, ён хоча валадарыць І вось ён так паціху вышэй і вышэй уздымаецца, уздымаецца, вось ён ужо і забыўся пра тых людзей, якія былі з ім, пра сваіх бацькоў, як трэба сябе паводзіць, вось*

*наступае гардыня… Бачыш, як мы нечакана падымаем другі пласт вось гэтых адносін сацыяльных – быццам бы наверсе ўсё ідзе да таго, што мы разумеем…*

*Я разглядаю нямецкае грамадства, як бы там ні было, і мы павінны гэта прызнаць, што культура побытавая ў немцаў вышэйшая, чым у расіян. Не будзем казаць пра Беларусь, я, дарэчы, не змешваю паняцці Беларусі і Расіі, і па гістарычных такіх паказчыках, і генетычных, мы даволі розныя плыні. Калі там фіна-угорская плынь і татара-мангольскі ўплыў, у нас больш балцкай крыві. Гэта і навукоўцы зараз вызначаюць, і генетычныя аналізы робіць насельніцтва, я кажу пра Расію. Дык вось Расія, калі войскі савецкія ўваходзілі ў Заходнюю Еўропу, гэта і са слоў майго бацькі, які вызваляў і Венгрыю, і ёсць медаль і за ўзяцце Будапешта, і за Аўстрыю, за ўзяцце Вены, ён быў захоплены высокай культурай паводзін людзей, гаспадаркі, іх выхаваннем, паслухмянасці іхніх дзетак, іх уцаркоўленасцю, верай. Хай хадзілі яны ў лютэранскія храмы ці ў каталіцкія, гэта ўжо другое пытанне. Дык вось на сённяшні дзень, што мы маем па Расіі Праваслаўнай, якую мы лічым цэнтрам Расіі, што будзе аб'ядноўваць Бенядзікт XYI і Патрыярх Кірыл – якія народы, якія сямейныя традыцыі, якія культурныя парадкі – вялікае пытанне. Таму што хрысціянства, прабач мяне, чытаеш жа кнігі пра гару Афон, пра Грэцыю, пра Візантыю, і праваслаўныя людзі ў Палестыне, гэта зусім іншыя, чым у Грэцыі. А яшчэ больш яны адрозніваюцца ад расіян і г.д. Не можа быць аб'яднання ўвогуле, калі няма карэнных зблiжак. Яно карэннае вось збліжэнне можа быць толькі на падставе гэтага сямейнага выхавання. І вось першае, што прагучала пытанне, адносна хрысціянскага выхавання. Вось прайшла гэтая хваля, што трэба дзетак так выхоўваць у школах, каб даваць ім асновы праваслаўя, даваць ім асновы хрысціянства, дарэчы, і іншых рэлігій… Яна сышла пацiху. Па-першае, кадры трэба, падрыхтоўка кадраў трэба, хто будзе чытаць гэтыя лекцыі? Святар не зможа, калі ён мае прыход, ці дыякан, які таксама мае дастаткова нагрузкі, відаць, больш, чым святары нашыя, няма занятых людзей. Трэба рыхтаваць, трэба ствараць інстытут выкладчыкаў, не служыцелей царквы, не святароў,*

*а інстытут выкладчыкаў. Гэта сур'ёзная справа. Тады трэба ісці да людзей, тады трэба ўлічваць колькасць людзей, якія хочуць дзяцей выхоўваць у гэтым накірунку, а хтосьці там іслам захоча развіваць плынь, іудаізм ужо сваё пачынае прапаведаваць і г.д. Вельмі складанае пытанне. Бо яшчэ багата і іншых рэлігій, дарэчы, для мяне было вельмі дзіўна, што ў той жа Нямеччыне на сённяшні дзень пражывае каля некалькіх мільёнаў людзей, якія спавядаюць іслам. І яны ўжо на сённяшні дзень маюць магчымасць будаваць мячэці, прэтэндуюць яны на цэнтры гарадоў, на месцы, дзе багата людзей наведвальнікаў, і ўзнікаюць канфлікты. Там вельмі багатая дыяспара турак. Прэм'ер-міністр Турцыі, ён заявіў, што турэцкае насельніцтва ў першую чаргу павінна выкладаць дзецям турэцкую мову, а потым вывучаць мову карэннай нацыі, нямецкую. Меркель ад Германіі кажа: ну як жа так, вы ж тут госці, вы павінны спачатку ведаць тое, што неабходна, а ўжо потым сваю развіваць культуру. Вось першы крок, першы пасыл: я буду вывучаць сваю мову, я буду вывучаць, значыць, сваю рэлігію, сваю культуру, я буду прызвычайваць дзетак да сваіх звычаяў. А яны будуць карыстацца нямецкім дабрабытам, нямецкім парадкам, напрацаванымі пакаленнямі нямецкай прамысловасцю і сацыяльнымі ўмовамі. А людзі, якія туды прыязджаюць, яны нядрэнныя грошы атрымліваюць, такія як далёка нам да заробку сярэдняга. Яны атрымліваюць дапамогу штомесячную на дзетак сваіх і на ўсіх, хто не працуе. Большасць з іх не працуе. Вось табе і закладзена яшчэ адна праблема, як мы казалі пад ложкам дынаміт. Так што не ўсё так проста. Але сам факт таго, што з'явілася ўжо жаданне сустрэцца, жаданне пайсці адзін аднаму насустрач, вось гэта я лічу найвялікшай Божай благадаццю, нягледзячы на ўсе тыя хібы, на тыя справы, якія можа не даюць быць упэўненымі, што так усё лёгка адбудзецца. Таму сам факт я вельмі ўхваляю. Калі б гэта адбылося, сустрэча дзесьці ў Берліне, гэта была б увогуле такая знакавая падзея, калі праваслаўны Патрыярх быў бы сустрэты людзьмі ў цэнтры сталіцы Германіі і яго б віталі, як свайго прадстаўніка каталіцкай царквы.*

**І.М.:** У Кіеве, у Берліне, у Маскве –
Еўропа хрысціянская жыве,
Уваскрасае пакрысе, а покуль – у Менску
Жыве няхай Канстанцінопаль!

**А.К.:** *Добрыя словы, браце Мікола, добрыя. І мы яшчэ раз пераканаліся, што Беларусь не толькі геаграфічна займае сваё месца на еўрапейскай мапе, яна мае перспектыву. Я б не хацеў, каб са сваім багаццем, духоўным, карэнным, са сваёй гісторыяй, Беларусь пашырала свае культуралагічныя межы. Хаця ўзнікае яшчэ адно пытанне. Мы ўвесь час кажам пра аб'яднанне народаў праваслаўных, пра стварэнне сусветнага такога брацтва, а яно павінна ісці толькі на падставе захавання сваёй этнічнай культуры, якая мае сваё адметнае месца ў агульным будынку. Мы чамусьці здзіўляемся, як у старажытныя часы рабілі цэглу, якую сёння не разбіць яе, не разбурыць нічым. Яны ашчаджалі яйкі, яны рабілі вапну доўгатэрмінова, яны выкарыстоўвалі тэхналогіі такія няспешныя, прыродныя. Праўда, гэта вымагала часу. Цаглінку трэба было зляпіць так, каб яна трывала доўга. Але на сённяшні дзень няма ніякага сусветнага аб'яднання ніводнай рэлігіі. І не будзе, пакуль не выспее неабходнасць умацавання вось гэтых цагліначак. Адна цаглiначка будзе знаходзіцца ў Сербіі, другая – у Маскве, трэцяя – у Берліне, чацвёртая – у Мінску, пятая – у Кіеве і г.д. Вось тады можна казаць пра моцны сур'ёзны звязак. Але цяпер гэта ўсё толькі словы. Ёсць такі вельмі добры ў бізнесоўцаў прыём: мы складаем план аб тым, што хочам зрабіць, а саміх яшчэ дзеянняў тут не бачна. Вось зноў-такі я вяртаюся да карэньчыкаў, я вяртаюся да таго пытання: пакуль у праваслаўнай сям'і не будзе парадку праваслаўнага ў выхаванні, у паводзінах, у зносінах – сям'і не будзе. Пакуль не будзе сям'і ў грамадстве – не будзе грамадства. Пакуль не сфарміруюцца грамадствы беларускае, украінскае, славацкае, сербскае, югаслаўскае – не будзе сусветнага аб'яднання, праваслаўнага такога адзінства. Таму што заўжды вось гэтая шчылінка, яна можа быць падставай для разбурэння ўсёй сістэмы, паспешлівасць тут не патрэбна. Трэба даць*

*час выспець усім гэтым падзеям. І я думаю, што самае галоўнае, што трэба чалавеку на прыкладзе таго, што адбылося ў Японіі, прыйсці да высновы: як бы высока тэхнічна ты не развіваўся, але ж калі ты губляеш адказнасць перад часам, перад людзьмі, дык у гэты момант вораг роду чалавечага разбурае ўсю тваю ўшчэнт справу – гістарычную справу. У Японіі пытанне ўзнялося пра існаванне цэлага народа, цэлай краіны. Здавалася б, на роўным месцы ўзніклі праблемы, хаця краіна займае першае месца ў эканамічным развіцці ў свеце. Вось яна недарэчнасць, якая атрымліваецца. Я лічу, што Гасподзь папярэджвае чалавека, што не трэба так ставіцца да гэтай атамнай энергетыкі, што гэта вельмі небяспечна для людзей, што трэба ўважлівым быць да падзей землятруса, што чалавек вельмі сур'ёзна ўмяшаўся ў падзеі і ход гісторыі Зямлі, у кліматычныя ўмовы і г.д. Чалавек пачаў разбураць гэты свет, так і працягвае. Вось ён і сам сябе паціху закопвае сваёй жа рыдлёўкай. Пры гэтым ён радуецца, што ён жыве, што ён вельмі моцны, што ён такі ўладар на гэтай Зямлі, што ён тэхналогіі прыдумаў, ён усё стварыў для свайго дабрабыту, страціўшы ў першую чаргу сваю духоўнасць, свае карані і тое, з чаго ён пачынаўся. І ў гэтым ракурсе я разглядаю трагедыю чалавецтва, таму што пакуль мы не вернемся зноў-такі да вытокаў, ніякага сур'ёзнага аб'яднання не будзе. А гэта толькі адбудзецца, калі чалавек перагледзіць сваю маральнасць, перагледзіць сваё месца на гэтай Зямлі. І ён павінен зразумець, што менавіта ад кожнага чалавека залежыць тое, што адбываецца на Зямлі. А свет вельмі цесны, маленькі. Вось як жонка мая кажа апошнім часам: Алесь, але ж гэта ў нас адбываецца тое, што ў Японіі, гэта ж у нас адбываецца тое, што ў Афрыцы… Як мы блізкія ўсе – там выбухнула, а сюды прыйшло воблака радыяцыйнае. Там непарадак прайшоў, а сюды прыехаў тэрарыст і ўзарваў самалёт з тваімі дзецьмі, з тваімі блізкімі. Вось яно як атрымліваецца, што ўсё знітавана, і нельга адмежавацца. Неабходнаісці ісці адзін аднаму насустрач, асэнсоўваць усе канфлікты і праблемы і разам вырашаць тое, што адбываецца па-за воляй чалавека.*

**І.М.:** Хрысціянская Еўропа айчынаў,
Уваскрасай — не пакрысе,
а —ва ўсёй сіле і красе! Амінь.

Сёння 5 траўня 2011 года. Мы ізноў у келлі Алеся Клышкі працягваем нашыя сумоўі. Я толькі вярнуўся з Брэста, з міжнароднай канферэнцыі “Праваслаўе і беларуская культура”. Былі сябры з Беласточчыны, з Масквы, з Украіны, з Беларусі. Канферэнцыя праходзіла пад эгідай Берасцейскай епархіі і Берасцейскага універсітэта на кафедры гісторыі славянскіх народаў. Былі цудоўныя прамовы, на розных мовах, рабочымі мовамі былі беларуская, руская, польская, украінская і ангельская. Дзякаваць Богу, вось у кантэксце геаспляцення розных племянных, веравызнальных, культуралагічных галасоў на Берасцейшчыне прагучала такое сумоўе. У ім праваслаўная Беларусь была вядучым голасам, голасам кутнага каменю. І ў яе, у гэты голас, канешне, упляталіся і іншыя галасы. Алесь, як ты лічыш, вось у сэрцы хрысціянскай Еўропы, як мы ўжо раней адзначалі, вось калі такое сумоўе хрысціянскіх галасоў рознапляменных, рознатрадыцыйных культурных, этнічных і іншых плыняў Еўрорпы, якія спляліся на кутным камені праваслаўнай Беларусі, як надалей ты адчуваеш працяг гэтага сумоўя?

**А.К.:** *Калі ты задаў мне гэтае пытанне, мне прыйшоў на думку радочак з маіх вершаў пра Госпада, які вызначыў нам месца і час, патрэбныя словы, дарэчы. Вось мне падаецца, што з цягам часу свайго жыцця я ўсё больш пераконваюся ў тым (і не толькі я, відаць), што нічога не адбываецца знянацку, яно ўсё адбываецца з пэўнай задумкай, якую мы яшчэ не разгадалі. А з пэўным часам можа і прыходзіць адказ, а можа ён і не прыйсці пры нашым жыцці. Таму і Гаспoдзь сказаў, што моцнымі будуць тыя, хто будзе толькі вераваць, без наяўных знакаў. Дык вось тое, што адбылося зараз, з гэтай сустрэчай і з гэтага сумоўя, што ты прыехаў, я не ведаю падрабязнасцей усіх, я толькі ўжо па вопыту нашых мінулых зносінаў і сустрэч ведаю, што там, дзе ты прысутнічаеш, там абавязкова пануе і духоўнасць, і згода, і мір, і любоў. Вельмі прыемна, што і*

*беларуская мова на семінары гучала. І яна была сярод працоўных моў. Ёсць людзі, якія з верай і любоўю ставяцца да будучай Беларусі, вераць у яе існаванне, як незалежнай квітнеючай хрысціянскай краіны, вераць у існаванне беларускай культуры і нашай роднай мовы. Трэба проста жыць і працаваць у сваім асяродку, а змены, станоўчыя змены — яны непазбежна адбудуцца. Беларусам, трэба пераадолець гэтую вяршыню, вось гэты пераход зрабіць, трэба пераход зрабіць праз гэтыя цяжкія ўмовы, і перамога будзе за намі, як пісаў у сваіх вершах інак Мікалай.*

**І.М.:** Алесь, тэма майго сціплага выступлення была такая — “Творчая і грамадская дзейнасць Уладзіміра Караткевіча ў кантэксце царкоўнага жыцця 50-х – 70-х гадоў XX стагоддзя”. Пачаў я з кантэксту, а кантэкст быў такі: Вялікая айчынная вайна, якая завяршылася Божым промыслам бліскучай перамогай 1945-га года ў дзень велікамучаніка Георгія Пераможца, які супаў тады з днём праваслаўнай Пасхі. І праваслаўны маршал Георгій Жукаў у гэты дзень паставіў пераможную кропку ў гэтай найвялікшай з войнаў, якія папусціў Гасподзь для ўразумлення роду чалавечага. І вось папушчэннем Божым Святая Русь была на мяжы поўнага вынішчэння бязбожнікамі, апошняя бязбожная пяцігодка павінна была завяршыцца недзе ў тыя часы, калі немец падступіў да Масквы, калі Божае ўразумленне асатанелай некалі святой Русі акупаванай, якая дазволіла акупаваць сябе іншаверным іншапляменнікам антыхрыставым. Гасподзь даў такі знак за пакаянне, за крывавае выкупленне грахоў перамогу 1945 года. Дык вось кантэкст царкоўнага жыцця тых часоў, а Царква гэта ж не толькі клір, гэта ўвесь народ Божы, а народ Божы тады ў асноўным былі былыя хрышчоныя вяскоўцы, якія ў Берліне засведчылі перамогу святой Русі. Дык вось кантэкст быў які: з аднаго боку, нібыта Царква з першых хвіляў вайны падтрымала народ у такой напасці, у такім трагічным часе ўразумлення Божага. І ўлада зразумела, што без Бога не да парога, недабітых святароў выпусцілі з лагероў. Казанская ікона абляцела на самалёце вакол Масквы. Карацей, пакаянне спалучанае з супраціўленнем, з пакладзеннем мільёнаў жыццяў “за другі свая” дало

перамогу 1945-га года. І кантэкст быў такі, што з аднаго боку садружнасць Царквы і дзяржавы нібыта ўзнавілася, з другога боку – цуд гэтай перамогі і гэтае сумоўе і гэтая вера, і гэты парыў працягваліся нядоўга. Я з малых гадоў бачыў: з аднаго боку, былыя вяскоўцы, славяне хрышчоныя вераць – перамога, смерці не баяцца, з другога боку – узнаўленне ўлады бязбожнікаў, якую яны нібыта і церпяць, перацярпець трэба. Вось Гасподзь папусціў, і тут цётачка з аднаго боку, бацька яшчэ тады на словах бязбожнік з другога. І я вось у такой сітуацыі, у такім кантэксце ўзрастаю. І Караткевіч у прынцыпе ў такім кантэксце ўзрастаў ва ўсходняй Беларусі да адзінаццаці з паловай гадоў. Практычна ўсё было вынішчана, бязбожнае піянерскае выхаванне, потым эвакуацыя ў вялікарускай глыбінцы, потым адукацыя праз вялікарускую стыхію ў літаратурным інстытуце ў Маскве, праз вялікарускую мову. Ён, будучы вялікі беларус, да вяршынь духу дайшоў. Потым на Русі Кіеўскай завяршаў сваё і нацыянальнае, і духоўнае станаўленне, і вярнуўся ў зямлю пад белымі крыламі ўжо сфарміраваным рыцарам духа, які нікога не баяўся. Адзін у гэтым кантэксце, з аднаго боку, ён яшчэ і ад каранёў вясковых не адарваўся, і да мовы вярнуўся, як і Пушкін ад французскай вярнуўся да сваёй роднай. Дык і ён ужо ад вялікарускай, бо зразумеў, што ўсё ж такі свая сярод іх толькі адна, і вера свая толькі адна, і веру ён у гэтым кантэксце засведчыў, што ездзіў у Быцень, бо самыя лютыя часы з сярэдзіны 1960-х да сярэдзіны 1970-х прыкладна да свайго сябра, прафесара Грынчыка, і разам яны спявалі на клірасе, калі спецслужбы першыя без пяці хвілін атэістычнай рэспублікі кожны крок масцітага літаратара адсочвалі. Ён адкрытым тэкстам сведчыў сваю веру, мітрапаліт Антоній, які ўзначальваў да 1978 года Беларускую праваслаўную Царкву, у арыгінале прачытаў "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", быў ініцыятарам збліжэння з аўтарам, яны адкрыта сябраваліся блізка, ізноў жа пад пільным наглядам адпаведных службаў. Вось так Караткевіч Уладзімір засведчыў сваю веру праваслаўную і сваю беларушчыну ва ўмовах багаборнай і небеларускай улады. Фактычна і мы ўсе ўзрасталі ў гэтым кантэксце, і мы вярнуліся да мовы, і мы неяк прабіліся з Божай дапамогай да веры бацькоў праваслаўнай. І вось у гэтым кантэксце, калі

нарэшце ўзнаўляецца сумоўе Царквы і дзяржавы, калі дзяржава павольна, але няўхільна ўцаркаўляецца ад простых чыноўнікаў да цэзара, і калі Беларусь, вось ёй нечакана Бог даў без усякіх крывавых катаклізмаў і дзяржаўнасць сваю, упершыню пасля Вялікага княства Літоўскага, паўнамаштабную дзяржаўнасць. Праўда, на скрыжаванні магутных сіл супрацьлеглых, вось гэта вока тайфуна наша існуе, у гэтым кантэксце прыйшлі да станаў, якія ў нас цяпер ёсць. Ну ты ўжо кранаеш заўсёды матывы нашага далейшага руху, і вось у гэтым кантэксце, Алесь, як ты бачыш і рух нашага тандэму далей, і ўсёй нашай шляхты, і Белай Русі ў цэлым, у кантэксце хрысціянскай Еўропы.

**А.К.:** *Я ўжо стаў жыццё сваё адсочваць не па зменах грамадскага стану, а па сваім стане, калі я ўсведамляю, як напісана ў Святым Пісанні, у кнігах многіх старцаў, што кожны чалавек без выключэння адказвае за тое, што ў нас адбываецца. І перад Богам, і перад дзяржавай. Я не багата сустракаў людзей-асоб, якія б сачылі за сваім узроўнем, за сваёй мовай, за сваімі ўчынкамі, былі сапраўды інтэлігентнымі. Як кажуць, хто такі інтэлігент? Інтэлігент – чалавек, які займае мала месца, ён непрыкметны. Гэта, відаць, такую думку выказваў яшчэ акадэмік Ліхачоў. Я лічу, што ўсё ідзе сваім шляхам. І калі кожны чалавек на сваім узроўні робіць над сабой намаганні такія, як быццам бы ён кіраваў не сваёй сям’ёй, не сваёй асобай, а краінай кіраваў, пэўным калектывам, вось гэтая адказнасць перад Богам за ўсё, што ты робіш. І вось гэтыя складнікі вызначаюць людзей такіх сумленных, адказных, яны вызначаюць і будучыню. Ужо колькі разоў я пераканаўся, ніякія рэвалюцыйныя змены, так гэта яно і было ў жыцці, яны не прыводзілі да духоўнага прагрэсу. Так, тэхнічны прагрэс адбываўся, дзесьці адбываўся прагрэс у навуковых справах, а вось духоўны прагрэс рэвалюцыйнымі зменамі ён не паляпшаецца. Таму што гэта працэс запаволены, ён доўгі, ён расцягнуты ў часе. І гэта працэс інтымны, чаму ён і прыхаваны ад вачэй. Як хтосьці задаваў мне пытанне: калі такі ўжо вернік, дык чаму ж Гасподзь не прасвяціць усе душы, усе сэрцы. Прыходзяць словы адказу з Пісання і з кніг людзей святых, што Гасподзь адкрывае свае*

*таямніцы толькі абраным людзям, і калі б ён хацеў змяніць штосьці па сваёй волі, ён бы змяніў. Але ж чалавеку ён дае толькі самае галоўнае – гэта волю абраць сабе шлях. І калі вось дар такі, дар веры, дар прадбачнасці, дык гэта не усім дадзена, гэта дадзена сваім улюбёным сынам зямлі, ён дае гэта. І таму адказнасць гэтых людзей, як Уладзімір Караткевіч, як Васіль Быкаў, як Генадзь Бураўкін, і ў тым ліку, як мой сябра брат Мікола, у тым, што яны адказваюць не толькі за сябе, яны адказваюць шмат за каго, таму што яны публічныя асобы, яны людзі, з якіх бяруць прыклад, людзі, на якіх, як кажуць, раўняюцца, а таму адказнасць у іх вельмі вялікая. Тут ужо — як бацюшка. Бацюшка можа не ведаць сваю паству, але ж усе ведаюць свайго бацюшку. Вось так што ўсё навідавоку. Таму адказ просты – толькі Госпаду вядома, што будзе, але ж па тых знаках, якія мы можам параўноўваць з мінулым. І што адбываецца зараз, мы бачым: нават тое, што нам не да спадобы, яно рушыць у станоўчым накірунку, ідуць змены, хай маленькія. Бачыш, чыноўнік паклаў на сябе святы крыж, бачыш, запаліў Прэзідэнт свечку, прыходзіш да чыноўнікаў, а ў яго Біблія на стале ляжыць, а ў таго іконачка вісіць. Але ж гэта ўчынак, гэта памкненне, гэта свайго роду маленькая ахвяра, ахвяра сваім дабрабытам, сваім месцам, сваім, як кажуць становішчам у кіраўніцтве. Таму вось, калі назіраць такія маленькія змены і зрухі, аптымізм, у мяне перакананасць у тым, што Гасподзь не пакідае Беларусь, ён не пакідае і нас беларусаў. Ён спадзяецца да апошняга на нашу перамогу. Госпадзі, на ўсё Твая святая воля. І мне нічога не трэба з трыбуны прамаўляць, ні па радыё, ні з тэлеэкрану, а мне трэба рабіць тую справу, якую я ведаю, што я павінен рабіць. І дай Бог мне пераканаць у гэтай справе сваіх блізкіх, дзяцей, унукаў, сваіх сяброў. А пераканаць можна толькі сваім прыкладам. Таму вось нават гэты візіт брата Мікалая да мяне ў даволі цяжкую хвіліну, калі мала хто да мяне можа завітаць, хто цікавіцца, бо я выпаў з такой мітусні навукова-прамысловай. Гэты візіт сведчыць пра тое, што і мой досвед, і мая дзейнасць камусьці патрэбныя. І гэта мяне яшчэ раз пераконвае ў тым, што Гасподзь пасылае нам не толькі думкі, не толькі словы, але і тых людзей, якія будуць гэта чуць, гэта будуць прамаўляць,*

*будуць асэнсоўваць. І ў першую чаргу тых людзей, якім гэта блізка, гэта патрэбна. Так што мой адказ і мая перакананасць у тым, што вось сёння інак Мікалай да мяне завітаў. І я разглядаю гэта як маленькі цуд Божы, як яго ласку. І невядома, што будзе далей з Беларуссю. Але ж я думаю пра свой лёс асабісты. Што вось такія сустрэчы толькі мяне ўмацоўваюць, толькі падтрымліваюць і пераконваюць у тым, што трэба ісці па абраным цяжкім хрысціянскім шляху.*

**І.М.:** Алесь, набліжаецца 17 траўня 2011 года. Гэта будзе дзень ушанавання памяці яшчэ аднаго слыннага вядомага беларуса Алега Лойкі. 1 траўня было 80 год з дня яго з'яўлення на свет. Мы там на слонімскіх могілках згадалі гэтую падзею. А мінская шляхта будзе адзначаць 17 траўня на канферэнцыі на філфаку БДУ, прысвечанай 80-годдзю з'яўлення на свет Алега Лойкі. Ён быў блізкім сябрам Уладзіміра Караткевіча, яны сябравалі. Алег Лойка ў апошнія трагічныя часы свайго жыцця напісаў успаміны свае пра Караткевіча. Яны ў "Полымі" былі надрукаваны. Я таксама хачу пра Алега Лойку слова сказаць, бо мяне Гасподзь спадобіў, мы ўжо гаварылі пра гэта, назіраць вось гэтую Галгофу, вось гэтае пакаянне яго, якое вось пасля споведзі, саборавання і Прычасця яго вочы засвяціліся незямным святлом. І вось пасля гэтага я з'ехаў ізноў жа ў Брэст на канферэнцыю. І там у час паседжання званочак быў, што ён адышоў да Госпада. І вось гэтыя яго праменныя вочы стаяць, як цяпер, перада мной, быццам яны адтуль мне ўжо свецяць, і вось яго мы будзем памінаць, і свае лёсы сувымяраць з ягоным лёсам, і запытваць і Госпада, і саміх сябе, калі ж запаліцца нашых стагоддзяў жырандоля. Што ты пажадаеш тутэйшай шляхце перад тым, як яна збярэцца асэнсаваць вось гэтыя праблемы?

**А.К.:** *Некалькі гадоў таму я патрапіў да спадара Алега Лойкі разам з сябрам Пятром Кузьмічом Краўчанкам. Мы сумовіліся, я бачыў яго вельмі гаротны цяжкі стан. І калі я даведаўся пра ягоныя апошнія гады жыцця, і чытаў яго "Стагоддзяў жырандолю", і чытаў яго нататкі ў газетах, і ведаў, хто яго спавядаў і прычашчаў, хто быў ў*

*апошнюю хвіліну, я ўзгадаў словы афонскіх старцаў. Калі прыходзіць да старца манах і кажа: бацюшка, як даведацца, а ці добры быў хрысціянін ці не, пакуль яны не выкопвалі і не глядзелі косці яго. Там ёсць адпаведны рытуал, калі яны манаха пакладуць за год костачкі павінны ў пыл ператварыцца, а калі не, дык зноў у рэдкіх выпадках закопвалі. Ну, і глядзелі па колеру костак… Бацюшка кажа: паглядзім, як будзе паміраць. Ну, а яшчэ што, бацюшка? Як яшчэ, святы айцец, вызначыць? А вось паглядзім, хто прыйдзе да яго ў апошнюю хвіліну, хто будзе побач з ім, калі ён будзе адыходзіць да Госпада. Таму мы вяртаемся да першага пытання: у звязку — духоўнасць, дзяржава і асабістая дзейнасць чалавека. Я памятаю такі момант, калі ў "Газеце Слонімскай" Сяргей Чыгрын надрукаваў апошнюю старонку – падборку вершаў. І так цікава было: палова старонкі – вершы Лойкі, а палова – мае. І вось два апынуліся здымкі нашыя. І калі я бачыў кожны раз гэтую газету дзесьці на стале ў літаратараў, я з ганарлівасцю думаў: во, бачыш, як мае вершы чытаюць усе. А потым толькі я зразумеў, што мне проста было за гонар друкавацца побач з такім чалавекам. Але вось Гасподзь мне дорыць такую мажлівасць… Вось так да нас Гасподзь набліжае тых людзей, якія нам блізкія па духу. Бо ж трэба было апынуцца побач на адной старонцы – гэта воля і рэдактара, гэта і воля Божая. Я калі чуў ад цябе, як яго адпявалі: і Ўладыка Веніямін прысутнічаў, і ён вёў гэтую службу на адыход яго душы, мне было спакойна. Па-першае, што беларускамоўны святар, што чалавек вельмі адукаваны. Я разглядаю асобу Лойкі, які ў свой час займаў і пасады дзяржаўныя, і ўзнагароды атрымліваў, ён прайшоў, так бы мовіць, усе гэтыя прыступачкі ўладныя. Але ж вось фінал і завяршальны акорд, як пісаў інак Мікалай, "вырашальныя хвілі апошнія", вось яны і сведчаць аб тым, што душа прынята Госпадам, што яна ім прытулена, што душа гэтая яму да ласкі яго, да любові. Мы казалі аб смерці чалавека, літаратара, аб яго спадчыне, мы казалі аб Караткевічаўскай спадчыне і Лойкаўскай, як яны пераплялісія ў адзін ланцужок. Вось у нас ёсць такая тэхналогія палімерных нітак. Адна нітачка, яна мае толькі памер сотню мікрон, гэта параўнальна з чалавечым воласам.*

*І вось такіх нітачак пераплятаецца шмат сотняў. І атрымліваецца такі дроцік, які па моцнасці сваёй, па сваёй трываласці параўнальны са стальным. І зараз існуе тэхналогія, хлопцы мае калегі яе распрацоўваюць, яны прыходзілі да мяне і прасілі, каб я ўзначаліў навуковы накірунак гэтай працы. І яны наразаюць вось з гэтых дроцікаў кавалкі, і цвікі робяць з іх. І забіваюць у сцяну. Вось табе сто мікрон нябачнай нітачкі. Вось табе што ў выніку, калі яны пераплеценыя і яны з'яднаныя. Я думаю лепшага вобразу і не трэба. Так і грамадства літаратурнае нашае, культурніцкае, асветніцкае — яно таксама павінна мець упэўненасць і перакананасць у тым, што калі ты і займаеш гэтых дзесяць мікрон, а можа і менш, ці трохі болей, то ў супольнасці гэта будзе такі цвік, на які будзе мацавацца наш сцяг, наш герб, наша карта Беларусі. І трэба проста верыць, трэба рабіць справу. А каму Гасподзь дасць сплесці гэтую касу, сплесці гэты цвічок, які выканае сваю ролю, то гэтага мы не ведаем, гэта роля грамадскага лідара, грамадскага дзеяча. Але я ведаю, што ёсць такія людзі. І мне вельмі прыемна, што ў нас гартуецца гэты матэрыял, гэтыя нітачкі, яны існуюць. І прыйдзе час, яны сплятуцца ў вельмі цудоўны ўзор пад назвай* В о л ь н а я Б е л а р у с ь.

**Змест**

*Аўтары кніжкі выказваюць падзяку супрацоўнікам ЗАТ “Заходні праект” і яго дырэктару Сяргею Мікалаевічу Лагуну за дапамогу ў выданні гэтай кнігі.*




Літаратурна-мастацкае выданне

Алесь Клышка
Інак Мікалай

# Жыровіцкая пастараль

*Рэдактар Сяргей Чыгрын*
*Карэктар і камп’ютэрны набор Вольгі Літвіновіч*
*Вёрстка Перагуд Л. Д.*

Падпісана да друку 09.11.2012. Фармат 84х100/32.
Друк афсетны. Папера афсетная.
Улік.- выд.арк. 5,5. Ум. друк. арк. 5,8.
Наклад 500 ас. Замова 198.

Выдавец і паліграфічнае выкананне ТАА «Смэлтак»
ЛВ № 02330/0494046 ад 03.05.2008.
ЛП № 02330/0494212 ад 03.04.2009.
Вул. Радыяльная, 36, 220070, Мінск.